# БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК

**ГАЛОЎНАЕ Ў НУМАРЫ:**



ЛІПЕНЬ 1934 г.

13

журнал ЦК КП(б)Б

Выдавецтва ЦК КП(б)Б газ. „Звязда"

# АБ УСЕБЕЛАРУСКІМ З'ЕЗДЗЕ РАБСЕЛЬКОРАЎ

## ПАСТАНОВА БЮРО ЦК КП(б)Б

Надаючы асабліва вялікае значэнне рабселькораўскаму руху і нізавому друку ў барацьбе за ажыццяўленне рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б, бюро ЦК лічыць неабходным склікаць у кастрычніку 1934 года Усебеларускі з'езд рабселькораў і рэдактароў насценгазет прадпрыемстваў, соўгасаў і МТС.

Прадвызначыць наступны парадак дня з'езда:

1. Вынікі барацьбы за выкананне рашэнняў XVII з'езда ВКП(б), XV з'езда КП(б)Б і далейшыя задачы рабселькораў. (Даклад ЦК КП(б)Б).

2. Задачы друку ў галіне кіраўніцтва рабселькорамі і рэагаванне на пісьмы працоўных. Дакладчык т. ЛЕНЦНЕР.

3. Вынікі 1934 сельска-гаспадарчага года і пытанні ўздыму жывёлагадоўлі. Дакладчык т. БЕНЕК.

4. Задачы рабселькораў у барацьбе за якасныя і колькасныя паказальнікі ў выкананні промфінплана. Дакладчык т. БАЛЦІН.

Лічыць мэтазгодным арганізаваць на з'ездзе секцыі:

а) па ільну і каноплях (кіраўнікі т. т. ЛЕНЦНЕР, ВАЙНОВІЧ); б) па жывёлагадоўлі (т. т. СТРЭЛЕ, ШАСТАКОЎ); в) па соўгасах (т. т. Жолудаў, Лебедзеў); г) па прамысловасці (т. т. БАЛЦІН, ХЕЙФЕЦ); д) па транспарту (т. т. ГОТФРЫД, ДЖЭЛЮК).

Склад з'езда вызначыць у 400 чал.——250 рабселькораў, 100 рэдактароў насценгазет, 20 рэдактароў шматтыражак, 15 рэдактароў палітаддзельскіх і 15 рэдактароў раённых газет.

Лічачы падрыхтоўчую работу да з'езда рабселькораў справай усёй КП(б)Б, бюро ЦК пастанаўляе:

1. Прапанаваць горрайкомам, палітаддзелам МТС і соўгасаў правесці з 21 ліпеня па 1 кастрычніка агляд нізавога друку пад кутом погляду ўзмацнення работы рабселькораў у барацьбе за рэалізацыю рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і наступных пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б па пытаннях сельскай гаспадаркі, прамысловасці, апалу і т. д.

Асноўным зместам агляду нізавога друку павінна быць:

а) па лініі сельскай гаспадаркі—барацьба за паспяховае правядзенне сенаўборкі, уборкі ільну, зерневых і бульбы, паспяховае выкананне ўсіх відаў загатовак і лепшыя паказальнікі па развіццю жывёлагадоўлі;

б) па лініі прамысловасці—барацьба за стопроцантнае выкананне якасных і колькасных паказальнікаў промфінплана, поўны ахоп рабочых тэхнічнай і палітычнай вучобай; лепшую падрыхтоўку да зімы.

2. Прапанаваць рэдактарам цэнтральных, раённых і палітаддзельскіх газет арганізаваць спаборніцтва сярод рабселькораў і рэдактароў насценгазет на права ўдзелу ва ўсебеларускім з'ездзе рабселькораў. Дэлегатамі на з'езд павінны выбірацца на раённых рабселькораўскіх злётах самыя лепшыя рабкоры і селькоры-ўдарнікі, якія з'яўляюцца прыкладнымі ў сваёй вытворчай рабоце, выкрываючы пры іх актыўнейшым удзеле класава-варожыя элементы, пралезшыя ў рады рабселькораў.

3. У перыяд агляду нізавога друку забяспечыць сістэматычныя заняткі рабселькораў у гуртках і семінарах пры рэдакцыях, на прадпрыемствах, у калгасах і соўгасах, з тым, каб рабкоры і селькоры-ўдарнікі былі асноўнай крыніцай фармавання кадраў газетных работнікаў.

4. Рэдакцыям газет у перыяд агляду нізавога друку ўстанавіць дакладны ўлік сваіх рабселькораў і рэдактароў насценных газет па сваіх раёнах.

Арганізаваць асвятленне на старонках друку лепшых рабселькораў-ударнікаў, лепшых нізавых газет як па сваёй рабоце, так і па падрыхтоўцы да надыходзячага з'езда.

5. Лічачы ўсё яшчэ нездавальняючым рэагаванне на заметкі рабселькораў, прапанаваць усім партарганізацыям, рэдакцыям газет і пракуратуры ўстанавіць такі парадак рэагавання, які-б забяспечыў максімальную дзейснасць рабселькораўскіх заметак, змяшчаемых як у цэнтральным, так і ў нізавым друку.

6. Кіраўніцтва падрыхтоўкай да ўсебеларускага з'езда рабселькораў ускласці на Культпроп ЦК КП(б)Б і рэдактароў цэнтральных газет. Гаспадарчыя выдаткі і абслугоўванне з'езда ўскласці на выдавецтвы цэнтральных газет.

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# Большэвіцкі друк

ЛІПЕНЬ 1934 г. № 13

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б
*Нам. адказнага рэдактара А. ЦЫПІНА*

Выходзіць 2 разы ў месяц
Адрас рэдакцыі і выдавецтва
МЕНСК, Савецкая, 63

## БОЛЬШЭВІЦКАЕ ПРЫВІТАННЕ ЦО КП(б)Б—ГАЗЕЦЕ „ЗВЯЗДА"

30 ЛІПЕНЯ — ЗНАМЯНАЛЬНАЯ ДАТА Ў ГІСТОРЫІ БОЛЬШЭВІЦКАГА ДРУКУ І РАБСЕЛЬКОРАЎСКАГА РУХУ СОВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ. 30 ЛІПЕНЯ 1934 ГОДА ВЫХОДЗІЦЬ **ПЯЦІТЫСЯЧНЫ НУМАР «ЗВЯЗДЫ»**.

ЗАЎСЁДЫ, НА ЎСІХ ЭТАПАХ БАРАЦЬБЫ ЗА СПРАВУ ПРОЛЕТАРСКАЙ РЭВОЛЮЦЫІ, ЗА СОЦЫЯЛІЗМ, —

НА ПОДСТУПАХ ДА ОКЦЯБРА, ВА ЎМОВАХ КРЫВАВАЙ РЭАКЦЫІ БУРЖУАЗНА-ПАМЕШЧЫЦКАГА ЧАСОВАГА ЎРАДА,

НА ФРАНТАХ ГРАМАДЗЯНСКАЙ ВАЙНЫ, У БАРАЦЬБЕ СУПРОЦЬ ІМПЕРЫЯЛІСТЫЧНЫХ ІНТЭРВЕНТАЎ І ІХ АГЕНТУРЫ, ЗА ДЫКТАТУРУ ПРОЛЕТАРЫЯТА, ЗА ЎЛАДУ СОВЕТАЎ,

У БАЯХ ЗА АДНАЎЛЕННЕ НАРОДНАЙ ГАСПАДАРКІ, ПЕРАД РАЗГОРНУТЫМ НАСТУПЛЕННЕМ СОЦЫЯЛІЗМА ПА ЎСЯМУ ФРОНТУ,

У ВЯЛІКІ ГІСТАРЫЧНЫ ШТУРМ ВЫШЫНЬ ПЕРШАЙ ПЯЦІГОДКІ, ЗРАБІЎШАЙ КРАІНУ СОВЕТАЎ ПЕРАДАВОЙ, ІНДУСТРЫЯЛЬНАЙ ДЗЯРЖАВАЙ,

І ЦЯПЕР, КАЛІ ЎСЕ ПРОЛЕТАРЫІ І КАЛГАСНІКІ, УСЕ ПРАЦОЎНЫЯ САЮЗА СОВЕЦКІХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК ПАД КІРАЎНІЦТВАМ ПАРТЫІ ЛЕНІНА БУДУЮЦЬ БЯСКЛАСАВАЕ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ ГРАМАДСТВА — «ЗВЯЗДА» ВЫСОКА ТРЫМАЛА І ТРЫМАЕ СЦЯГ МАРКСА—ЭНГЕЛЬСА—ЛЕНІНА—СТАЛІНА, СЦЯГ СОЦЫЯЛІЗМА.

ВЕРНАЯ ТРАДЫЦЫЯМ ЛЕНІНСКАЙ **«ПРАВДЫ»**, УЗБРОЕНАЯ ЯЕ БАГАЦЕЙШЫМ ВОПЫТАМ, «ЗВЯЗДА», ПАД КІРАЎНІЦТВАМ ЦК КП(б)Б НА ЧАЛЕ З ТАВ. **ГІКАЛО**, НЯСТОМНА МАБІЛІЗУЕ ПРОЛЕТАРЫЯЎ І ЎСІХ ПРАЦОЎНЫХ СОВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ НА ДАЛЕЙШАЕ ЎМАЦАВАННЕ НАШАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РАДЗІМЫ—СССР, НА БАРАЦЬБУ ЗА ПАСПЯХОВАЕ ВЫКАНАННЕ СУСВЕТНА-ГІСТАРЫЧНЫХ ЗАДАЧ ДРУГОЙ ПЯЦІГОДКІ, ЗА ПРОЛЕТАРСКІ ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІЗМ.

СІЛА «ЗВЯЗДЫ» Ў ТЫМ, ШТО ЯНА НЯЎХІЛЬНА ЎМАЦОЎВАЕ СВАЮ СУВЯЗЬ З МАСАМІ І АКАЗВАЕ ВЯЛІКУЮ ДАПАМОГУ РАБСЕЛЬКОРАМ, НАВУЧАЮЧЫ ІХ БЫЦЬ СТОЙКІМІ ПЕРАДАВЫМІ БАЙЦАМІ ЗА РОСКВІТ І СЛАВУ НАШАЙ ВЯЛІКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РАДЗІМЫ.

У ДЗЕНЬ ВЫХАДУ ПЯЦІТЫСЯЧНАГА НУМАРА ШЛЕМ «ЗВЯЗДЗЕ» АД ІМЯ РАБСЕЛЬКОРАЎ І НІЗАВОГА ДРУКУ СОВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ ГАРАЧАЕ БОЛЬШЭВІЦКАЕ ПРЫВІТАННЕ.

ГОРАЧА ЖАДАЕМ, КАБ «ЗВЯЗДА» РАЗАМ З УСІМ БОЛЬШЭВІЦКІМ ДРУКАМ І Ў ДАЛЕЙШЫМ «РАСЛА НЕ ПА ДНЯХ, А ПА ГАДЗІНАХ» **(І. СТАЛІН)**.

НЯХАЙ ЖЫВЕ НАША РОДНАЯ ВЯЛІКАЯ ПАРТЫЯ, ПАРТЫЯ ЛЕНІНА-СТАЛІНА, АРГАНІЗАТАР І КІРАЎНІК СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА!

НЯХАЙ ЖЫВУЦЬ РАБСЕЛЬКОРЫ «КАМАНДЗІРЫ ПРОЛЕТАРСКАЙ ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ».

**РЭДАКЦЫЯ ЖУРНАЛА.**

# Аб кантрольнай рабоце

## *ПРОФСАЮЗАЎ, КОМСАМАЛА І ДРУКУ*

**З прамовы старшыні Камісіі партыйнага кантролю пры ЦК ВКП(б) тав. Л. М. КАГАНОВІЧА на пленуме камісіі 28 чэрвеня 1934 г.**



Наш друк за апошні час ставіць шмат канкрэтных пытанняў. Яго мінусы заключаюцца ў тым, што ён часта крычыць караул не там, дзе трэба, а там, дзе трэба, ён маўчыць.

Прывяду прыклад з газетай «Снабжение, кооперация и торговля». Тав. Нодэль не дрэнны рэдактар. Ён напісаў адкрытае «грознае» пісьмо па поваду рапарта сакольніцкага райпо аб выкананні паўгадавога плана паянакаплення. У пісьме Нодэль прыводзіць вострыя факты: «За 5 месяцаў 1934 г. растраты і раскрадванні па вашаму таварыству сродкаў спажыўцоў раўняюцца 260 тыс. руб. Гэта значыць, што больш двух трэціх сабраных паёў раскрадзены жулікамі», а ўвесь вывад — «ваш рапарт не будзе надрукаван». Падумаеш, якая кара.

Газета павінна друкаваць матэрыялы з разборам, своечасова рабіць націск, там, дзе сапраўды трэба. Газета можа вельмі многае зрабіць.

Ва ўсёй нашай кантрольнай рабоце мы ўсе, у тым ліку і наш друк, павінны памятаць адно: калі бярэшся за справу, не выскаквай з сенсацыяй. Нам не патрэбны пустыя сенсацыі ні ў рабоце кантрольнага партыйнага органа, ні ў рабоце профсаюзаў, ні ў рабоце комсамола і «лёгкай кавалерыі», ні ў газеце. Не сенсацыя патрэбна, а факты, іх разбор і выпраўленне.

Вывучай справу глыбей. Калі бачыш абліčванне рабочых, прыцягні людзей, вывучы «вучоную» сістэму. Сам не справішся з гэтай справай, прыцягні ведаючых людзей. У нас ёсць свая пролетарская інтэлігенцыя. Мы стварылі яе, няхай яна дапаможа. Калі бачыш злоўжыванні, лаві за руку злоўжываючага і аднначасова бяры глыбей, бяры сістэму захоўвання на складзе, сістэму ўліку, сістэму бухгалтэрыі. Калі бачыш дрэнную якасць прадукцыі, бяры за бакі **непасрэднага** вінаўніка і аднначасова разгортвай пытанне далей і глыбей.

Ведамственны друк з'яўляецца вельмі «ведамственым». Рэдактары ведамственых газет павінны ведаць, што іх газеты не проста органы наркаматаў. Калі газеты сапраўды раскрываюць недахопы, то райкомы павінны аказаць рэдактару падтрыманне. Калі ў гэтым выпадку падтрымання не будзе, рэдактараў падтрымае ЦК. Вось чаму газеты павінны даваць разгорнутую крытыку недахопаў усіх органаў і ўстаноў «свайго» наркамата. Толькі-б матэрыял быў правераны і сур'ёзны.

У заводскім друку, які за апошнія гады шырока разгарнуўся і вырас у вялікую сілу, як гэта не дзіўна, пісьмы, заметкі і артыкулы рабочых друкуюцца на «акраіне» газеты. Платныя пастаянныя штаты раздуты, даходзяць да 22 чалавек у заводскай газеце. У заводскім друку не заўсёды добра падабраны кадры. Ёсць выпадкі, калі людзі, выгнаныя з абласных і цэнтральных газет, пападаюць у заводскія і пачынаюць запаўняць старонкі сваім матэрыялам, а рабкораўскіх пісем не друкуюць.

Гэта зусім нецярпіма. Рабочаму пісьму і заметцы павінна належаць цэнтральнае месца ў заводскай газеце. **Рабкоры** павінны рабіць газету. Ва ўсёй сваёй рабоце заводская газета павінна быць цесна звязана з «лёгкай кавалерыяй» і профсаюзнікамі-кантралёрамі і сумесна з імі кантраляваць работу заводскіх арганізацый, правяраць выкананне дырэктыў партыі і ўрада.

# Па-бальшэвіцку змагацца за рэалізацыю важнейшага рашэння партыі

Чэрвеньскі пленум ЦК ВКП(б) у сваім рашэнні «Аб паляпшэнні і развіцці жывёлагадоўлі» даў у рукі ўсёй партыі, усіх працоўных нашай соцыялістычнай краіны разгорнутую праграму практычных работ па ажыццяўленню ўказанняў т. Сталіна на 17 з'ездзе партыі аб развіцці жывёлагадоўлі.

Аказаць сапраўдную дзейсную дапамогу партыйным арганізацыям у практычным ажыццяўленні гэтай праграмы —баявая задача ўсяго нашага друку, усёй рабселькораўскай арміі.

І першай задачай кожнай раённай і палітаддзельскай газеты з'яўляецца **глыбокая прапаганда рашэнняў пленума.** Гэту прапаганду ні ў якім разе нельга абмежаваць змяшчэннем 1—2 артыкулаў у газеце. Газеты абавязаны даць рад талковых, палітычна-граматных, папулярных артыкулаў па **асобных пунктах** рашэння пленума аб жывёлагадоўчых фермах, аб задачах жывёлагадоўчых соўгасаў, аб кані, аб стварэнні моцнай кармовай базы; растлумачыць калгаснікам, рабочым соўгасаў, працоўным аднаасобнікам сутнасць і значэнне дзяржаўнага плана развіцця жывёлагадоўлі.

Асаблівую ўвагу газеты павінны звярнуць на папулярызацыю велізарнейшых льгот, дзяржаўнай дапамогі калгасам і калгаснікам па развіццю жывёлагадоўлі, устаноўленых рашэннем пленума.

Сутнасць гэтай работы заключаецца ў тым, каб кожны калгаснік зразумеў не толькі аграмаднае палітычнае і гаспадарчае значэнне паляпшэння і развіцця жывёлагадоўлі для ўсёй краіны, але і значэнне гэтай справы для свайго калгаса, каб ён бачыў, якія выгады гэта дае самім калгаснікам. Карацей кажучы, задача газет заключаецца ў тым, каб даказаць масам калгаснікаў, што развіццё і паляпшэнне калгаснай жывёлагадоўлі з'яўляецца адной з асноў «яшчэ большага ўмацавання калгасаў, умацавання ўсяго калгаснага ладу» (**МОЛАТАЎ**), адной з асноў заваявання заможнага і культурнага жыцця ўсіх калгаснікаў.

«Калгасная таварная ферма з'яўляецца лепшай формай арганізацыі калгаснай жывёлагадоўлі»—так запісана ў рашэнні пленума. Адсюль і рашэнне—перавесці ўсё аграмаджанае стада калгасаў на становішча таварных ферм, і папярэджанне ўсіх партыйных і совецкіх арганізацый аб арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні існуючых ферм, стварэнні ферм у кожным калгасе. Канкрэтныя шляхі пашырэння калгасных таварных ферм, павелічэння пагалоўя ў існуючых фермах, шляхі арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання ферм выразна вызначаны ў рашэнні пленума.

Што азначае для бальшэвіцкага друку барацьба за практычную рэалізацыю рашэнняў пленума аб калгаснай таварнай ферме?

Перш за ўсё—барацьбу за правільную арганізацыю працы на фермах, за ўмацаванне кадраў работнікаў ферм лепшымі, праверанымі калгаснікамі, якія ведаюць і любяць справу жывёлагадоўлі.

Трэба арганізаваць на старонках газет агляд калгасных таварных ферм, праверку таго, як выконваецца рашэнне пленума аб стварэнні на фермах пастаянных жывёлагадоўчых брыгад, укараненні здзельшчыны. Трэба шырока паказваць на старонках газеты арганізацыю працы на лепшых фермах, вынікі правільнай арганізацыі працы.

Трэба асабліва папулярызаваць пункт рашэння пленума аб дадатковым налічэнні да 15 проц. працадзён і натуральным прэміраванні маладняком за добрую работу, за перавыкананне плана, аб зняцці да 15 проц. працадзён за ялавасць матак, за адыход маладняка, за зніжэнне выхаду прадукцыі. Папулярызацыю гэтага пункта рашэння пле-

нума трэба будаваць на **канкрэтных прыкладах**: паказаць у газеце канкрэтных работнікаў ферм, вынікі іх работы, колькасць выпрацаваных працадзён, паказаць, **што яны атрымліваюць за сваю работу.**

А для гэтага неабходна **ўзмацніць сувязь газет з лепшымі работнікамі калгаснай жывёлагадоўлі.** Лепшыя загадчыкі ферм, брыгадзіры, ударнікі—даяркі, свінары, конюхі павінны стаць актывам газеты, яе селькорамі, на іх газеце трэба апірацца ў сваёй барацьбе за арганізацыйна - гаспадарчае ўмацаванне ферм.

Калі мы ў часе сяўбы дабіліся такога становішча, што большасць паляводчых брыгад маюць свае баявыя брыгадныя штодзёнкі, то з нізавым друкам на жывёлагадоўчых калгасных фермах справа абстаіць яшчэ дрэнна. Задача газет заключаецца зараз у тым, каб **стварыць насценгазеты на кожнай жывёлагадоўчай ферме,** зрабіць гэтыя газеты баявымі памочнікамі праўленняў калгасаў, загадчыкаў ферм, брыгадзіраў у справе карэннага паляпшэння работы ферм.

Кваліфікацыя, практычны вопыт работнікаў ферм мае надзвычай вялікае значэнне для паляпшэння работы ферм. Дапамагчы работнікам жывёлагадоўчых брыгад узняць сваю кваліфікацыю, аўладаць зоатэхнікай—абавязак газеты. Іменна газеты праз свае старонкі, праз нізавы калгасны друк, актыў селькораў павінны з'явіцца ініцыятарамі і арганізатарамі зоатэхнічнай вучобы ў саўгасах і калгасах, аказаць практычную дапамогу зоатэхнічным гурткам.

Чаму-б кожнай газеце не завесці на сваіх старонках пастаянны аддзел: **«У дапамогу брыгадзіру жывёлагадоўчай брыгады»,** у якім друкаваць зоатэхнічныя артыкулы, артыкулы аб арганізацыі працы, папулярызаваць апошнія дасягненні зоатэхнікі, даваць рэкамендацыйныя спісы літаратуры па жывёлагадоўлі, змяшчаць матэрыялы па праграме заняткаў гурткоў зоатэхнікі. Да гэтай справы можна прыцягнуць зоатэхнікаў, ветэрынарных дактароў, старых вопытных жывёлаводаў, якія ёсць у раёне.

У некаторых раёнах селькоры прыступілі да арганізацыі па ўказанню тав. **Постышэва** калгасных хат-лабараторый. Раённыя і палітаддзельскія газеты павінны аказаць селькорам у гэтай справе самую дзейную дапамогу. У хатах-лабараторыях трэба шырока паставіць вывучэнне зоатэхнікі, вопыты па кармленню, догляду, паляпшанні пароды жывёлы з тым, каб зрабіць жывёлагадоўчыя аддзелы хат-лабараторый цэнтрамі вывучэння жывёлагадоўлі.

Сур'ёзнейшыя задачы паўстаюць перад нашым друкам і селькорамі ў сувязі з падрыхтоўкай да ўвядзення дзяржаўнага плана развіцця жывёлагадоўлі. лі.

«Перад намі стаіць задача даць такі план, які быў-бы планам шырокай мабілізацыі мас для справы ўздыму жывёлагадоўлі ва ўсёй краіне»,—так паставіў пытанне тав. Молатаў у сваім артыкуле «Аб уздыме жывёлагадоўлі».

Задача раённых і палітаддзельскіх газет—пры ўдзеле калгаснага актыву, селькораў дапамагчы мясцовым партыйным і савецкім арганізацыям вывучыць усе ўмовы, магчымасці, асаблівасці кожнага сельсовета, калгаса, якія трэба ўлічыць пры распрацоўцы планавых заданняў сельсовету, калгасу па развіцці асобных відаў жывёлы.

Пытанне ліквідацыі бескароўнасці калгаснікаў, развіцця жывёлагадоўлі калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў —што тут могуць і павінны зрабіць газеты? Мала выкрываць на старонках газет людзей, якія не выконваюць планаў надзялення бескароўных калгаснікаў цёлкамі. Мала заклікаць калгаснікаў выпойваць цёлак у парадку кантрактацыі для перадачы іх бескароўным. Трэба яшчэ **матэрыяльна зацікавіць** іх у гэтай справе, **даказаць выгаднасць яе.** А для гэтага патрэбна шырока папулярызаваць ільготы, устаноўленыя пленумам ЦК для калгаснікаў, якія выпойваюць цялят у парадку кантрактацыі. І не толькі талкова расказаць аб гэтых ільготах, але і на прыкладах асобных калгаснікаў, выпойваючых цялят, паказаць, **што яны за гэта атрымліваюць.** Паказаць, колькі гэты калгаснік менш здае малака, мяса дзяржаве, колькі прыкладна хлеба, бульбы, кармоў, грошай ён атрымае на 10-15 працадзён, якія дадаткова налічваюцца калгасніку за кожнае выпаенае і перададзенае калгасу цялё.

Газеты павінны сачыць і за тым, як скарыстоўваюцца дзяржаўныя крэдыты,

адпускаемыя для набыцця цёлак, як калгаснікі, атрымаўшыя цёлак, захоўваюць, даглядаюць іх. І ўсё гэта трэба ўвязаць з прапагандай значэння пастановы партыі аб ліквідацыі бескароўнасці, з паказам, як ідзе рэалізацыя гэтай пастановы.

Уся гэта работа газет павінна мець не дзяляцкі, а **палітычны** характар.

Асабліва значэнне ў справе далейшага ўздыму жывёлагадоўлі і росту калектывізацыі мае наступны пункт пастановы пленума.

«Растлумачваючы, што ўсе жывёлагадоўчыя будынкі калгаснікаў, якія знаходзяцца на іх сядзібах і не заняты аграмаджанай жывёлай, з'яўляюцца іх уласнасцю, устанавіць, што пры ўступленні ў калгас аднаасобніка яго жывёла, за выключэннем рабочай жывёлы, а таксама гаспадарчыя будынкі, неабходныя для трымання жывёлы, не падлягаюць аграмаджанню».

Гэты пункт газеты павінны асабліва папулярызаваць сярод працоўных аднаасобнікаў, шырока скарыстаць яго ў сваёй барацьбе за далейшы рост калектывізацыі.

Зусім зразумела, што без моцнай кармовай базы немагчыма далейшае развіццё жывёлагадоўлі. У сваім рашэнні пленум ЦК вызначыў рад важнейшых мерапрыемстваў для павелічэння кармовай базы. Барацьба за праводзенне гэтых мерапрыемстваў у жыццё—важнейшы абавязак газеты. У прыватнасці, газеты павінны зараз узяць пад свой нагляд ход сенаўборкі, сіласавання, дабіцца паўсямеснага праводзення другога ўкосу, шырокага прымянення такіх кармоў, як мясакосная, крывяная, рыбная мука і т. д., стварэнне і поўнае захаванне кармовых фондаў.

Барацьба газет за паляпшэнне і развіццё жывёлагадоўлі павінна быць цесна спалучана з барацьбой за поўнае выкананне плана мясапаставак дзяржаве. Класава-варожыя, кулацкія элементы ў сваім імкненні сарваць развіццё соцыялістычнай жывёлагадоўлі, сарваць выкананне планаў мясапаставак, прабуюць процідаставіць развіццё жывёлагадоўлі мясапастаўкам.

«У корані няверна процістаўленне мясапаставак калгасаў і калгаснікаў дзяржаве развіццю жывёлагадоўлі і не толькі таму, што для працоўных нашай краіны інтарэсы совецкай дзяржавы павінны стаяць уперадзе другіх патрэб. Пры правільным падыходзе да справы праводзення мясапаставак і малака-паставак арганізацыю гэтых паставак можна і трэба зрабіць зыходным пунктам не толькі практычнага вывучэння, але і развіцця жывёлагадоўлі калгасаў і калгаснікаў»—гаворыць тав. Молатаў.

Так і павінна ставіць газета пытанне перад калгасамі і калгаснікамі.

Пленум ЦК абавязаў усе партыйныя і совецкія арганізацыі, усіх комуністаў сур'ёзна ўзяцца за аўладанне тэхнікай жывёлагадоўлі. У першую чаргу за вывучэнне тэхнікі жывёлагадоўлі павінны ўзяцца работнікі друку, бо без гэтага яны не здольны будуць весці барацьбу за развіццё жывёлагадоўлі так, як патрабуе гэтага партыя.

Работнікі газеты абавязаны ведаць і як трэба даглядаць жывёлу, ведаць асаблівасці і якасці кожнага віду кармоў, хваробы жывёлы, як іх папярэджваць і лячыць. Пры кожнай газеце трэба арганізаваць гурток па вывучэнню тэхнікі жывёлагадоўлі. Работнікі газеты абавязаны сачыць за ўсімі апошнімі дасягненнямі зоатэхнікі, чытаць зоатэхнічную літаратуру.

Зоатэхнічнай вучобай неабходна ахапіць усіх работнікаў нізавых газет, селькораў. Апрача таго, што селькоры павінны ў першую чаргу займацца ў калгасных зоатэхнічных гуртках, газеты павінны арганізаваць **спецыяльную вучобу селькораў і членаў рэдкалегій насценгазет калгасных таварных ферм** арганізаваць для іх кароткатэрміновыя курсы—семінары па пытаннях жывёлагадоўлі, **кансультацыю ў газеце** па гэтых пытаннях.

У кастрычніку склікаецца трэці ўсебеларускі з'езд селькораў. Падрыхтоўка да гэтага з'езда, разгортванне спаборніцтва нізавых газет і селькораў на права ўдзелу ў з'ездзе трэба скарыстаць для мабілізацыі селькораў і нізавога друку на большэвіцкую барацьбу за рэалізацыю рашэнняў пленума ЦК ВКП(б). **Баявая работа нізавога друку і селькораў па паляпшэнню і развіццю жывёлагадоўлі павінна быць пастаўлена адной з асноўных умоў права ўдзельнічаць у рабоце ўсебеларускага з'езда селькораў.**

## Агляды друку

# За глыбокую, сур'ёзную перабудову

БОЛЬШЭВІК БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Пасля ліквідацыі аддзелаў у райкомах інструктар стаў цэнтральнай фігурай раённага партыйнага апарата.

Інструктары Барысаўскага райкома КП(б)Б тт. **Літвішка, Дзіменштэйн** і **Ульяновіч** з першых-жа дзён сваёй работы сустрэліся з неразуменнем паасобнымі комуністамі важнасці перабудовы партработы, са спробамі ігнаравання інструктара. Яны выступілі па гэтаму пытанню на старонках барысаўскай раённай газеты.

> **«Ёсць члены партыі, як напрыклад Рэмізаў — старшыня райсаюза і інш., якія лічаць патрэбным са сваімі заявамі звяртаецца прама, і абавязкова праз галаву інструктара, да сакратара райкома або яго намесніка. Ёсць і такія, якія лічаць, што іх сакратар парткома для іх не аўтарытэт і звяртаюцца праз яго галаву да інструктара, або прама ў райком, для вырашэння такіх пытанняў, якія з поспехам можна вырашыць на месцы, —**

піша «БОЛЬШЭВІК БАРЫСАЎШЧЫНЫ».

У такой пастаноўцы пытання газета мае рацыю, паколькі гутарка ідзе аб старых звычаях некаторых комуністаў —абіваць парогі ў райкоме і адседжвацца там цэлымі днямі на ўсякіх дробязных справах.

Спыненне лішніх хаджэнняў у райком па пытаннях, якія лёгка можна вырашыць на месцы пры дапамозе інструктара РК, вельмі ў многім залежыць ад таго, як паставіць сябе інструктар на рабоце. На гэта ў гутарцы з інструктарамі сакратар Барысаўскага райкома тав. **ЧАРНЫШОЎ** даў вычарпальны адказ:

> **«Кожны, хто будзе ігнараваць інструктара, сустрэне належны адпор... Але галоўнае залежыць ад самога інструктара, ад яго ўмення працаваць».**

І барысаўская газета аддае шмат увагі паказу работы інструктароў.

Не ў прыклад многім раённым газетам «Бальшэвік Барысаўшчыны» не абмяжоўвае асвятленне перабудовы партработы толькі паказам работы інструктароў райкома. На старонках газеты шырока асвятляецца работа **ўсіх звенняў** партыйнай арганізацыі. Інструктар райкома, сакратары парткомаў, парторгі і радавыя комуністы ў сваіх допісах у газету паказваюць, як партыйная арганізацыя Барысаўшчыны змагаецца на розных участках за практычнае ажыццяўленне пастаноў XVII з'езда партыі.

Пакажам гэта на некаторых прыкладах.

Інструктар РК т. **Аўруцэвіч** на старонках газеты расказаў, як ён працуе з парторгамі і комуністамі адзіночкамі ў калгасах. Для абмену вопытам работы і распрацоўкі канкрэтных мерапрыемстваў па правядзенню чарговых гаспадарча-палітычных задач ён раз у месяц склікае сходы комуністаў-адзіночак.

«Большэвік Барысаўшчыны» перыядычна асвятляе падрыхтоўку і правядзенне партдзён па важнейшых пытаннях.

Перадавым сельсоветам, заваяваўшым пяршынства ў спаборніцтве па выкананню сельска-гаспадарчых работ, газета адводзіць старонкі, шырока паказваючы вопыт іх работы. Баранскі сельсовет, напрыклад, на працягу раду апошніх год ніколі не выконваў плану сяўбы. Сёлета гэты сельсовет першым у раёне скончыў сяўбу. У старонцы, прысвечанай Баранскаму сельсовету, газета паказала, якое значэн-

не мае правільная расстаноўка партыйных сіл і сістэматычная работа з беспартыйным актывам.

У сувязі з пастаноўкай на пленуме райкома КП(б)Б пытання аб перабудове партработы на вытворчасці «Большэвік Барысаўшчыны» арганізаваў паласу, прысвечаную рабоце пярвічных партарганізацый на прадпрыемствах. У артыкуле «Аб чым я буду дакладваць на пленуме РК» парторг здымальнага цэха фабрыкі «Пролетарская перамога» тав. **ЛАБАНОЎСКАЯ** расказала, як комуністы выконваюць партыйныя і грамадскія нагрузкі, як яны працуюць над павышэннем свайго ідэалагічнага ўзроўню, праводзяць выхаваўчую работу сярод беспартыйных. У асобных допісах гэтай старонкі завострана ўвага на слабай рабоце са спачуваючымі і іншых недахопах.

Папулярызуючы лепшыя ўзоры работы, паказваючы на недахопы і шляхі іх ліквідацыі, газета дабіваецца, каб кожны партыец на даручаным яму ўчастку работы стаў сапраўдным важаком беспартыйных мас.

> **«Ведаць важнейшыя арганізацыйныя і палітычныя рашэнні партыі, умець растлумачваць масам палітыку партыі, мабілізаваць рабочых, калгаснікаў на іх выкананне, умець выкрываць ідэалогіі, варожыя комуністычнай партыі — з'яўляецца пярвейшым абавязкам комуніста і ў першую чаргу партыйнага арганізатара, кіраўніка пярвічнай партарганізацыі», —**

піша газета.

Не агульнымі разважаннямі аб абавязках комуністаў «Большэвік Барысаўшчыны» дабіваецца павышэння авангарднай ролі партыйца, а на канкрэтных людзях, на паказе выканання дырэктыў партыі, аддаючы галоўную ўвагу рабоце нізавых партзвенняў.

Шырокі абмен вопытам работы парторгаў газета арганізавала праз адкрытую на сваіх старонках **«ТРЫБУНУ ПАРТОРГА».** У асвятленні вопыта работы парторгаў прымаюць актыўны ўдзел самі парторгі, многія сакратары парткомаў і інструктары РК.

Арганізаваная газетай пераклічка парторгаў паказала, што там, дзе правільна зразумелі значэнне перабудовы, перабудаваліся не па форме, а па сутнасці, там значна павышана актыўнасць комуністаў у партыйным жыцці, умацавана партыйная дысцыпліна, узнята на вышэйшую ступень авангардная роля комуністаў.

> **«НА КОЖНЫМ ЗАВОДЗЕ — гаворыць з «Трыбуны парторга» сакратар парткома лесазавода імя т. Молатава тав. Зархін — МЕЛАСЯ НЕ МАЛА КОМУНІСТАЎ-ДОБРЫХ УДАРНІКАЎ, ЯКІЯ НІКОЛІ НЕ ВЫСТУПАЛІ НА ПАРТЫЙНЫХ СХОДАХ, НЕ ПРЫМАЛІ ЎДЗЕЛУ Ў ПАРТЫЙНЫМ ЖЫЦЦІ».**

Такіх таварышоў выклікалі ў партком, гутарылі з імі ў таварыскай абстаноўцы, прымацавалі да іх больш актыўных партыйцаў і на чарговых сходах партгрупп заслухалі даклады адстаючых аб выкананні імі другога пункта статута партыі.

Гэта мерапрыемства дапамагло значна актывізаваць адстаючых у партыйным жыцці.

Але няма, як кажуць, і кепскага без дабра. Партком дрэваапрацоўчага камбіната «Комінтэрн» таксама заняўся вывучэннем прычын слабай актыўнасці некаторых комуністаў у партжыцці. Склікалі такіх таварышоў, назваўшы гэта сходам маўчальнікаў. «Большэвік Барысаўшчыны» асвятліў гэты сход пад інтрыгуючым загалоўкам **«Маўчальнікі** адчытваюцца».

Паслухаем аднаго найбольш «злоснага» маўчальніка т. **Райхельсона,** якога газета выставіла першым у сваім артыкуле:

> **«Усе вытворчыя заданні я выконваю на 100 проц., з'яўляюся ўдарнікам. Малапісьменны я, але сістэматычна наведваю лікбез. Са статутам партыі я азнаёміўся ў школе. Палітэкзамен па дакладу т. Сталіна здаў. Партузносы плачу акуратна. З беспартыйнымі праводжу гутаркі —**

заяўляе т. Райхельсон («Большэвік Барысаўшчыны», № 89).

Пасля такой заявы напрошваецца пытанне, чаму-ж тав. Райхельсона залічылі ў пасіў, за што прыклеілі яму ярлык «маўчальніка? На гэта пытанне знаходзім у «Большэвіку Барысаўшчыны» не двузначны, а прамы адказ. Газета ратуе за тое, каб

**«Маўчальнікі» выклікалі адзін другога на спаборніцтва па лепшай падрыхтоўцы к выступленням на сходах»**

(«Большэвік Барысаўшчыны», № 145).

Лозунг ясны—пабольш гаварыльні на сходах у парадку спаборніцтва. І тады не будзеш лічыцца ў ганебных спісах «маўчальнікаў». Замест таго, каб рэзка асудзіць гульню ў спаборніцтва на колькасць выступленняў на сходах, замест таго, каб паказаць нікчэмнасць трафарэтных «палітнарадаў», якія шырока практыкуюцца парткомам Бярэзінскага камбіната, «Большэвік Барысаўшчыны» штампуе іх, лічачы гэта за новыя карысныя метады работы. Трэба-ж разумець, што не ўсякае «новшество» апраўдвае сябе. У асвятленні перабудовы партработы патрэбна асабліва глыбокая ўдумлівасць і сур'ёзнасць.

# На пазіцыях „нейтральнасці"

## Звязда на рубяжы

**Дрысенскі раён** уступіў у веснавую сяўбу пры наяўнасці 60 проц. калектывізаваных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Раённыя кіруючыя арганізацыі, захапіўшыся гэтымі паказальнікамі, зусім забыліся на 3386 аднаасобных гаспадарак. І толькі ў сувязі з пастановай ЦК КП(б)Б аб падрыхтоўцы да сяўбы аднаасобнікаў па Гомельскаму і Магілёўскаму раёнах пра аднаасобніка ўспомнілі і ў Дрысе.

4 красавіка бюро Дрысенскага райкома партыі канстатавала абураючыя факты злачыннага ігнаравання аднаасобнікаў, адсутнасць масавай работы ў пядзе сельсоветаў (Жоўнінскі, Дзёрнавіцкі, Цястаўскі, Юзэфаўскі, Каркалецкі). У той час, калі палявыя работы былі ў самым разгары і асобныя калгасы ўжо канчалі сяўбу ранніх яравых, аднаасобнікі ў многіх сельсоветах навал не ведалі дзе сеяць.

Раённая газета **«Звязда на рубяжы»** ў пытанні работы сярод аднаасобнікаў захоўвала нейтралітэт. 15 красавіка «Звязда на рубяжы» ўпершыню аўтарытэтна заявіла «ігнараванне аднаасобніка працягваецца», пацвердзіўшы гэта фактамі, адзначанымі ўжо за дэкаду да гэтага ў пастанове райкома.

Былі факты трывожныя. У Каркалецкім сельсовеце, як пісала газета

**«аднаасобнікі вёсак Пэддуб'е, Самакэўшчына, Мінкі, Філіпоўшчына, выпрошваючы зямлю, пазбівалі парогі ў сельсовеце. Яны ўжо не раз звярталіся ў райзэ, але нічога не дабіліся. Таму яны не прынялі плана кантрактацыі па ільну і абавязацельстваў па збожжаздачы з ураджаю 1934 года».**

З такіх фактаў газета робіць агульны, нікога ні да чога не абавязваючы, вывад:

**«Патрэбна зараз-жа змяніць адносіны да аднаасобнікаў».**

Аднак, адносіны да аднаасобнікаў самой газеты заставаліся ранейшыя. Мабілізацыю працоўных аднаасобнікаў на выкананне планаў веснавой сяўбы газета абмяжавала змяшчэннем 4-5 інфармацыйных заметак.

На працягу ўсёй пасеўнай кампаніі ні слова не сказала яна аб задачах арганізацыі новага калгаснага прыліву, у той час, калі гэта справа ў раёне пушчана на самацёк. Праўда, за мінулае паўгоддзе ў калгасы Дрысенскага раёна ўступіла 131 гаспадарка, але за гэты-ж перыяд колькасць калектывізаваных гаспадарак у раёне зменшылася з 60 да 57,8 проц.

Ні раённыя кіруючыя арганізацыі, ні газета не заняліся вывучэннем прычын такога з'явішча. У райкоме і райзямаддзеле толькі і ведаюць тое, што статыстык Красоўскі выкруціць на арыфмометры.

Арыфмометр паказвае:

200 гаспадарак выехала з раёнаў у няпланавым парадку на Украіну.

95 гаспадарак зняты з ліку калгаснікаў (настаўнікі і іншыя служачыя).

28 вычышчана з калгасаў.

8 выключана за парушэнне статута.

30 вышла з калгасаў.

Ні стыхійныя выезды з раёна сотняў калгасных сямей, ні выпадкі выхадаў з

калгасаў не выклікалі асаблівай трывогі раённага кіраўніцтва. Зусім не зацікавілася выхадамі з калгасаў і «Звязда на рубяжы».

Выхады з калгасаў зараз хоць і адзінкавыя, але яны сігналізуюць аб недастатковай увазе мясцовых арганізацый да пытанняў арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў і барацьбы супроць кулацкіх элементаў, якія імкнуцца ўзяць пад свой уплыў найбольш адсталую частку калгаснікаў.

У Дрысенскім раёне ёсць выпадкі фармальна-бюракратычных адносін да ачысткі калгасаў ад класава-варожых элементаў. З асобных калгасаў зусім беспадстаўна выключалі добрасумленных калгаснікаў. Напрыклад, з калгасаў «Зорка» (Кудзінскі сельсовет) і «Спартак» (Цястоўскі сельсовет) выключалі за тое, што прынятыя ў калгас у мінулым годзе мелі невялікую запазычанасць па насенню.

Такія выпадкі няправільнага выключэння з калгасаў параджаюць сярод калгаснікаў недаўменне і выклікаюць справядлівае нараканне.

У газету «Звязда на рубяжы» паступаюць ад калгаснікаў і аднаасобнікаў пісьмы-скаргі на няправільныя ўчынкі асобных мясцовых работнікаў. Аднак, такія лісты ў газеце не з'яўляюцца. Яшчэ горш, што **вынікі рэагавання на нязмешчаныя пісьмы таксама не друкуюцца.**

Гэтыя факты ігнаравання аднаасобніка, падмены масавай работы голым адміністраваннем, выпадкі няправільных выключэнняў з калгасаў з'яўляюцца сур'ёзнай перашкодай на шляху калектывізацыі.

Самым адстаючым па калектывізацыі ў Дрысенскім раёне з'яўляецца **Росіцкі сельсовет,** калектывізаваны толькі на 20 проц. У калгасах гэтага сельсовета вялікі недахоп рабочай сілы. А пра арганізацыю новага калгаснага прыліву ў сельсовеце не думаюць. Там гэта пытанне вырашаюць інакш. Возьмем калгас імя Дзержынскага. Кіраўніцтва гэтага калгаса не толькі нічога не зрабіла, каб уцягнуць у калгас працоўных аднаасобнікаў, але нават і не думала аб гэтым. Комсамольскі арганізатар гэтага калгаса **Свірыдовіч** пакіроўваецца ў суседні Асвейскі раён, гастралюе там па калгасах, каб пераманіць людзей у свой калгас.

**Аднак, «Звязда на рубяжы», ведаючы пра гэты факт, не палічыла патрэбным даць палітычную ацэнку дэзарганізатарскай рабоце «вярбоўшчыкаў», накшталт Свірыдовіча,** які замест арганізацыі новага калгаснага прыліву займаецца пераманьваннем калгаснікаў з другога раёна.

**Многія калгаснікі на жывых фактах калгаснага жыцця пераканаліся ў перавазе буйной калектыўнай гаспадаркі. Многія працоўныя аднаасобнікі наблізіліся да калгасаў, але дробнаўласніцкія прывычкі трымаюць іх яшчэ ў палоне.** Задача раённай газеты — **дапамагчы такім аднаасобнікам стаць цвёрда на шлях калектывізацыі.**

На самацёк спадзявацца нельга, бо ніякая справа самацёкам не вырашаецца, тым больш справа такой велізарнейшай важнасці, як калектывізацыя сельскай гаспадаркі. **Шырока паказаць у газеце работу лепшых калгасаў, даходы калгаснікаў, на канкрэтных прыкладах паказаць наколькі палепшылася жыццё сумленнага калгасніка ў параўнанні з тым, як ён жыў на аднаасобнай гаспадарцы — найважнейшы абавязак раённай газеты.**

Газета абавязана **арганізаваць саміх перадавых калгаснікаў на прапаганду калгаснага ладу.** Арганізацыя пісем калгаснікаў да сваіх суседзей—працоўных аднаасобнікаў, арганізацыя таварыскіх сустрэч калгаснікаў-ударнікаў з суседзямі аднаасобнікамі, наладжванне сустрэч, на якіх калгаснік раскажа працоўнаму аднаасобніку як ён жыве і працуе, што ён атрымаў, на якіх працоўны аднаасобнік змог-бы параўнаць сваё жыццё з жыццём свайго суседа калгасніка,—усё гэта дзейсныя формы гэтай прапаганды калгаснага ладу. І газета абавязана за гэту справу ўзяцца.

**Лічачы галоўнай і важнейшай задачай барацьбу за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, за іх большэвізацыю, газета побач з гэтым, павінна сістэматычна займацца і пытаннямі арганізацыі новага калгаснага прыліву.**

# На чале калгаснай ініцыятывы

## „За калгасы"—Пухавічы

Каса — вялікі памочнік жняяркі. Гэту ісціну зараз ахвотна паўтараюць амаль усе раённыя газеты. Рэдка можна знайсці рэдакцыю, якая-б цяпер не галасавала за шырокае выкарыстанне кос на ўборцы зернавых.

Але ўся бяда ў тым, што многія раённыя газеты абмяжоўваюцца толькі агульнымі разважаннямі: убірайце зернавыя косамі, вылучайце касцоў і т. д.

ЯК практычна ажыццёвіць гэту вялікую справу, паказаць, што канкрэтна робіцца ў раёне, каб забяспечыць шырокае выкарыстанне кос на ўборцы зернавых, навучыць калгасы правільна выкарыстаць косы, каб не было ніякіх страт — вось што важна і вось чаго яшчэ няма на старонках многіх раённых і палітаддзельскіх газет БССР.

Гэтага нельга сказаць пра рэдакцыю пухавіцкай раённай газеты «ЗА КАЛГАСЫ».

Газета з дапамогай выязной рэдакцыі «ЗВЯЗДЫ» ўзначаліла калгасную ініцыятыву, не на словах, а на справе мабілізуе калгасныя масы на выкарыстанне кос пры ўборцы зернавых, вучыць калгасы, як арганізаваць работу, паказвае на канкрэтных прыкладах усю выгаду касьбы зернавых.

Тав. **КАНЦАВЕНКА** — старшыня передавога ў раёне калгаса **«ДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ БССР»** парашыў, каб паскорыць жніво, ПЕРААБСТАЛЯВАЦЬ КАСІЛКУ Ў ЖНЯЯРКУ. Гэта не асталося толькі думкай. Сваю смелую ініцыятыву тав. Канцавенка давёў да канца.

Сур'ёзную, дзелавую дапамогу яму аказалі выязная рэдакцыя «Звязды» і рэдакцыя раённай газеты «За калгасы».

7 ліпеня аб'яднаная газета двух рэдакцый вышла са спецыяльнымі матэрыяламі аб рабоце тав. Канцавенка над пераабсталяваннем касілкі (маркі Першамайскага завода).

— Касілка будзе перароблена ў жняярку, — заяўляе газета і тут-жа паказвае, як тав. Канцавенка думае ажыццёвіць сваю думку:

**«... трэба падняць рэзальны апарат і прырабіць стол. 4 ліпеня тав. Канцавенка прыступіў да работы, а сёння, 7 ліпеня мяркуе яе закончыць і пачаць першыя вопыты».**

Праз два дні газета ўжо не піша, што касілка БУДЗЕ перароблена ў жняярку. Слова «будзе» выкрэсліваецца па той прычыне, што «КАСІЛКА ПЕРАРОБЛЕНА Ў ЖНЯЯРКУ».

**«Сёмага ліпеня мы паведамлялі, што па ініцыятыве старшыні калгаса «ДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ БССР» тав. КАНЦАВЕНКА была пачата работа па прыстасаванню касілкі для жніва зернавых.**

**ГЭТА РАБОТА ПРАВЕДЗЕНА З ПОСПЕХАМ. Каваль калгаса ЮР. АСТАПЧЫК пад кіраўніцтвам тав. Канцавенка падняў рэзальны апарат у касілцы, прырабіў стол і другое сядзенне для работніка, які будзе скідваць са стала зжатае збожжа. КАСІЛКА БУДЗЕ ПРАЦАВАЦЬ ПА ПРЫНЦЫПУ ЛАБАГРЭЙКІ.**

**ПЕРШЫЯ ВОПЫТЫ НА ЖНІВЕ ДАЛІ ДОБРЫЯ РЭЗУЛЬТАТЫ. КАСІЛКАЙ МОЖНА ЗЖАЦЬ 3—3,5 ГЕКТАРА ЗА ДЗЕНЬ».**

12 ліпеня ў раёне адбывалася нарада старшынь сельсаветаў і калгасаў. Удзельнікі нарады вышлі ў поле глядзець, як сенакасілка, перароблена ў жняярку па ўказаннях тав. Канцавенка, жала авёс.

Газета шырока паведамляе аб рэзультатах, поўнасцю апраўдаўшых ініцыятыву тав. Канцавенка. Пухавіцкі райвыканком прэміруе тт. Канцавенка і Астапчыка і абавязвае ўсіх старшынь сельсоветаў і калгасаў і дырэктароў соўгасаў неадкладна прыстасаваць усе наяўныя сенакасілкі для жніва.

Газета, падлічыўшы матчымасці раёна, дае канкрэтны і мабілізуючы лозунг:

**«97 касілак пусціць на жніво зернавых».**

Тут-жа змяшчаецца артыкул тав. Канцавенка «Раю ўсім калгасам перарабіць касілку для жніва». У сваім артыкуле ён расказвае, як трэба пераабсталяваць сенакасілку і якую выгаду дасць гэта справа. У калгасе «Дзесяцігоддзе БССР» касілка на жніве ЗНАЧНА З'ЭКАНОМІЦЬ РАБОЧУЮ СІЛУ І ЗАМЕНІЦЬ 30 КОНЕЙ.

Раённым і палітаддзельскім газетам трэба пераняць вопыт гэтай апаратыўнай работы, умела пачатай, умела, пабаявому разгорнутай, даўшай канкрэтныя і важныя рэзультаты.

Прыклад пухавіцкай газеты красамоўна паказвае, якія вялікія справы можна рабіць, калі своечасова выяўляць і падхапляць калгасную ініцыятыву, калі на справе па-большэвіцку ўзначаліць творчую актыўнасць калгасных мас.

# Словы і справы шклоўскай газеты

## „ПРАМЕНЬ КОМУНІЗМА“—Шклоў

Вялікія масівы льну на Шклоўшчыне. А ўвага, якую аддае льну раённая газета **«Прамень комунізма»**, зусім малая. І калі вы ўбачыце на старонках газеты лозунг: «Асобная ўвага льну», то не думайце, што рэдакцыя сапраўды ставіць лён на першае месца, клапоціцца, каб льняныя масівы былі своечасова ўбраны, каб раён здаў дзяржаве бездакорную льнапрадукцыю.

Што гэта так, што за заявамі рэдакцыі не ідзе канкрэтная дзелавая работа, красамоўна сведчыць камплект газеты «Прамень комунізма».

15 чэрвеня рэдакцыя газеты «Прамень комунізма» змяшчае вялікі перадавы артыкул «Асобная ўвага льну». У гэтым артыкуле газета аналізуе, як Шклоўшчына рыхтуецца да ўборкі і апрацоўкі льну. Вывады рэдакцыі не ў карысць раёна. Рэдакцыі прыходзіцца карыстацца такімі даволі яснымі і рэзкімі словамі, як, напрыклад, «паўнейшы прарыў». Характарыстыка моцная, але далёка не безпадстаўная.

> **«У нашым раёне НЕ ПРЫСТУПІЛІ да падрыхтоўкі кадраў льнацерабільшчыц. Райземаддзел наогул нічога НЕ ВЕДАЕ аб планах падрыхтоўкі кадраў масавых кваліфікацый. Шклоўская МТС павінна падрыхтаваць 118 льнацерабільшчыц, а падрыхтавана... 0, трэпальшчыкаў, сушыльшчыкаў і мяльшчыкаў — 42 чал., а падрыхтавана... 0. ПАЎНЕЙШЫ ПРАРЫЎ».**

Рэдакцыя ўсё абураецца. Аказваецца, і на ўсіх іншых участках падрыхтоўкі да ўборачных работ Шклоўшчына ганебна адстае.

Прабіўшы трывогу, заклікаўшы пакончыць з «паўнейшым прарывам», мабілізаваць усе сілы, аддаць льну асаблівую ўвагу, рэдакцыя газеты «Прамень комунізма» раптам сціхае. Пораху хапіла толькі на адзін перадавы артыкул.

Далей выходзяць нумар за нумарам, мінаюць тыдзень, два, тры, месяц, а аб тым, як у раёне рыхтуюцца да ўборкі і апрацоўкі льну рэдакцыя амаль не ўспамінае.

Пасля 15 чэрвеня і да канца месяца вышла шэсць чарговых нумароў газеты «Прамень комунізма».

Што ў гэтых нумарах ёсць аб падрыхтоўцы да ўборкі льну ў раёне? Па сутнасці нічога. Некалькі стандартных па зместу заметак плюс зводка аб ходзе праполкі льну. Заметкі будуюцца па цвёрда ўстаноўленаму трафарэту. У заметку аб якім-небудзь калгасе проста ўстаўляецца абзац: «тут лён не ў пашане», або наадварот. Вось і ўсё...

У матэрыялах аб Чарнянскім сельсовеце рэдакцыя мімаходам адзначае:

> **«Вядучая культура — лён у сельсовеце не ў пашане».**

У матэрыялы аб калгасе «Трынаццацігоддзе Окцябра» ўстаўляецца тая-ж стандартная фраза:

> **«Тут лён не ў пашане».**

І так за два тыдні — з 15 па 1 ліпеня — газета змясціла ўсяго некалькі (можна пералічыць на пальцах адной рукі) невялікіх заметак аб льне, шаблонных, бяззубых заметак, дзе рэдакцыя толькі бездапаможна скардзіцца, што «тут лён не ў пашане», што «безумоўна пры такой рабоце правалім усе гаспадарча-палітычныя кампаніі».

За два тыдні — ні слова аб тым, якжа ліквідуецца «паўнейшы прарыў», як ідзе падрыхтоўка кадраў для ўборкі і апрацоўкі льну, як раён рыхтуецца да машыннай льнаўборкі. Ні радка аб тым, што робяць кіруючыя раённыя арганізацыі, каб забяспечыць поўную падрыхтаванасць Шклоўшчыны да льнаўборачных работ.

Няўжо-ж у «паўнейшым прарыве» вінаваты толькі паасобныя сельсоветы і праўленні калгасаў? Рэдакцыя не хоча разгарнуць большавіцкую самакрытыку не зважаючы на асобы. Яна імкнецца замазаць, затушаваць сапраўднае становішча ў раёне, забыўшы аб тым, пра што сама гаварыла ў сваім перадавым артыкуле «Асобная ўвага ільну».

Наступныя два тыдні не прынеслі істотных змен. І ў першай палове ліпеня, у гэты адказнейшы час, калі паасобныя калгасы ўжо разгарнулі церабленне ільну выбарачным парадкам, рэдакцыя прадаўжае маўчаць. Маўчыць не ў літаральным сэнсе гэтага слова, а па сутнасці справы, маўчыць аб тым, як падрыхтавана Шклоўшчына да ўборкі і апрацоўкі ільну.

Наогул матэрыялаў на ўборачныя тэмы шклоўская газета ў ліпені пачала змяшчаць нямала. У пяці нумарах, вышаўшых 3-13 ліпеня, кожны раз можна знайсці мінімум цэлую паласу, прысвечаную пытанням уборачных работ. Аднак, ільну ў тэтых матэрыялах адводзіцца роля пасынка.

Газета піша і аб сіласаванні, і аб сенаўборцы, і аб рамонце жнярак, і аб падрыхтоўцы да малацьбы. Няма толькі нічога аб тым, як у раёне падрыхтаваліся да масавай ільнаўборкі, апрача адной-двух заметак пра асобныя калгасы.

Як правіла, газета толькі ўспамінае слова «лён». Прачытайце артыкул газеты «Прамень комунізма» аб Н.-Брашчынскім сельсовеце, змешчаны 8 ліпеня. Артыкул пачынаецца з заўвагі, што Н.-Брашчынскі сельсовет з'яўляецца

**«адным з ільнаводчых сельсоветаў у раёне».**

Мімаволі чакаеш, што рэдакцыя дасць разгорнутую карціну падрыхтоўкі да ільнаўборкі па калгасах і аднаасобных гаспадарках гэтага сельсовета, праверыць ці гатовы яны да церablення ільну выбарачным парадкам, ці забяспечана сартаванне ільну пры церабленні і т. д. Прыходзіцца, аднак, горка і вельмі горка расчаравацца. Аб ільне ў матэрыялах па сутнасці ні радка, хіба толькі тое, што гутарка ідзе аб ільнаводчым сельсовеце. У матэрыялах можна прачытаць, як ідуць сенаўборка і сеназдача, як рамантуюцца жняяркі, калёсы і малатарні, як ачышчаюцца гумны. Забылі толькі сказаць пра лён.

Чытачу даецца права самому рабіць вывад — у пашане, ці не ў пашане лён у гэтым сельсовеце.

Такава яна асобная ўвага ільну ў разуменні рэдактара газеты «Прамень комунізма» тав. **ГЕРШМАНА.**

# „РЭКАРДСМЕНЫ" З МАЗЫРА

## „КАЛГАСНІК МАЗЫРШЧЫНЫ"

15 ліпеня «КАЛГАСНІК МАЗЫРШЧЫНЫ» радасна паведаміў:

**«Сёння, 14 ліпеня, калгас імя Леніна, Бабpоўскага сельсовета, першым у раёне здаў дзяржаве 2,5 цэнтн. добраякаснага ячменю і атрымаў прыймовую квітанцыю № 1. Калгаснікі ўзялі на сябе абавязацельства першымі ў раёне закончыць зернапастаўкі».**

Усё гэта зусім правільна за выключэннем таго месца, дзе таворыцца, што калгас імя Леніна здаў дзяржаве добраякасны ячмень.

Невядома, адкуль узяла рэдакцыя «Калгасніка Мазыршчыны», што ячмень быў добраякасным? Ці проста паверыла на слова, ці выдумала з галавы?

Правільна, аднак, тое, што ячмень быў зусім дрэнnай якасці. Кіраўнікі калгаса імя Леніна рашылі праславіць сябе першай квітанцыяй аб здачы зярна дзяржаве. Першую квітанцыю яны, праўда, атрымалі. Толькі якім шляхам? Здалі нізкаякасны, засмечаны і сыры ячмень, абы атрымаць першую квітанцыю. Людзі, карацей кажучы, пашлі на ашуканства дзяржавы, зрабілі антыкалгасную справу.

Рэдакцыя раённай газеты «Калгаснік Мазыршчыны» спакойна праштампавала манеўр «рэкардсменаў» з калгаса імя Леніна.

Ашуканствам дзяржавы рашылі заняцца кіраўнікі і некаторых іншых калгасаў. Старшыня калгаса «Совецкая Беларусь» загадаў жаць зялёны ячмень. Потым зусім нягодны, пачар-

нелы ячмень быў здан на мазырскі склад Заготзярна ў лік хлебапаставак.

У калгасе «Чырвоны жывёлавод» зжалі зялёнае жыта. А потым таксама здалі на ссыпны пункт нікуды не годнае зярно. Там прынялі: «не зручна, падумалі, не прыняць, хоць зярно і зусім дрэннай якасці». Раз першымі здаюць, значыць трэба прымаць усё, што прывозяць...

Рэдакцыі «Калгасніка Мазыршчыны» перш чым змяшчаць хвалебныя матэрыялы аб здачы зярна, зусім не цяжка было праверыць якасць гэтага зярна. Але ў рэдакцыі доўга не думалі. Даведаліся, што зярно паступіла і паспяшылі хутчэй праславіць «рэкардсменаў» поўным голасам на ўвесь раён.

Усё гэта шкоднае «рэкардсменства» выкрыла не раённая газета, а «Звязда». Рэдакцыя «Калгасніка Мазыршчыны» аказалася даволі слепаватай.

На старонках раённай газеты можна знайсці шмат матэрыялаў аб ходзе ўборачных работ і хлебапаставак. Але стыль гэтых матэрыялаў — безудзельная рэгістрацыя фактаў, бухгалтарскі падлік колькасці зжатых гектараў.

Адным з першых у раёне пачаў жніво калгас «Рухавік рэволюцыі». Прыступіўшы 10 ліпеня да ўборкі, калгас зжаў за дзень 16 гектараў зернавых.

Праз два дні «Калгаснік Мазыршчыны» дае заметку аб ходзе ўборкі ў гэтым калгасе. Яе змест: калгас зжаў 16 гектараў; да кожнай брыгады прымацавана жняярка; брыгады разбіты на звенні, паміж брыгадамі і звеннямі разгорнута соцыялістычнае спаборніцтва. Лепш за ўсіх працуюць на ўборцы звенні Д. Ярош і Д. Лявончык. Усё.

У чарговым нумары — аналагічнае паведамленне: калгас «Х з'езд советаў» пачаў уборку зернавых; да 12 ліпеня зжата 7,4 гектара жыта; уборку брыгады сустрэлі падрыхтаванымі. Кропка.

Новы нумар — справы старыя. На самым відным месцы даецца матэрыял аб калгасе імя Леніна. Калгас ставіцца ў прыклад усім калгасам Мазыршчыны. Рэдакцыя старанна замоўчвае, што кіраўнікі гэтага калгаса сталі на шлях ашуканства дзяржавы, здаўшы на загатоўчы склад зярно дрэннай якасці.

Газета, наадварот, спяшаецца і ў сваім перадавым артыкуле яшчэ раз адзначыць, што

**«калгас імя Леніна, Баброўскага сельсовета, першым у раёне здаў дзяржаве хлеб».**

Толькі мімаходам, паміж радкамі, газета коратка паведамляе, што ў паасобных калгасах дрэнна арганізаваны ўборачныя работы і няма ніякай барацьбы са стратамі ўраджаю.

Вывады напрошваюцца самі сабой. З першых дзён уборкі рэдакцыя газеты «Калгаснік Мазыршчыны» ўзяла няправільны курс. Рэдакцыя рэгіструе факты, але не мабілізуе калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў на сапраўдную барацьбу за тэмпы і якасць уборкі, за першачарговае і сумленнае выкананне абавязацельстваў перад дзяржавай.

Справа не ў тым, каб толькі паведамляць, колькі гектараў зжаў той ці іншы калгас. Нельга выязджаць на агульных фразах аб тым, што паміж брыгадамі данага калгаса разгорнута соцыялістычнае спаборніцтва. Гэта — бескарысная балбатня, гэта паказвае, што рэдакцыя не звязана непасрэдна з калгасамі, што яна не арганізуе матэрыялы, а плыве на хвалях самацёку.

Трэба паказваць, як ідуць уборачныя работы, як вядзецца барацьба са стратамі, як выконваюцца абавязацельствы перад дзяржавай.

Своечасовае і сумленнае выкананне абавязацельстваў перад дзяржавай — найважнейшая і свяшчэнная запаведзь кожнага калгаса.

Задача заключаецца ў тым, каб найхутчэй убраць ураджай і з першага абмалоту здаць дзяржаве па цвёрдых пастаўках зярно самай лепшай якасці, не дапусціць ніякіх страт пры ўборцы.

«Калгаснік Мазыршчыны» забывае пра гэту задачу. Газета штампуе шкоднейшае «рэкардсменства», закрывае вочы перад фактамі злачыннага парушэння агратэхнікі, перад фактамі злачыннага ашуканства дзяржавы.

Трэба раз назаўсёды зразумець, што ўсякае «рэкардсменства» ва ўборцы і пастаўках ёсць антыдзяржаўная, антыкалгасная справа.

З другога боку паасобныя калгасы чакаюць агульнага паспявання збожжа і не пачынаюць уборкі выбарачным парадкам.

У тым-жа самым Мазырскім раёне ў цэлым радзе калгасаў (калгасы імя

Уншліхта, імя Дзержынскага, імя Фрунзе і т. д.). не прыступілі да ўборкі выбарачным парадкам, хоць зернавыя на паасобных участках убіраць было можна.

«Калгаснік Мазыршчыны» прамаўчаў і аб гэтых фактах. Што і гаварыць — не ведае газета, што робіцца ў яе-ж раёне.

# Рэдакцыя, не ўбачыўшая збожжа ў збожжавым раёне

## „ЛЕНІНСКІ ШЛЯХ"—СЛУЦК

У рэдакцыю слуцкай газеты «ЛЕНІНСКІ ШЛЯХ» паступіла заметка аб ходзе церабленьня ільну ў калгасе «СОВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ».

Аўтар заметкі пісаў, што калгас «Совецкая Беларусь» 10 ліпеня прыступіў да церабленьня ільну. Цераблен(не), як пісаў аўтар, праходзіць з поспехам. Устаноўленыя ў калгасе нормы выпрацоўкі — 0,04 гектара — штодня перавыконваюцца. Калгас ужо выцерабіў 7 гектараў ільну ў жоўтай спеласці.

Адным словам усё добра. Нормы штодзённа перавыконваюцца. Цераблен(не) ільну праходзіць па-баявому і т. д. і т. д.

«Ленінскі шлях» поўнасцю змяшчае гэту заметку.

Але ўдумайцеся ў яе змест. У калгасе «Совецкая Беларусь» установулены нормы церабленьня ў **0,04** гектара. На каго разьлічаны гэтыя нормы? На каго бярэцца стаўка? На ЛОДЫРА, на ГУЛЬТАЯ.

Пры такіх нормах разбазарваюцца і абясцэньваюцца калгасныя працадні, зацягваюцца тэрміны церабленьня ільну.

0,10 гектара — абавязковая і зусім рэальная норма пры церабленьні ільну. Газета піша, што ў радзе калгасаў Случчыны ўдарніцы-ільнацерабільшчыцы церэбяць па **0,12** і нават больш сотых гектара ільну.

0,11 гектара — гэту норму па церабленню ільну ўстанавіў у сваіх самаабавязацельствах раённы злёт калгасніц-ударніц.

І рэдакцыя газеты «Ленінскі шлях», змясціўшы заметку аб калгасе «Совецкая Беларусь», не апынулася ў ролі звычайнага рэгістратара фактаў. «Ленінскі шлях» дае рэдакцыйную заўвагу, у якой правільна ацэньвае сапраўднае становішча ў калгасе «Совецкая Беларусь», паказвае, што змяншэнне норм выпрацоўкі на выгаду толькі гультаю і на шкоду калгаснай гаспадаркі.

Газета рашуча выступае супроць разбазарвання калгасных працадзён, патрабуючы неадкладнага скасавання злачыннa зменшаных норм выпрацоўкі ў калгасе «Совецкая Беларусь».

Рэдакцыя не ставіць на гэтым кропку. Яна правярае, ці няма надобных фактаў у іншых калгасах.

Выступленне газеты выклікае водгукі з месц. У радзе іншых калгасаў, як аказалася, таксама разбазарваюцца калгасныя працадні, змяншаюцца нормы выпрацоўкі.

У заметцы **«Разбазарваюць працадні»**, рэдакцыя сігналізуе, што ў калгасе **«Краіна Советаў»** таксама ўстанавілі зусім нізкія нормы церабленьня ільну — 0,5 гектара. Аналагічнае становішча і ў калгасе імя Карла Лібкнехта. Зменшаны нормы выпрацоўкі таксама ў калгасе «Перамога», Грэскага сельсовета.

«Ленінскі шлях» з усёй рэзкасцю выкрывае гэтыя факты, патрабуючы ўстанаўлення правільных норм, і рашуча выступае супроць тых, хто пашоў на зацягванне ўборкі, на разбазарванне і абясцэненне калгасных працадзён.

Тут-жа рэдакцыя паказвае, як на аснове соцыялістычнага спаборніцтва і правільнай арганізацыі ўборачных работ норму ў 0,10 гектара можна не толькі выканаць, але і ПЕРАВЫКАНАЦЬ.

Газета паказвае, што ў калгасе імя Розы Люксембург калгасніцы першай брыгады (брыгадзір тав. Вечар) штодзенна выцярэбліваюць па 0,12 гектара ільну. У калгасе «III Інтэрнацыянал» таксама штодзенна перавыконваецца норма ў 0,11 гектара, прынятая раённым злётам калгасніц-ударніц.

Так газета настойліва і паслядоўна змагаецца за высокую прадукцыйнасць

працы пры церабленні ільну, супроць гультаёў, лодыраў і рвачоў.

Заслуга рэдакцыі ў тым, што яна не спынілася на поўдарозе, не абмежавалася адным сігналам, а ўмела, апаратыўна вядзе далей пачатую справу, б'е прама ў цэль.

Тым больш незразумела і прыкра, што рэдакцыя газеты «Ленінскі шлях» абыходзіць маўчаннем рад іншых важнейшых пытанняў убарачнай кампаніі.

Вельмі добра, што газета шырока паставіла пытанне аб своечасовым церабленні ільну ў ранняй, жоўтай спеласці. Але хіба толькі гэта вырашае справу?

Дзіўна, чаму рэдакцыя яўна абыходзіць маўчаннем такую важнейшую рашаючую справу ў барацьбе за лён, як сартаванне ільну пры цераблецні, чаму газета зусім не змагаецца за падвойнае і патройнае цераблеиие ільну. Сваю буйную памылку рэдакцыя газеты «Ленінскі шлях» абавязана неадкладна выправіць.

Случчына — асноўны зернавы раён нашай рэспублікі. Здаецца, зусім ясна, што павінна рабіць газета. Але калі паглядзець на камплект «Ленінскага шляху», то ніяк нельга нават падумаць, што зернавыя культуры ў раёне маюць першаступеннае значэнне.

Газета ні слова не сказала аб першых урóках уборкі зернавых. Прыпамсі да 18 ліпеня на старонках «Ленінскага шляху» змяшчаліся толькі хранікёрскія заметкі ў пяць-дзесяць радкоў аб ходзе жніва ў калгасах Случчыны:

**— Калгас «Перамога» прыступіў да уборкі зернавых.**

**— Калгас імя Розы Люксембург зжаў 2 гектары ячменю.**

**— Калгас «Сталінец» зжаў 2 гектары ячменю за два дні.**

і т. д. у тым-жа стылі.

Рэдакцыя газеты «Ленінскі шлях», відаць, чакае агульнага паспявання зернавых на ўсёй плошчы. Газета праходзіць міма важнейшай дырэктывы ЦК аб уборцы ўраджаю выбарачным парадкам.

Праўда, на гэту тэму на старонках слуцкай газеты можна знайсці вялікія аншлагі і лозунгі. Рэдакцыя ў сваіх аншлагах нястомна заклікае ўбіраць зернавыя ў васковай спеласці і выбарачным парадкам. Але толькі на адных аншлагах далёка не заехаць. Трэба паказваць адразу з першых дзён работы, ЯК ІДЗЕ ГЭТА СПРАВА, аб чым рэдакцыя слуцкай газеты пакуль невядома чаму маўчыць.

# Плады штампоўшчыны

## „КАЛГАСНЫ СЦЯГ“—Камарын

Калгас «Чыстае», КАМАРЫНСКАГА РАЁНА, прыступіў да жніва яшчэ 29 чэрвеня. Рэдакцыя раённай газеты «КАЛГАСНЫ СЦЯГ» неадкладна папулярызавала пачын калгаса «Чыстае»

Цэнтральным матэрыялам чарговага нумара з'яўляецца заметка аб гэтым калгасе. Газета паведамляе, што калгас «Чыстае» за першы дзень жніва зжаў тры гектары ячменю. Калгас, паводле слоў рэдакцыі, паставіў задачу — дабіцца першай у раёне квітанцыі аб здачы дзяржаве зярна. І ў заключэнне газета падае наступнае абавязацельства калгаса «Чыстае»:

**«Калгас абавязваецца выканаць да 10 ліпеня пастаўкі жыта і ячменю».**

Запомніце даты. 29 чэрвеня калгас «Чыстае» пачынае жніво, а да 10 ліпеня калгас абавязваецца поўнасцю разлічыцца з дзяржавай і па жыту, і па ячменю. Адным словам, не ўборка, а нястрыманы кавалерыйскі галоп.

Хіба не ясна, што тут мы маем пагоню за колькасцю на шкоду якасці. Але рэдакцыя газеты «Калгасны сцяг» нічога НЕ ЗАЎВАЖЫЛА. Яна НЕ ПАДУМАЛА аб тым, як арганізавана ўборка ў калгасе «Чыстае», ці працуюць там камісіі па якасці, ці не жнуць там, у пагоні за першай квітанцыяй, зялёнае, няспелае жыта і ячмень.

Наадварот, рэдакцыя газеты «Калгасны сцяг» яўна заахвоціла «рэкардсменаў» з калгаса «Чыстае». Тым самым газета заклікае і іншыя калгасы паказаць, што і яны не лыкам шыты, што і яны майстры на «рэкорды».

Што з гэтага выходзіць — паказва-

юць першыя дні ўборкі ў калгасе «ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ», Камарынскага раёна.

Тут таксама пагналіся за колькасцю, махнуўшы рукой на якасць. Жніво ў калгасе «Інтэрнацыянал» праходзіць абыяк. На жняярках не ўстаноўлены зернаўлавіцелі. Зярно асыпаецца. На палях шмат астаецца каласоў. Але збор іх не арганізаван.

Пра гэтыя факты праз **дзевяць** дзён пасля заметкі аб калгасе «Чыстае» прышлося загаварыць самой рэдакцыі газеты «Калгасны сцяг».

Павучальны ўрок, які красамоўна паказвае, да чаго прыводзіць лёгкадумнасць, павярхоўнасць у рабоце.

Рэдакцыі камарынскай газеты даўно пара ўсвядоміць, што трэба змагацца не толькі за максімальна сціслыя тэрміны ўборкі. ГАЛОЎНАЕ на ўборцы — БАРАЦЬБА СА СТРАТАМІ, барацьба за высокія тэмпы і якасць.

# Дзве газеты—два вынікі

## ВОКА ЎДАРНІЦЫ—Менск

Тав. **Сталін** на XVII партз'ездзе сказаў «**... трэба, нарэшце, зразумець, што тавары выпрабляюцца ў апошнім выпадку не для вытворчасці, а для спажыўца**».

Наш спажывец—рабочы і калгаснік—хоча мець танную, прыгожую і высокай якасці вопратку, абутак і т. д. Разам з ростам матэрыяльнага і культурнага ўзроўню ўсё больш узрастаюць запатрабаванні працоўнага спажыўца. Вось чаму газеты і рабкоры швэйных фабрык павінны аддаваць асабліва сур'ёзную ўвагу пытанням высокай якасці прадукцыі, паляпшэння асартыменту.

Перад намі камплекты шматтыражак швэйных фабрык **«Камінтэрн» і імя Крупскай.** Кожная з іх па-свойму разумее пытанне барацьбы за якасць прадукцыі і новы асартымент.

На старонках **«Вока ўдарніцы»**—газеты фабрыкі імя Крупскай (рэдактар т. **Слесараў)**—можна знайсці многа агульных фраз аб якасці прадукцыі. 14 красавіка ў перадавой «Пакрыць прарыў» (промфінплан першага квартала фабрыкай выканан на 87,4 проц.) газета піша:

> **«Дамо краіне высокаякасную прадукцыю. Ніводнага цэха і істужкі, якая не выканала-б промфінплана за другі квартал».**

Але заклік газеты не дапамог. Промфінплан за другі квартал выканан на 74,3 проц. Паказальнікі якасці таксама не лепшыя. Вытворчы брак дасягае 1,36 проц., а ў першым цэху, якім кіруе Мацкін,—2,37 проц., у трэцім цэху—2,36 проц. Выпуск прадукцыі з масляпымі плямамі (а гэта таксама брак) дасягае 23,61 проц., чэрвень даў у паасобных цэхах рэкордныя лічбы гэтага віду браку (масляныя плямы)—43-44 проц.

Але ў шматтыражцы «Вока ўдарніцы» **за май—чэрвень мы не знаходзім ніводнага артыкула ці заметкі, якія-б паказвалі барацьбу з бракам паасобных цэхаў і брыгад, барацьбу за якасць прадукцыі, за лепшы асартымент.** 27 чэрвеня шматтыражка змясціла адказ адной з брыгад фабрыкі на сацыялістычны рахунак рабочых завода «Большэвік». У гэтым адказе рабочыя ўдарнікі ўзялі абавязак «выпускаць прадукцыю добрай якасці». Вось і ўсё. Ні выкрыцця лодыраў і бракаробаў, ні паказу лепшых ўдарнікаў у газеце не знойдзеце, ніякай масавай, арганізатарскай работы з рабкорамі, з ударнікамі фабрыкі «Вока ўдарніцы» не вядзе.

Аб шматтыражцы на фабрыцы амаль не ведаюць. Рэдактар Слесараў з рабочымі не звязан. Нізавым друкам і рабкорамі не кіруе. Шматтыражка робіцца без плана—самацёкам.

У нумары 44 ад 26 мая рэдкалегія шматтыражкі змяшчае аб'яву, што «Вока ўдарніцы» выйдзе 9 чэрвеня. Рэдкалегія просіць рабочых і работніц прыняць удзел у наступным нумары газеты. Аб'ява ёсць, значыць і матэрыял будзе,—так разважае рэдактар.

Але газета выйшла не 9, а 27 чэрвеня. Відаць «спазніліся» рабкоры падаць матэрыял рэдактару.

Але паслухаем водгукі аб газеце і яе рэдактары самых рабочых і кіраўнікоў фабрыкі:

— Наш рэдактар баіцца крытыкаваць работу адміністрацыі. Пісала я пра дрэнную якасць прадукцыі, пра сталоўку і іншыя недахопы, а заметкі мае па сённяшні дзень знаходзяцца пад замком у рэдактара,—заяўляе **Стэльмашонак.**

Дырэктар фабрыкі т. **Рапкін** гаворыць:

— Я быў-бы вельмі задаволен, калі-б шматтыражка нашай фабрыкі раскрытыкавала хоць раз нашу работу і паказала на недахопы. Гэтым яна-б нам вельмі-дапамагла. Але, на вялікі жаль, у нас на фабрыцы газета не адчуваецца. На фабрыцы зараз уведзен новы асартымент тавараў: рубашкі са складкамі, каўбойка, рубашкі з вышыўкай, з аддзелкай і рад іншых. Аднак, у пашырэнні асартыменту газета не праяўляе ініцыятывы, не аказвае дапамогі ў асваенні новых фасонаў. Фактычна газеты ў нас няма.

Апошнія словы пацвярджае і сакратар парткома тав. **Гоз.**

—Даручылі мы тав. Слесараву сабраць рэдактароў цэхавых і брыгадных газет, праінструктаваць іх. Ён гэтага не зрабіў. Запрашаем на партком—не з'яўляецца, на сходах фабрыкі, на масоўках не бывае. Ён не ведае, чым фабрыка жыве сёнешні дзень. А аб сувязі з масамі рабочых і гаварыць не прыходзіцца.

Але паўстае пытанне, што зрабіў партыйны камітэт фабрыкі і яго сакратар т. Гоз, што зрабіў дырэктар фабрыкі Рапкін, каб палепшыць работу газеты, зрабіць яе сапраўды баявым памочнікам трыкутніка ў барацьбе за промфінплан, за высокую якасць прадукцыі?

Партком дагэтуль не заняўся сур'ёзна работай газеты, не кіраваў ёю. Шматтыражка—орган парткома. За яе работу, за работу з рабкорамі адказвае партком ў першую чаргу. Не скардзіцца на тое, што газета дрэнная, што рэдактар не слухаецца парткома, а ўмацаваць рэдкалегію газеты, кіраваць яе работай абавязан партком.

## КОМІНТЭРНАВЕЦ—Віцебск

Фабрыка «Комінтэрн» план другога квартала выканала на 100 проц. У гэтым ёсць і заслуга фабрычнай шматтыражкі «Комінтэрнавец» (рэдактар **Левітан).** Вядзе газета барацьбу і за якасць прадукцыі. Пачынаючы з першага студзеня, у большасці нумароў змяшчаецца матэрыял пра якасць прадукцыі паасобных цэхаў, брыгад і рабочых.

Газета заяўляе: «Колькасць без якасці не ёсць выкананне плана». І зусім правільна яна ўказвае на недахопы работы камізэлечнай істужкі, якая ў пагоні за колькасцю дае нізкую якасць, дапускае дэфекты. «Комінтэрнавец» арганізоўвае і вядзе спаборніцтва брыгад на права насіць ганаровую назву сталінскай брыгады, вядзе барацьбу за гонар фабрычнай маркі.

Газета вядзе падрыхтоўку да канферэнцыі спажыўцоў, якія «дадуць ацэнку нашай прадукцыі».

22 чэрвеня амаль увесь нумар прысвечан пытанням якасці прадукцыі. «Комінтэрнавец» змяшчае артыкул старшага бракёра Саюзшвэйзбыта **Кольнікава,** загадчыка склада Саюзшвэйзбыта **Шлейфмана** і рад іншых.

У гэтых артыкулах паказваюцца канкрэтныя недахопы і прычыны нізкай якасці прадукцыі.

**«Ва ўсіх пінджаках завужаныя рукавы ад 1-2 сантыметраў. Ніжнія бакавыя кішэні павялічаны... Дрэнная пушоўка, нероўныя фасоны, край каўняра, ніз піджака няроўна ўшываецца...»**

— Прычыны дрэннай работы,—гаворыць «Комінтэрнавец»,—у тым, што кантралёры не займаюцца сістэматычнай праверкай выпускаемай прадукцыі.

Вялікі і асноўны недахоп газеты той, што яна часта нядрэнныя пачынанні не даводзіць да канца. Напрыклад, мы толькі з «шапкі» даведваемся, што канферэнцыя ўжо адбылася, прыняты адпаведныя рашэнні. Вельмі мала займалася газета пытаннем пашырэння асартыменту тавараў, увядзеннем новых фасонаў. Нават і пасля таго, як завод «Большэвік» прад'явіў соцыялістычны рахунак усім швэйным фабрыкам, мы не маем узмацнення барацьбы газеты за новы асартымент, за прыгожую і танную вопратку.

Чаму-б не ўзяць газеце адзін пінджак, ці поўны касцюм і прасачыць за яго пашыўкай, продажам, пагутарыць са спажыўцом, даць яго думку аб якасці гэтага касцюма. На адным-двух канкрэтных прыкладах паказаць работу асобных людзей, недахопы гэтай работы. Чаму газеце не даць паказу брыгад, цэхаў і паасобных рабочых, асвоіўшых новыя фасоны? А гэта трэба рабіць. Трэба, канкрэтызаваць барацьбу за паляпшэнне якасці, за пашырэнне асартымента фабрычнай прадукцыі.

# Па прынцыпу „Еж, што даюць“

22 дні: 6—28 мая. 11 выпускаў радыё-весніка беларускага тэлеграфнага агенцтва для раённых газет. Задачай радыё-весніка з'яўляецца: даць раённым газетам яркую і цікавую, палітычна-актуальную інфармацыю, напісаную па простай і зразумелай мове.

Па колькасных паказальніках свой, так сказаць, промфінплан Беларускае тэлеграфнае агенцтва выконвае бездакорна. Праз кожныя два дні выходзіць новы веснік міжнароднай і ўнутранай інфармацыі для раённых газет БССР.

Цяпер пра якасць. Якімі-ж матэрыяламі па міжнароднай інфармацыі снабжае агенцтва нашы раённыя газеты?

6 мая БелТА пасылае газетам дзве невялікія тэлеграмы: 1) падпісанне пратакола аб прадаўжэнні совецка-польскага пакта аб ненападзе; 2) рост партызанскага руху ў Манчжурыі.

Было-б, зразумела, куды карысней і лепш, калі-б Беларускае тэлеграфнае агенцтва не абмежавалася толькі адным паведамленнем, што «ў Маскве ў Народным камісарыяце па замежных справах адбылося падпісанне пратакола аб прадаўжэнні да канца 1945 года пакта (дагавора) аб ненападзе паміж СССР і Польшчай», а коратка растлумачыла сутнасць гэтай падзеі.

Рэдактары радыё-весніка, відаць, рашылі не загружаць сябе дадатковай работай. Прышла тэлеграма з Масквы, людзі перакладаюць яе змест на беларускую мову і... справа скончана лёгка, быстра і проста, а галоўнае, думаць не трэба. Няхай калгаснік, працоўны аднаасобнік—чытачы раённых газет самі разбіраюцца.

У наступным выпуску тая-ж карціна. Зноў толькі два тэлеграфныя паведамленні аб замежных падзеях, хоць кожны выпуск радыё-весніка складаецца мінімум з трох лістоў. І зноў Беларускае тэлеграфнае агенцтва з рэдкім стараннем сочыць, каб у выпуску радыё-весніка прынялі ўдзел толькі перакладчык і машыністка.

Адна з тэлеграм носіць загаловак «Пакт аб ненападзе амерыканскіх дзяржаў» і па традыцыі агенцтва змяшчаецца ў наступным відзе:

**«У сталіцы Аргентыны Буэнос—Айрэс у міністэрстве замежных спраў адбылося ўрачыстае падпісанне пакта (дагавора) аб ненападзе па ініцыятыве аргентынскага міністра замежных спраў Соаведра Ламас. Пакт падпісан прадстаўнікамі ЗША, Эквадора, Кубы, Сальвадора, Гватэмалы, Венецуэлы, Панамы, Нікарагуа, Гондураса, Коста-Рыко, Гаіці, а таксама Балівіі і Парагвая, паміж якімі, як вядома, вядзецца вайна за аўладанне нафтаноснай вобласцю Чако».**

І вось такія тэлеграмы адна за адной напаўняюць веснік. Яны падаюцца без усякай сістэмы, без усякіх каментарыяў і тлумачэнняў. Беларускае тэлеграфнае агенцтва, відаць, думае, што раённую газету чытае толькі кваліфікаваны чытач, які сам зразумее ў чым справа і сам выбера найбольш важнае і асноўнае з вораху тассаўскіх тэлеграм.

За дваццаць два дні Беларускае тэлеграфнае агенцтва не дало ні аднаго папулярнага міжнароднага агляду. У кожным з адзінаццаці нумароў, вышаўшых за гэты час, можна знайсці толькі па дзве, максімум па тры кароткія тэлеграмы, запоўненыя малазнаёмымі, а часта і зусім незразумелымі для калгасніка замежнымі словамі.

У Беларускае тэлеграфнае агенцтва паступае міжнародная інфармацыя, разлічаная на цэнтральны і рэспубліканскі друк. Рэдактары весніка, як відаць доўга не думаючы, бяруць наўздагад што трапіць пад руку з кучы прыбыўшых тэлеграм і пасылаюць раённым газетам. Еж, што даюць.

У нашым распараджэнні ёсць таксама чэрвеньскі камплект радыё-весніка. Ён мала чым адрозніваецца ад папярэдніх выпускаў.

Тая-ж сістэма: адна, дзве тэлеграмы, і веснік міжнароднай інфармацыі гатоў.

Зноў ні аднаго агляду па найбольш важных пытаннях і падзеях міжнароднага жыцця, калі не лічыць матэрыялаў аб жэнеўскай канферэнцыі.

Пара Беларускаму агенцтву адмовіцца ад ролі перасыльнага пункта і ад прынцыпу: еж, што даюць.

Раённая газета чакае сістэматычнай, палітычна завостранай і папулярнай міжнароднай інфармацыі.

*Р. Сімховіч.*



# Усебеларуская нарада—семінар рэдактароў газет харчовай прамысловасці

**✱ 2-га ліпеня адкрылася першая ўсебеларуская нарада-семінар газет харчовай прамысловасці, скліканая аддзелам культуры і прапаганды ленінізма ЦК КП(б)Б і газетай «Рабочий». ✱ 73 рэдактары газет харчовых прадпрыемстваў, 10 рэдактароў газет харчовых арцелей Гомеля, Віцебска, Барысава, Полацка і інш. раёнаў БССР з'ехаліся на гэту нараду. ✱ Характэрна, што з усяго складу рэдактароў-ударнікаў нарады каля 45 проц.—адміністратыўна-тэхнічныя работнікі (начальнікі цэхаў, тэхнарукі заводаў, загадчыкі лабараторый, бухгалтары і т. д.) ✱ Не дзіва, што з апаратыўнасцю гэтых газет, з рэагаваннем на пісьмы рабочых у нізавым друку харчовай прамысловасці справа зусім дрэнная. Многія рэдактары не здолелі назваць хоць некалькі заметак, на якія рэагавала кіраўніцтва прадпрыемстваў. ✱ Яшчэ горшая справа з самым выхадам насценгазет. На 34 прадпрыемствах газеты выходзяць раз у месяц, а бывае, што раз у 2-3 месяцы. ✱ Усё гэта сведчыць аб тым, што нездавальняюча кіруюць нізавым друкам і рабкорамі партыйныя арганізацыі прадпрыемстваў харчовай прамысловасці, раённыя і фабрычна-заводскія газеты. ✱ Задача заключаецца ў тым, каб цэнтральны і раённы друк БССР узяўся, нарэшце, за сапраўднае кіраўніцтва і дапамогу нізавому друку харчовай прамысловасці.**

Сур'ёзна, па-дзелавому праходзіла работа ўсебеларускай нарады-семінара рэдактароў газет харчовай прамысловасці.

У малой зале менскага клуба харчавікоў была арганізавана выстаўка цэхавых і брыгадных газет фабрыкі «Комунарка», камбіната «Спартак», хлебазаводаў і інш. харчовых прадпрыемстваў. Газеты **«Рабочий», «За пищевую индустрию»** і ўсебеларускі камітэт па агляду харчовай прамысловасці выпусцілі да нарады спецыяльны бюлетэнь **«Харчовая прамысловасць на аглядзе».**

Даклад аб задачах харчовай прамысловасці, вусныя агляды насценгазет камбіната «Спартак» (Гомель), фабрыкі «Комунарка» (Менск), арцелі «Калектыўная праца», завода імя Бебеля (Віцебск) і інш., абгаварэнне вопыта работы паасобных газет—вось змест работы нарады.

— Агляд харчовай прамысловасці ажывіў работу нізавога друку камбіната,—расказвае рэдактар насценгазеты камбіната «Спартак» т. **Шульман.** 25 брыгадных і цэхавых штодзенак і заводская газета змагаюцца за выкананне звароту ЦК ВКП(б) аб рабоце харчовай прамысловасці. Па ініцыятыве рэдактара газеты т. **Майжэс** у пернікавым цэху праведзен рэйд па праверцы санітарнага становішча цэха. Барацьба за



Гомельская дэлегацыя на нарадзе рэдактароў харчовай прамысловасці.



Газеты харчовых прадпрыемстваў на выстаўцы ў час усебеларускай нарады.

чыстату займае цэнтральнае месца ў газеце.

У ірыснай брыгадзе працаваў рабочы **Чумакоў.** Ён ігнараваў усе правілы гігіены, не наведваў тэхнічнай вучобы. Газета напісала пра яго, накіравала брыгаду рабкораў к яму на кватэру. Гэта брыгада вяла з ім работу ў цэху, дома, гутарыла з яго сям'ёй, пакуль дабілася таго, што Чумакоў стаў лепшым ударнікам, здаў экзамен па тэхмінімуму на «выдатна».

Зараз па камбінату абвешчан конкурс на лепшую цэхавую і брыгадную газету, лепшага рэдактара.

— **«Палеская праўда»** не кіруе нашымі газетамі,—скардзіцца т. Шульман.—Ні разу не было агляду нашых газет, не было практычнай дапамогі. А наш камбінат—буйнейшае ў БССР прадпрыемства. Толькі атрымаўшы паведамленне аб усебеларускай нарадзе «Палеская праўда» ўпершыню склікала нас. Мала займаецца нізавымі газетамі, выхаваннем рабкораў і партарганізацыя камбіната.

— У цэху не было вентыляцыі. Ад гарачыні псавалася прадукцыя. Напісалі аб гэтым у газету, дабіліся ўстаноўкі вентылятара. Наш цэх па санітарыі і гігіене зараз адзін з перадавых таму, што мы праз газету выкрылі недахопы ў рабоце тэхнарука, майстроў і асобных рабочых. Павялі мы барацьбу і з так званымі «зайцамі»—белымі плямамі на цукерках. Зараз «зайца» на цукерках не знойдзеш. Трэба на нарадзе заявіць, што калі-б парторг намі лепш кіраваў, насценгазета працавала-б многа лепш,—расказвае т. **Глайхенгауз,** рэдактар насценгазеты мякка-шакаладнага цэха фабрыкі «Комунарка».

Скардзіцца на слабую ўвагу і дапамогу нізавому друку і рэдактар насценгазеты бабруйскай кандытэрскай фабрыкі «Чырвоны харчавік» т. **Мінкіна.** На фабрыцы ніхто не рэагуе на матэрыялы газеты.

— Кіраўнік змены карамельнага цэха **Левіна** кідала работу і ішла спаць. У змене — сістэматычныя парушэнні працдысцыпліны. У выніку промфінплан не выконваецца. Газета патрабавала зняць лодыра з кіруючай работы, але на гэта ніхто не рэагаваў. Пра бяздзейнасць загадчыка сталоўкі Лібермана мы пішам амаль у кожным нумары, патрабуем рэагавання, а адміністрацыя нам адказвае, **«напісалі і хопіць».** Пісалі мы і аб тым, што лепшым ударніцам вытворчасці—брыгадзірам **Гісак** і **Худзложнік** дырэктар **Ігельнікаў** знізіў пенсію да 6-га разраду пасля таго, як цэх пачаў перавыконваць свой план. Ганей яны атрымлівалі па сёмаму разраду. І ўсё гэта асталося толькі напісаным—расказвае т. Мінкіна.

**«ПІШАМ НАОГУЛ... ВЫЗНАЧАЕМ ЗАДАЧЫ».**

Тав. **Рушонак** з арцелі **«Харчавік»** (Полацк) расказаў на нарадзе, што ў 1933 годзе ў арцелі насценгазета выходзіла раз у тры месяцы. Зараз па пастанове партгрупы (парторг **Маневіч**) яна выходзіць па меры накаплення матэрыяла, гэта значыць раз у месяц. На заметкі ніхто не рэагуе. Напішуць, прачытаюць—вось і ўсё. Выпуск газеты раз у месяц «па меры накаплення матэрыялаў», адсутнасць рэагавання на рабкораўскія заметкі, рэдактар Рушонак, між іншым, лічыць вялікім дасягненнем.

На слуцкім млыне «Прагрэс» працуе каля 100 рабочых. Кіраўніцтва газетай і рабкорамі з боку партарганізацыі і раённай газеты слабае,—заяўляе рэдактар **Рэзнік.** Газета выходзіць раз-два ў месяц.

— Аб чым-жа вы пішаце ў газеце? —пытаюць удзельнікі нарады.

— Пра пастановы партыі, урада, намячаем задачы...

— А пра лодыраў, пра дрэнныя адносіны да работы?

— Рабочыя ў нас працуюць усе добра, толькі машыны іншы раз нас падводзяць...

— Значыцца пішаце наогул...

— Так...

Вось яркі малюнак таго, як асобныя рэдактары зразумелі сваю работу.

У Менску на заводзе «Беларусь» газета выходзіць раз у два-тры месяцы (рэдактар **Рамановіч**), газета гомельскага хлебазавода (рэдактар **Ермакоў**), віцебскай арцелі «Калектыўная праца» (рэдактар **Зісерсон**) і рад іншых газет не ўключыліся ў агляд харчовай прамысловасці. Усё гэта—вынік адсутнас-

ці партыйнага кіраўніцтва работай нізавога друку і рабкораў, адсутнасці вучобы рэдактароў, практычнай дапамогі ім з боку раённых газет і фабрычна-заводскіх шматтыражак.

***

Праведзены на нарадзе крытычны разбор 5 насценных газет, разгорнутая гутарка («газетная палітгадзіна») па канкрэтных пытаннях работы газет, у часе якой было дана звыш 70 пытанняў аб плане газеты, «шапках», загалоўках, рэагаванні і т. д., фактычна з'явіліся першай спробай практычнай дапамогі рэдактарам газет харчовай прамысловасці.

Адна з удзельніц нарады—рэдактар цэхавай газеты фабрыкі «Комунарка» т. **Ліберман** на нарадзе ўнесла прапанову—арганізаваць такія семінары рэдактароў нізавых газет непасрэдна на прадпрыемствах. За рэалізацыю гэтай прапановы павінны ўзяцца цэнтральныя, раённыя і фабрычна-заводскія газеты, партыйныя арганізацыі прадпрыемстваў харчовай прамысловасці.



**Удзельнікі ўсебеларускай нарады рэдактароў газет харчовай прамысловасці (Менск, ф-ка «Комунарка»).**




**Адна з лепшых штодзенак на фабрыцы «Комунарка». Рэдактар штодзенкі тав. Буткевіч.**

*Юр. Белько*

# Якога агляду друку

## чакае калгасны рэдактар

Агляды калгаснага насценнага друку на старонках **сельскай** раённай газеты «**Большэвіцкі змагар** — вельмі рэдкая з'ява. На працягу двух з паловаю месяцаў (пачынаючы з 1 мая) газета надрукавала агляды толькі двух насценгазет.

Першы агляд змешчан у газеце 23-га мая пад назвай «Фіксатар фактаў». У аглядзе раённая газета абвінавачвае насценгазету калгаса імя Будзённага ў слабай барацьбе за тэмпы і якасць сяўбы, у тым, што газета займаецца выключна фіксацыяй прарыву. Выклікае сумненне тое, што рэдактар калгаснай насценгазеты наогул зразумее такія выразы, як «фіксацыя фактаў», «старонні наглядальнік». Рэдакцыя «Большэвіцкага змагара» прабуе растлумачыць калгаснаму рэдактару недахопы яго насценгазет. Вось як яна гэта робіць:

**«Замест рашучай барацьбы за ўшчыльненне рабочага дня, супроць позняга выхаду на работу, замест большэвіцкай мабілізацыі мас калгаснікаў на своечасовае і высокаякаснае правядзенне сяўбы, насценгазета стала на шлях простай фіксацыі недахопаў, ператварылася ў беспрыстраснага назіральніка».**

Гэтым высокапарным абзацам не сказана па сутнасці нічога. Рэдактар калгаснай насценгазеты так і не зразумеў у чым-жа недахоп насценгазеты, што гэта, нарэшце, такое «фіксацыя фактаў», бо раённая газета не патурбавалася падаць хоць-бы адзін факт, які-б сцвярджаў фіксацыю.

У такім-жа тоне напісан увесь агляд.

У канцы агляду даюцца «настаўленні» калгаснаму рэдактару. Зноў-жа на ўсе лады перапяваюцца словы «рашуча бічаваць», «пераключыць усе сілы», і зноў-жа ніводнага канкрэтнага, дзелавога, талковага ўказання.

У другім аглядзе «Апраўданая назва» (18 чэрвеня) рэдакцыя «Бальшэвіцкага змагара» паставіла задачу перадаць дадатны вопыт работы насценгазеты **«Барацьбіт за ўраджай»** (калгас «Шлях Леніна»). Добрую палову агляду займаюць агульныя пералічэнні дадатных якасцей насценгазеты. Аўтар агляду спяшаецца ўзнагарадзіць насценгазету рознымі лісілівымі эпітэтамі («баявая», «бальшэвіцкая» і т. д.). Нарэшце, дабіраецца да канкрэтных фактаў. У якасці непахіснага аргумента, пацвярджаючага ўзорную барацьбу насценгазеты за моцнага каня, падаецца наступная заметка:

**«Калгаснік брыгады № 1 Хамец Халімон у часе работы здзекуецца над цягавай сілай. Ён збіў прымацаваных да яго коней, якія зараз не прыгодны да работы... Брыгадзіры павінны больш пільна прыглядацца за кожным калгаснікам, працуючым на конях».**

Ці можна паданую заметку лічыць узорнай і ўказваць на яе, як на прыклад усім селькорам раёна? Па нашай думцы, не. Нельга таму, што насценгазета не зрабіла правільнага вываду з факта, які апісан у заметцы. Калгаснік збіў два кані да таго, што на іх нельга працаваць. Чым назваць гэты факт, як не шкодніцтвам? Значыць, насценгазета павінна была патрабаваць прыцягнення шкодніка да судовай адказнасці. Якраз гэтага насценгазета не зрабіла, і заметка атрымалася бяззубай, не завостранай.

Далей чытаем у аглядзе «Апраўданая назва», што газета «Барацьбіт за ўраджай» «бязлітасна бічуе лодыраў і прагульшчыкаў». Зноў аўтар агляду падае адпаведную заметку з насценгазеты:

**«Хамец Лаўрэн, Хамец Мітрафан дрэнна працуюць на полі, позна выходзяць на работу, а ў апошні час прагулялі тры дні падрад, яны цягнуць брыгаду назад, не даюць магчымасці скончыць сяўбу ў тэрмін».**

Пры ўсім жаданні нельга знайсці ў гэтай заметцы «бічавання гультаёў і прагульшчыкаў». Насценгазета проста зафіксавала факт, зноў-жа не зрабіўшы патрэбнага вываду. Па сутнасці паўтарылася гісторыя з першай заметкай. Рэдакцыя-ж «Бальшэвіцкага змагара» замест таго, каб указаць насценгазеце на яе недахопы, ставіць гэтыя недахопы насценгазеце ў заслугу, чым дэзарыентуе і рэдкалегію насценгазеты, і сотні селькораў раёна.

З усіх гэтых фактаў відаць, што **рэдакцыя «Бальшэвіцкага змагара» несур'ёзна адносіцца да падачы аглядаў нізавога друку,** якія маюць вялікае значэнне ў кіраўніцтве насценгазетамі, выхаванні і вучобе соцень рабселькораў.

Якога агляду друку чакае рэдактар калгаснай насценгазеты? Ён чакае агляду, **які-б правільна паказваў яму недахопы насценгазеты, які-б вучыў, як трэба працаваць.** Без гэтага агляд траціць сваё значэнне.

Агляд калгаснай насценгазеты павінен быць канкрэтным, угрунтаваным на яркіх прыкладах работы насценгазеты. Усякаму вадалейству, беспрадметнай балбатні, агульным шаблонным фразам —не месца ў аглядзе. Нельга ўжываць у аглядах насценгазет незразумелых слоў і зваротаў. Кожную думку, выказаную аўтарам агляду, неабходна падмацоўваць канкрэтным прыкладам, фактам. Трэба ў аглядзе гаварыць не толькі аб тым, што пісала насценгазета, але і **як** яна пісала, што і **як** яна зрабіла.

Для гэтага неабходна, каб работнік рэдакцыі, які піша агляд, **добра вывучыў работу насценгазеты** не толькі па камплекту некалькіх яе нумароў, але і **пабываўшы непасрэдна ў калгасе і брыгадзе.** Трэба раз назаўсёды адмовіцца ад пісання аглядаў калгасных насценгазет, не быўшы ў калгасе, дзе выходзіць газета, не пагутарыўшы з яе рэдактарам, селькорамі і калгаснікамі.

У многіх рэдакцый раённых газет склалася думка, што пісаць пра калгасную насценгазету можна толькі ў форме агляду, які-б ахапляў работу насценгазеты за 1-2 месяцы. Гэта думка няправільная і шкодная, бо пры такой пастаноўцы справы зводзіцца на нішто аператыўнасць агляду.

Вось зараз пачалася адказнейшая кампанія—уборка ўраджаю і хлебапастаўкі. У калгасах і брыгадах штодзен-

на выходзяць тысячы насценгазет, лістовак. Раённыя і палітаддзельскія газеты павінны штодзённа кіраваць імі, указваць недахопы, выпраўляць памылкі, перадаваць дадатны вопыт лепшых насценгазет. Гэта значыць, што ў кожным нумары раённай і палітаддзельскай газеты павінен быць матэрыял пра работу насценгазет. І тут зусім не патрэбны вялікія нудныя агляды. Іх з поспехам можа замяніць кароткі паказ практычнай работы той ці іншай насценгазеты. Не трэба браць для паказу многа фактаў. Больш будзе карысці, калі раённая газета, напрыклад, перадрукуе заметку насценгазеты і тут-жа **зразумела і талкова ўкажа, што ў гэтай заметцы добра і што дрэнна.** Зусім няма патрэбы пісаць доўгі артыкул, апісваць усе добрыя бакі насценгазеты. Лепш за ўсё ўзяць адну канкрэтную справу, узнятую і даведзеную насценгазетай да канца, і расказаць аб ёй усім селькорам раёна.

*Барацьба замежнага комуністычнага друку*

# Газета беспрацоўных—„Гет компас“

**(Пісьмо з Галандыі, атрымана на мове эсперанто).**

13 раз паліцэйскія безрэзультатна абшуквалі дамы, каб знайсці друкарню газеты беспрацоўных **«Гет компас».**

Гэта—невялікая газета, якую выдае баявы камітэт беспрацоўных гарадка **Дэн Ільп** ужо на працягу 65 тыдняў. Сяляне суседніх вёсак вельмі ахвотна купляюць гэту газету. З гэтай газеты сяляне чэрпаюць весткі аб жудасным становішчы пролетарыяў. Газета дэмаскуе соцыял-дэмакратычных кіраўнікоў і наогул высока-пастаўленых чыноўнікаў.

Гарадскія галовы Ільпендама Ландсмеера вельмі часта фігуруюць на старонках «Гет компаса». Яны нават паслалі спецыяльную дэлегацыю ў амстэрдамскую пракуратуру з просьбай расправіцца з газеткай, якая **«рэгулярна заклікае сялян да класавых боек».**

Аднойчы з Амстэрдама ў гарадок прыбыла 6 аўтамабіляў, поўных паліцэйскімі, якія пачалі рабіць вобыск ва ўсіх дамах у гарадку, але нічога, што-б выдавала знаходжанне друкарні, не было знойдзена. На даму ў тав. **ВРЫЕС** паліцэйскія знайшлі некалькі газет «Гет компас». Газеты былі канфіскаваны, а тав. Врыес быў арыштован. Праз некалькі дзён быў арыштован тав. **Боссшытэр,** аднак, апошняга паліцыя прымушана была вызваліць з прычыны адсутнасці якіх-бы там ні было магчымасцей абвінаваціць.

Праз 4 дні паліцмены зноў прыехалі ў Дэн Ільп. Яны хацелі знайсці машынку, на якой друкавалася газета. У аднаго таварыша яны шукалі асабліва ўважліва: у дзіцячых калясках, падушках, але знайшлі толькі... фекальныя масы.

У часе вобыску ў аднаго таварыша былі знойдзены падпісныя лісты МОПР'а.

На другі дзень пасля вобыску ў гарадку Дэн Ільп беспрацоўныя і сяляне атрымалі ўсё-ж новы нумар забароненай газеты. І ў гэты-ж дзень рабочыя і сяляне Дэн Ільпа пратэставалі супроць атак паліцыі на іх дамы. На мітынгу пратэсту, арганізаваным МОПР'ам, прысутнічала каля 250 таварышоў.

На гэтым мітынгу прысутнічаў соцыял-дэмакратычны журналіст, які ў сваім артыкуле, надрукаваным на другі дзень у соцыял-дэмакратычнай газеце, абараняў урад ад атак комуністаў і беспрацоўных.

Рабочыя патрабавалі тэрміновага ўдалення гэтага журналіста са сходу, пагражаючы інакш патапіць яго. «Рабочы» журналіст прымушан быў уцячы са схода рабочых.

Вобыскі і арышты не далі ніякіх вынікаў. «Гет компас» яшчэ больш актыўна арганізуе беспрацоўных на барацьбу пад сцягамі комуністычнай партыі. Арыштаваны тав. **ВРЫЕС** яшчэ не вызвален. «Гет компас» выходзіць з патрабаваннем вызваліць арыштаванага таварыша.

«Гет компас» дапамагае компартыі Галандыі выхоўваць беспрацоўных рабочых і сялян для класавых баёў на барыкадах, для баёў за сусветную пролетарскую рэволюцыю.

**ПЕК. Амстэрдам.**

ДА 3-га УСЕБЕЛАРУСКАГА З'ЕЗДА РАБСЕЛЬКОРАЎ

М. ЧАЎСКІ—*рэдактар газеты „Ударнік калгасных палёў"—палітаддзел 1-й Менскай МТС*

# ВАЖАКІ НІЗАВОГА ДРУКУ НА ВУЧОБЕ

У 120 брыгадах калгаса 1-й Менскай МТС выдаюцца брыгадныя насценныя газеты. У некаторых брыгадах за час веснавой пасеўнай кампаніі выйшла ад 20 да 30 нумароў брыгадных газет. Гэта, бясспрэчна, вялікая сіла. Брыгадны друк, вырасшая і колькасна і якасна армія селькораў адыгралі выключна вялікую ролю ў паспяховым завяршэнні веснавой пасеўнай кампаніі і далейшых працэсаў сельска-гаспадарчых работ. Насценная газета ўжо заваявала пачэснае месца амаль у кожнай брыгадзе.

Аднак, кожны раз, калі мы бываем у калгасах, у брыгадах мы ўпэўніваемся ў тым, што насценныя газеты адчуваюць вострую патрэбу ў дапамозе. Гэта-ж не сакрэт, што брыгадныя насценныя газеты далёка яшчэ не ўзмацніліся, што якасць матэрыяла многіх насценгазет яшчэ вельмі нізкая. Наша задача, задача палітаддзельскіх газет — усямерна, штодзенна ім дапамагаць.

Звязаць па-сапраўднаму жыццё палітаддзельскай газеты з шматлікай і разгалінаванай сеткай брыгадных газет, арганізаваць работу так, каб рэдкалегіі нізавых насценгазет сапраўды адчулі нашу дапамогу, падтрыманне і кіраўніцтва —гэта цяжкая і адказная задача.

У чым сёння асноўныя недахопы нашых брыгадных газет? Першае—гэта тое, што часта брыгадныя газеты абмяжоўваюцца тым, што толькі выкрываюць недахопы, прычым робяць гэта не заўсёды своечасова.

Газеты часта пішуць зубаста аб пакражах, аб безгаспадарчасці, аб п'янстве, але вельмі рэдка ўскрываюць тыя **прычыны, якія парадзілі гэтыя недахопы.** Вельмі рэдка **папярэджваюць** адзначасці, часцей-жа выступаюць пасля таго, як яны адбудуцца.

Істотным недахопам многіх нашых брыгадных газет з'яўляецца іх недастатковая масавасць. Вельмі часта яшчэ брыгадная насценгазета з пачатку да канца робіцца адным рэдактарам. Наша-ж задача—зрабіць так, каб у брыгаднай газеце прымалі ўдзел усе ўдарнікі, сумленныя



У час абедзеннага перапынку. (Калгас «Чырвоны спецыяліст», Менскага раёна)

калгаснікі брыгады. Такім чынам перад брыгадным друкам стаіць задача—**згуртаваць вакол сябе моцны селькораўскі актыў.**

Не менш сур'ёзным пытаннем для брыгадных газет з'яўляецца паляпшэнне іх мовы. Брыгадная насценгазета разлічана на кола чытачоў, сярод якіх добрая частка малапісьменная. А колькі яшчэ ёсць у нас насценгазет, напісаных такой мовай, што і добра граматнаму чалавеку ў ёй цяжка разабрацца. Нарэшце, тэхніка афармлення насценгазет пакідае жадаць значна лепшага.

Такавы найбольш тыповыя недахопы вялікай часткі брыгадных насценгазет. Якім чынам можна іх унікнуць? Тут шлях адзін: **трэба сур'ёзна заняцца сістэматычнай вучобай рэдактароў насценгазет, членаў рэдкалегій і рабселькораў.**

Да гэтага часу мы вучылі рэдактароў калгасных насценгазет дрэнна. Першым і, трэба сказаць, даволі ўдалым нашым мерапрыемствам у гэтай галіне з'яўляюцца трохдзенныя курсы рэдактароў насценгазет, праведзеныя па сельсаветах перад самым пачаткам уборачных работ.

Галоўным недахопам курсаў, якія мы

праводзілі раней, было тое, што на курсах многа гаварылі, але вельмі мала вучылі, мала паказвалі, **як трэба** працаваць. На гэты раз мы рашылі ўнікнуць гэтага недахопу. Для таго падрыхтоўку курсаў пачалі загадзя. Асаблівую-ж увагу звярнулі на распрацоўку праграмы курсаў, на метады выкладання.

Мы рашылі праводзіць курсы так, каб кожную лекцыю выкладчыкі ілюстравалі канкрэтнымі прыкладамі, каб курсанты былі ўцягнуты на курсах у практычную работу па замацаванню атрыманых ведаў. Выходзячы з гэтага і была пабудавана праграма курсаў.

Курсы мы разлічылі на тры дні. Першы дзень быў цалкам адведзен праапрацоўцы чарговых задач партыі на вёсцы. У праграму ўвайшлі: прамова тав. Сталіна «Аб рабоце на вёсцы», раздзелы аб сельскай гаспадарцы з даклада тав. Сталіна на XVII з'ездзе ВКП(б), пастановы чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) аб хлеба і мясапастаўках і аб развіцці жывёлагадоўлі.

Выкладчыкі загадзя мелі факты аб стане тых калгасаў, з якіх прыбылі на курсы рэдактары, і падавалі гэтыя факты ў якасці ілюстрацый к пастановам партыі. Пры такім метадзе выкладання курсанты лепш усвойвалі матэрыял і тут-жа намячалі практычныя мерапрыемствы, якія трэба правесці ў іх калгасах. Тут-жа намячаліся тэмы для чарговых нумароў насценгазет.

Апрача гэтых агульна-палітычных пытанняў 6 гадзін было аддана на распрацоўку тэмы: «Вучэнне Леніна і Сталіна аб друку».

Другі дзень заняткаў курсаў быў прысвечан практычнай рабоце курсантаў—правядзенню рэйда па праверцы падрыхтаванасці калгасаў да ўборкі і хлебанастаўак. Перад рэйдам—уступная гутарка кіраўніка курсаў і праапрацоўка памяткі ўдзельніка рэйда. Памятку палітаддзел падрыхтаваў таксама загадзя. Яна была ўсебакова прадумана і ахапляла ўсё да дробязей, што датычыць падрыхтоўкі калгасаў да ўборкі і хлебапаставак.

У часе рэйда курсанты правяралі тыя брыгады, дзе яны самі працуюць.

З раніцы трэцяга дня курсаў падводзіліся вынікі рэйда. Брыгады расказвалі пра выяўленыя факты, тут-жа афармлялі іх у заметкі для насценгазет.

**Першыя заняткі пасля рэйда былі прысвечаны разгляду допісаў.** Браліся ў аснову найбольш адмоўныя і найбольш станоўчыя па сваёй якасці допісы і на іх прыкладах паказвалася, як трэба і як не трэба пісаць заметку.

Калі заметкі па матэрыялах рэйда былі напісаны, курсанты тут-жа на занятках выпусцілі брыгадныя насценгазеты. Дзве гадзіны было аддана на крытычны разгляд гэтых насценгазет, указваліся недахопы, памылкі, курсантаў практычна вучылі, як трэба выпускаць добрую насценгазету.

**Дзве гадзіны мы ўдзялілі пытанню, як згрупаваць вакол газеты актыў, як працаваць з вусткорамі і як дабіцца дзейснасці допісаў.** На аснове канкрэтных матэрыялаў тых курсантаў, якія здолелі правесці рэйд з прыцягненнем «лёгкай кавалерыі», інспектароў па якасці, мы паказвалі, наколькі павышаецца якасць матэрыялаў, якія арганізаваны сумесна з масай селькораў і актывам калгаснікаў.

Вось пералік тых пытанняў, якія былі распрацаваны на сельсавецкіх курсах рэдактароў насценгазет, і метады выкладання. Паводле водгукаў саміх рэдактароў курсы ім далі вельмі многа. Курсы ўпершыню былі арганізаваны так, што нізавы калгасны рэдактар здолеў навучыцца на іх, павысіў сваю кваліфікацыю і ўзбагаціўся вопытам. Іменна такім метадам—цесна спалучаючы тэарэтычную вучобу з практыкай—мы будзем і ў далейшым праводзіць курсы і семінары для рэдактароў калгасных насценгазет.



**Селькоры—актыўныя змагары за кармовую базу для социялістычнай жывёлагадоўлі. На здымку: пабудова сілоснай вежы ў калгасе «Чырвоны партызан», Менскага раёна.**

*Ю. БЕЛЬКО*

# ПА-НОВАМУ ПРАВЯЛІ КУРСЫ

## РЭДАКТАРОЎ НІЗАВЫХ ГАЗЕТ

Курсы рэдактароў калгасных насценгазет **Сенніцкага сельсовета, Менскага раёна,** праведзеныя газетай палітаддзела першай Менскай МТС, мелі тую асаблівасць, што амаль уся тэарытычная вучоба на іх была шчыльна ўвязана з практычнай работай насценгазет і селькораў.

У першы дзень заняткаў спецыяльна вылучаны палітаддзелам для гэтай мэты падрыхтаваны таварыш талкова расказаў курсантам пра задачы партыі ў галіне сацыялістычнага будаўніцтва на вёсцы на даным этапе. Галоўны ўпор тут быў зроблен на задачы ўборкі ўраджаю і хлебапаставак гэтага года і на рабоцьпа ўзняцці жывёлагадоўлі. Дзве гадзіны былі адведзены для азнаямлення курсантаў з асновамі вучэння Леніна і Сталіна аб большэвіцкім друку.

Больш падрабязна трэба спыніцца на другім і трэцім днях заняткаў курсаў.

На другі дзень перад курсантамі былі пастаўлены дзве задачы: першая—выявіць усе недахопы, якія ёсць у калгасах сельсовета ў справе падрыхтоўкі да ўборкі і хлебапаставак, дапамагчы іх ліквідаваць і другая—навучыцца, як трэба праводзіць селькораўскі рэйд.

**Раніцой 16 ліпеня ўсе курсанты сабраліся ў цэнтр сельсовета, дзе праводзіліся заняткі курсаў.** Кіраўнік курсаў коратка азнаёміў курсантаў з задачамі рэйда, метадамі яго правядзення. Пасля гэтага прыступілі да абгаварэння памяткі ўдзельнікаў рэйда. Памятка была загадзя выпрацавана палітаддзелам МТС. У ёй прадугледжваліся ўсе пытанні, звязаныя з уборкай і хлебапастаўкамі, пачынаючы з планаў уборачных работ і канчаючы наяўнасцю ў калгасах мяшкоў, змазачнага, і т. д. Напісана памятка была канкрэтна і зразумела, усё-ж па кожнаму яе пункту кіраўнік падрабязна растлумачваў курсантам, што трэба высветліць, на што звярнуць асаблівую ўвагу. **І толькі тады, калі кожны з 16-ці курсантаў добра ўсвядоміў сабе, як павінен быць праведзен рэйд, толькі пасля гэтага курсанты, разбіўшыся на брыгады, прыступілі да прантычнага правядзення рэйда ва ўсіх пяці калгасах сельсовета.** Кожны курсант на руках меў памятку ўдзельніка рэйда.

Уся раніца да поўдня 17 ліпеня была занята **абгаварэннем рэзультатаў** рэйда. З кароткімі інфармацыямі выступілі кіраўнікі ўсіх рэйдавых брыгад. Як і трэба было чакаць, рэйд даў вялікія рэзультаты, курсанты выявілі многа недахопаў у калгасах у справе падрыхтаванасці да ўборкі і паставак.

Пры падагульненні рэзультатаў рэйда ўвага была звернута не толькі на выяўленыя факты, але і на **метады** правядзення рэйда. Работа кожнай рэйдавай брыгады крытыкавалася ўдзельнікамі іншых брыгад, а таксама кіраўніком заняткаў. Гэтым дасягалася практычная вучоба слухачоў.

Цікава адзначыць некалькі момантаў з абгаварэння вынікаў рэйда.

Выступае курсант т. **Жыгалка,** які праверыў 3-ю брыгаду калгаса «Чырвоны пецыяліст». Ён расказвае, якія аб'екты ім праверany, што выяўлена. Даходзіць да стану свірнаў:

— Свірны ў 3-й брыгадзе, можна сказаць, цалкам і поўнасцю гатовы да прыёмкі зярна новага ўраджаю. У сярэдзіне добра агледжаны, спраўныя засекі, навал падлога чысценька вымецена.

Хтосці з месца перабівае т. Жыгалку:

— Ці так гэта? Ты добра агледзеў свірны трэцяй брыгады?

Жыгалка здзіўлена глядзіць на перабіўшага. Так, безумоўна, ён вельмі ўважліва, добрасумленна агледзеў абодва свірны і зноў пацвярджае свае словы.

І тады ўстае курсант тав. **Пілецкі—** той, што задаў пытанне. Ён гаворыць:

— Я не дарэмна перабіў цябе, Жыгалка, я маю некалькі іншых фактаў. Правяраў ты свірны, праўда, добра, але праверыў не ўсе. Ці звярнуў ты ўвагу на тое, якія ганкі ў абодвух свірнах трэцяй брыгады?

Усе курсанты насцярожана прыціхлі. Жыгалка маўчыць. Якраз на ганкі ён і не звярнуў увагі. Пілецкі прадаўжае:

— А вось якраз ганкі ў гэтых свір-

нах нікуды не годныя, бо ўсходцы паламаны, і гэта будзе вельмі вялікай перашкодай, калі прыдзецца насіць цяжкія мяшкі з вазоў у свіран. І, па-другое, перад адным свірнам дагэтуль не засыпана яма. Цяпер суха і яма непрыкметна, а пойдзе дождж і да свірна нельга будзе пад'ехаць.

Усе згодны з талковаю заўвагаю тав. Пілецкага. Згодзен і тав. Жыгалка. З усяго гэтага факта кіраўнік курсаў робіць вывад, і курсанты атрымліваюць наглядны, яркі ўрок таго, як пры правядзенні рэйда селькоры не павінны абмяжоўвацца агульнай праверкай, а ўваходзіць у самыя дробязі таго аб'екта, які правяраюць.

Брыгада, правяраўшая калгас «Аб'яднанне», на пытанне аб планах уборкі і паставак адказала: «Планы ёсць, усё у парадку». А калі ў брыгады запыталі: за колькі-ж дзён калгас «Аб'яднанне» мяркуе скончыць уборку, калі пачне малацьбу, то брыгада адказаць не здолела, бо, як высветлілася, саміх планаў брыгада нават не бачыла, паверыла старшыні калгаса на слова. Зноў для ўсіх курсантаў робіцца вывад: праводзячы рэйд, ніколі не вер на слова, усё павінен сам бачыць і праверыць.

Такім спосабам былі выяўлены ўсе памылкі, дапушчаныя паасобнымі брыгадамі. На гэтых памылках, як і на радзе добрых прыкладаў, курсанты навочна вучыліся майстэрству рабселькораўскага рэйда.

Наступныя дзве гадзіны кіраўнік курсаў займае растлумачэннем таго, як трэба пісаць і апрацоўваць заметкі для насценгазеты. Упор робіцца на палітычную завостранасць, канкрэтнасць, сціласць і зразумеласць кожнай заметкі. Адразу пасля гэтай папярэдняй лекцыі курсантам даецца практычная работа: выбраць з матэрыялаў рэйда ўсе важныя факты, напісаць па іх заметкі і тут-жа выпусціць па нумару насценгазеты для кожнага калгаса.

Тры гадзіны курсанты заняты гэтай работай. **Нарэшце, насценгазеты гато**[в]ы і пачынаецца іх абгаварэнне. Кожная насценгазета падрабязна абмяркоўваецца і з боку завостранасці матэрыялаў і з боку стылю і тэхнічнага афармлення. Кожнай брыгадзе ўказваюцца недахопы яе насценгазеты, указваецца, як трэба было зрабіць.

Такі метад дае надзвычай добры эфект у справе ўсваення курсантамі выкладаемага матэрыяла, бо, кожнае ўказанне лектара падмацоўваецца канкрэтным прыкладам.

На гэтым канчаецца практычная частка работы курсаў. Увесь час, які астаецца да вечара, запаўняецца гутаркамі з курсантамі па астатніх пытаннях праграмы.

**Па гэтаму-ж прынцыпу былі праведзены і курсы ў Гатаўскім сельсовеце.** У ліку 16 курсантаў было 11 жанчын. Гэта вельмі добра. А вось членаў рэдкалегій насценгазет на курсах было толькі 3. І гэта — галоўны недахоп курса у Гатаўскім сельсовеце.

Рэйд курсантаў па праверцы гатоўнасці калгасаў да ўборкі і хлебапаставак праходзіў пры шырокім удзеле лепшых калгаснікаў-ударнікаў, старыкоў, якія дапамагалі курсантам у рабоце. У кожным калгасе апрача брыгады курсантаў з 3-4 чалавек у рэйдзе прымалі ўдзел па 2-3 калгаснікі.

Трэба адзначыць і тое, што па ініцыятыве кіраўніка курсаў у Гатаўскім сельсовеце ў праграму заняткаў было ўключана яшчэ адно пытанне: прапрацоўка артыкулаў, змешчаных у журнале «**Большэвіцкі друк**» «Правільна арганізаваць работу рэдкалегіі» і «Масавая работа брыгадных газет». Гэтаму пытанню былі прысвечаны заключныя заняткі курсаў.

*Рыўкіна*

Рэдактар уваравіцкай раённай газеты «Калектывіст»

# Як мы правялі раённы злёт селькораў

3 ліпеня мы склікалі раённы злёт селькораў. У парадку падрыхтоўкі да злёту праводзіліся нарады селькораў разам з калгаснікамі-ўдарнікамі. У калгасах імя 1 мая, «Чырвоная зорка», «Комунар», у соўгасе «Старая Беліца», рабселькоры адной брыгады заключылі дагавары на соцспаборніцтва з рабселькорамі другой брыгады.

**Рэдкалегіі насценных газет разгарну-**

**лі спаборніцтва на атрыманне першага месца на раённай выстаўцы насценгазет,** якая была арганізавана ў час злёту.

На злёце абгаварылі толькі адно пытанне—задачы нізавога друку і селькораў у правядзенні чарговых сельскагаспадарчых работ.

У час абедзенага перапынку мы **разбілі селькораў на групы для разгляду і вывучэння насценных газет, якія былі прысланы і прывезены на выстаўку.** Да кожнай групы прымацавалі работніка рэдакцыі, які кіраваў гэтай справай.

Вось група селькораў вывучае газету калгаса імя 1 мая.

— Добрая газета,—кажуць селькоры. І мастацкі добра аформлена, і селькораўскіх матэрыялаў шмат, і аддзел рэагавання ёсць. Але вось нумар гэтай газеты, які вышаў у самы разгар сенаўборкі, зусім бедны на матэрыялы аб ходзе касьбы. І селькоры адразу адзначаюць гэты вялікі недахоп газеты.

Рэдактар насценгазеты т. **Грышачкін** уважліва слухае і запісвае ў блакнот зусім правільныя заўвагі селькораў.

Другая група селькораў аглядае насценгазету соўгаса «Старая Беліца». Тут-жа рэдактар гэтай газеты т. **Ісаковіч** расказвае, што **рэдкалегія шырока скарыстоўвае ў насценнай газеце вусныя карэспандэнцыі.** Гэта дало магчымасць прыцягнуць да ўдзелу ў насценгазеце многіх рабочых ударнікаў, якія раней у яе ніколі не пісалі.

Селькоры, члены рэдкалегій калгасных і брыгадных насценгазет жыва падхапілі гэты вопыт соўгаснай газеты.

Удзельнікі злёту робяць свае заўвагі і аб газеце соўгаса. Яны адзначаюць недастатковую ўвагу рэдкалегіі насценгазеты да праверкі выканання дагавароў па соцспаборніцтву.

Для практычнай дапамогі рэдактарам і селькорам у выпуску насценгазет мы раздалі ўсім удзельнікам злёту сшыткі, простыя і каляровыя алоўкі, брашуру т. Коніка аб задачах селькораў, макеты брыгаднай і калгаснай насценгазеты, якія выпушчаны рэдакцыяй раённай газеты.

*Б. Юр'еў*

# Газета брыгады пераможцаў

Шостая трактарная брыгада па праву лічыцца лепшай брыгадай **Заслаўскай МТС**. Гэта права яна заваявала ў часе веснавой сяўбы. План веснавых палявых работ брыгада выканала на 160 працантаў. Трактары брыгады вышлі з палявых работ спраўнымі. Брыгада з'эканоміла звыш 1.500 кіло гаручага. Палітаддзел МТС узнагародзіў шостую брыгаду чырвоным пераходным сцягам, а **«Звязда»** занесла яе ў ганаровы спіс лепшых трактарных брыгад Савецкай Беларусі.

У брыгадзе рэгулярна выходзіць насценгазета. Гэты невялікі шэранькі лісток, што вісіць цяпер ля трактарнай майстэрні, не вабіць знадворным выглядам. На пажоўклых і пашарпаных лістках насценгазеты відны сляды прафесіі яе рабкораў — плямы бензіну, аўтолу, сажы. Але якая вялікая сіла хаваецца ў гэтых непрывабных на першы погляд лістках! Аб гэтым варта расказаць.

Вясною трактарысты рэдка збіраліся разам. Кожны трактарыст на сваёй машыне працаваў у асобным калгасе. Насценгазета ўсё-ж выходзіла. Яе рэдактар—трактарыст **Васіль Вальчэўскі** позна ноччу пасля работы паспяваў наведаць двух-трох трактарыстаў у суседніх калгасах і такім чынам збіраў матэрыял для кожнага нумара. Некаторыя нумары пісаліся ў некалькіх экземплярах і перасылаліся кожнаму трактарысту. Часцей-жа здаралася так, што ўсіх трактарыстаў абходзіў толькі адзін экземпляр насценгазеты і апошні трактарыст ужо ледзь мог разбіраць напісанае.

Газету заўсёды чакалі з нецярплівасцю. Кожны трактарыст імкнуўся хутчэй даведацца, як працуюць другія трактарысты брыгады, хто вышаў на першае месца, хто адстаў. Газета была моцным звязваючым звяном раскіданага па калгасах невялікага калектыва брыгады; яна выхавала адстаючых, арганізоўвала спаборніцтва.

Насценгазета з'явілася ініцыятарам

тэхнічнай вучобы ў брыгадзе. Здарылася гэта так. У брыгадзе працуе трактарыст **Савіцкі**. Трактарыст малады, машыну вывучыў слаба. Выедзе Савіцкі на ворыва, а трактар адразу пачынае капрызіць. Савіцкі збянтэжаны бегае вакол машыны, а рады даць не можа. Псаванне-ж само па сабе дробнае.

Рэдактар насценгазеты т. Вальчэўскі спецыяльна заняўся трактарыстам Савіцкім.

Хутка ў насценгазеце з'явіўся артыкул пра т. Савіцкага. Газета пісала, што тав. Савіцкі павінен неадкладна ўзяцца за вучобу. Разам з тым газета заклікала ўсіх трактарыстаў вывучаць трактар.

Словы насценгазеты не асталіся пустым гукам. Тав. Вальчэўскі абегаў шмат устаноў, урэшце, набыў патрэбныя падручнікі. Стаў сам дапамагаць Савіцкаму вывучаць трактар. Такім чынам пачатак справы быў зроблен. Пасля ў тэхвучобу ўцягнуліся іншыя трактарысты.

— А зараз, — расказвае Вальчэўскі, — амаль кожны вечар наш барак падобен да школы. Пасля работы ўсе трактарысты брыгады далёка за поўнач сядзяць за кнігамі.

Шостая трактарная ўжо даўно поўнасцю падрыхтавалася да ўборкі. Усе свае трактары брыгада адрамантавала.

Васіль Вальчэўскі расказвае пра работу трактарнай брыгады і брыгаднай насценгазеты. Між іншым ён кажа:

Вось цяпер нашы трактарысты заняты на розных работах у рамонтнай майстэрні. Свае трактары адрамантавалі, дапамагаем іншым брыгадам.

Брыгада цвёрда рашыла ў часе ўборачных работ і малацьбы пяршынства не здаваць, працаваць яшчэ лепш, чым вясною. Апрача рэгулярнага выпуску сваёй брыгаднай насценгазеты трактарысты абавязаліся ў тых калгасах, дзе яны будуць працаваць, дапамагчы арганізаваць выпуск палявых брыгадных штодзенак.

Задача трактарыстаў шостай брыгады, яе насценгазеты і рабкораў — ператварыць сваё рашэнне ў справу. Брыгада пераможцаў на палях веснавой сяўбы павінна быць першай і на ўборачнай.



**Улік працы ў 4-ай перадавой брыгадзе калгаса «Чырвоны спецыяліст», 1-ай Менскай МТС.**

*С. Р.*

# Адзін з трохмільённай арміі

Хто не ведае ў калгасе «Трэці рашаючы» тав. **СЯРГЕЯ РУСАЛЬСКАГА!** Яго ведаюць перш за ўсё як лепшага ўдарніка калгаса, як рэдактара баявой калгаснай насценгазеты **«За работу па-новаму»**.

Сяргей Русальскі—адзін з арганізатараў калгаса. Ён і цяпер добра памятае тыя гарачыя дні, калі ў жорсткай барацьбе з кулакамі нараджаўся калгас. Асабовым прыкладам і сваім селькораўскім пяром агітаваў Сяргей за калгас.

З тых памятных дзён Сяргей стаў актыўным змагаром за ўмацаванне свайго калгаса. Многа дасталося і дастаецца гультаям і лежабокам ад вострай крытыкі насценгазеты, якую рэдагуе Сяргей.

Яшчэ ў сакавіку на старонках насценгазеты можна было прачытаць: «Наш калгас дрэнна падрыхтаваўся да сяўбы. У нас дрэннае насенне. Ячмень 72 проц. усхожасць. Пшаніца 53, віка 69, а гароху, грэчкі і серадэлі калгас зусім не мае. Такім насеннем ні ў якім разе нельга засяваць палі». Аб гэтым Русальскі сігналізуе і на старонках палітаддзельскай газеты.

— Напісаць мала,—кажа Русальскі,— селькор павінен стварыць грамадскую думку, ускрыць недахопы і тут-жа практычна дапамагчы ліквідаваць гэтыя недахопы. Так і зрабіў Сяргей. Ён сам пас-

хаў адшукваць насенне. І прывёз: 128 кіло гароху, 160 кіло канюшыны, прывёз віку, ячмень і інш. культуры. Вось як разумее тав. Русальскі задачу селькораўдарніка.

Русальскі ўцягнуў у работу газеты лепшых ударнікаў калгаса. Вакол газеты згрупаван селькораўскі актыў з 20 чалавек. Селькоры **Каланіцкі Мікола** (звеннявы) і **Каланіцкі Яўхім** некалькі раз прэміраваны. Пры актыўнай дапамозе насценгазеты і яе лепшых ударнікаў калгас у гэтым годзе скончыў сяўбу на месяц раней мінулага года.

Інспекцыя па якасці ў калгасе «Трэці рашаючы» працуе таксама добра. **На чапе інспекцыі—Сяргей Русальскі.** Штодзенна кожны ўзараны кавалак, кожны засеяны гектар правяраўся інспекцыяй якасці. Па ініцыятыве інспекцыі ў калгасе **вышлі на поле ўсе жанчыны для раскопвання матыкамі застаўшыхся меж, якіх нельга было ўзараць.** Гэты прыклад работы падхапілі і другія калгасы сельсовета. Добрая работа інспекцыі якасці забяспечыла калгасу сяўбу зернавых на «выдатна».

Пачалася прапалка. І з гэтай задачай калгас першым справіўся. Да ўборачнай кампаніі калгас падрыхтаваўся лепш за другія калгасы. Рэдкалегія насценгазеты «За работу па-новаму» яшчэ ў пачатку чэрвеня правяла рэйд па праверцы падрыхтаванасці калгаса да ўборкі. Выяўленыя ў час рэйда недахопы былі неадкладна ліквідаваны.

«Сакрэт» поспехаў газеты «За работу па-новаму» перш за ўсё ў тым, што яна **масавая**, што вакол яе згуртаваўся моцны рабселькораўскі актыў.

— Аднаму мне было-б немагчыма працаваць,—гаворыць Сяргей.—Таму я згрупаваў вакол сябе актыў з лепшых ударнікаў. З іх асяродзішча растуць рэдактары брыгадных насценгазет. **Каланіцкі Яўхім цяпер ужо цалкам можа мяне замяніць па выпуску газет...**

Сяргей мала адукаваны. Ён скончыў толькі чатыры класы. Ён папаўняе свае веды, працуючы над сабой. Дома ў яго на стале кнігі, газеты, журналы.

Сяргей Русальскі—адзін з трохмільённай арміі селькораў, якая выхоўваецца, расце і загартоўваецца пад кіраўніцтвам нашай партыі ў барацьбе за бальшэвіцкія калгасы, за заможнае калгаснае жыццё.

# РАБКОР, УДАРНІК, БОЛЬШЭВІК

Старшы стрэлачнік станцыі Барысаў-рабкор т. **Падрэз** прымаў актыўны ўдзел ва ўсебеларускім рэйдзе праверкі ходу спаборніцтва на лепшую станцыю. Брыгада тав. Падрэза выявіла, што інтэрнаты рабочых і сталоўка знаходзяцца ў антысанітарным становішчы. Вакзальнае памяшканне і пакгауз таксама зараслі пылам і брудам.

Але брыгада і сам тав. Падрэз не толькі выяўлялі недахопы. Тав. Падрэз асабліва клапаціўся аб тым, каб выправіць усе недахопы. Кожны дзень ён у вольны ад работы час правяраў, як ідзе гэта справа. Цяпер на станцыі чыста, проста не пазнаць. У буфеце пры дапамозе брыгады знят кухар і памочнік кухара, якія кралі прадукты. Работа буфета зараз значна палепшылася. Абед, які раней каштаваў 3-4 рублі, зараз каштуе толькі 2 р. 50 кап., пры чым лепшай якасці. У буфеце сталовай брыгада арганізавала выпуск насценгазет.

І за стрэлкамі лепш пачалі сачыць. Рабкор Падрэз у вольны час, як старшы стрэлачнік, гутарыць са стрэлачнікамі, растлумачвае ім пастановы партыі і ўрада аб транспарце, робіць указанні па рабоце.

Не так даўно тав. Падрэз рашыў запрасіць стрэлачнікаў да сябе на кватэру, каб за шклянкай гарбаты пагаварыць аб рабоце. Шэфы станцыі — рабочыя камбіната «Комінтэрн» аказалі грунтоўную дапамогу. На кватэры тав. Падрэза было праведзена калектыўнае абгаварэнне пастаноў XVII з'езда і чытанне мастацкай літаратуры.

Тут-жа за шклянкай гарбаты па прапанове Падрэза быў заключан соцдагавор паміж рабочымі камбіната «Комінтэрн» і стрэлачнікамі.

Заметкі тав. Падрэза можна сустрэць у кожным нумары насценгазеты. Тав. Падрэз — член партыі з 1919 г., парторг, сапраўдны ўдарнік транспарта.

**ТРЫБУНА РЭДАКТАРА**

*М. Іофін*

Рэдактар газеты „Ленінскі сцяг„ (Хойнікі)

# НАЛАДЗІМ СІСТЭМАТЫЧНУЮ ДАПАМОГУ СЕЛЬСОВЕТАМ

Гаварыць аб тым, якое вялікае значэнне мае дапамога нашага друку сельсаветам, наўрад ці патрэбна. Гэта дапамога асабліва патрэбна зараз, калі разгортваецца абвешчаны ЦВК СССР і ЦВК БССР конкурс на лепшы совет.

Некалькі слоў пра работу газеты «Ленінскі сцяг» у гэтым напрамку. У парадку самакрытыкі трэба прызнацца, што наша газета да апошняга часу слаба дапамагала сельсоветам. Калі фігураваў сельсовет на старонках нашай газеты? Тады, калі сельсовет быў у прарыве, калі трэба было ўдарыць па старшыні. Радзей мы паказвалі работу лепшых, перадавых сельсоветаў.

А вось тое, як працуюць секцыі сельсовета, як прэзідыум сельсовета працуе з дэпутацкімі групамі, гэта не знаходзіла амаль ніякага адбітку ў газеце «Ленінскі сцяг». А якраз у гэтых галінах работы сельсоветам і патрэбна асаблівая дапамога.

Але з часу абвяшчэння конкурса на лепшы совет справа гэта ў нас палепшылася. 18 мая мы надрукавалі пастанову ЦВК БССР пра конкурс на лепшы совет і адразу ўзяліся за практычную работу. Дапамаглі раённым арганізацыям і сельсоветам уключыцца ў конкурс. Сіламі работнікаў рэдакцыі ўключылі ў конкурс Ходаскі, Вялікаборскі, Аляксіцкі і Паселіцкі сельсоветы. У кожным з гэтых 4-х сельсоветаў былі работнікі рэдакцыі, правялі адпаведную работу, праверылі работу секцый, дэпутацкіх груп.

На пленуме Аляксіцкага сельсовета прысутнічалі, апрача члена сельсовета каля 30 актывістаў-калгаснікаў. На падставе агульных умоў конкурса пленум выпрацаваў свае канкрэтныя абавязацельствы. Рашылі пабудаваць у сельсовеце школу мясцовымі сродкамі. Будаўніцтва школы павінна быць скончана да зімы гэтага года. Работы ўжо распачаты. На старонках «Ленінскага сцяга» мы шырока асвятлілі вопыт работы Аляксіцкага сельсовета.

Таксама ўзялі канкрэтныя абавязацельствы і другія сельсоветы, якія ўключыліся ў конкурс. Усе іх абавязацельствы ёсць у нас у рэдакцыі, і зараз мы, не трацячы часу, пачынаем правяраць, як яны выконваюцца.

У газеце перыядычна друкуем спіс сельсоветаў, якія ўключыліся ў конкурс. Перш чым занесці той ці іншы сельсовет у спіс, мы пасылаем на месца работніка рэдакцыі. Ён правярае, ці масава прайшло ўключэнне, якія абавязацельствы ўзяў сельсовет. Калі высвятляецца, што абавязацельствы ўзяты не канкрэтныя, сельсовет у спіс удзельнікаў конкурса не ўключаецца, пакуль не возьме на сябе канкрэтныя абавязацельствы.

Вялікую работу прарабіла газета па разгортванню конкурса сельсоветаў па дарожнаму будаўніцтву. Трэба сказаць, што тут мы папрацавалі, як належыць. З нумара ў нумар у газеце асвятляўся ход будаўніцтва дарог дзяржаўнага і мясцовага значэння. Дабіліся надзвычай хуткага рэагавання на нашы выступленні.

Наш раён першым у рэспубліцы выканаў гадавы план дарожнага будаўніцтва задоўга да тэрміна. Лічу, што ў гэтай перамозе раёна значную заслугу мае і наша газета.

Вось што намі зроблена. Аднак, усё-ж трэба адзначыць, што работа сельсоветаў, секцый і дэпутацкіх груп яшчэ не заняла ў «Ленінскім сцягу» патрэбнага месца. Яшчэ не відаць на старонках нашай газеты падрабязнага паказу ўсіх шматлікіх галін работы сельсоветаў. Гэты недахоп у самы бліжэйшы час мы выправім.

У дапамогу рэдактара

П. Жаркі

# Мова газеты павінна быць жывой, папулярнай, адточанай

Нашы газеты, паводле слоў **В. І. ЛЕНІНА**, павінны з'яўляцца калектыўнымі прапагандыстамі, агітатарамі і арганізатарамі шырокіх працоўных мас. Каб апраўдаць гэту ролю, газета павінна свой баявы змест перадаваць яркай, востра адточанай мовай.

Ні ў якім выпадку нельга ігнараваць тэхніку слова, мову. **«ПРАВДА»** ў перадавым артыкуле ад 5 мая пісала:

«Біць ворага астрэй, ядавіцей; паказваць шматграннае наша жыццё ярчэй, больш маляўніча; навучыцца ўладаць тэхнікай слова. А да тэхнікі слова неяк узаконіліся няўважлівыя, пагардлівыя адносіны: было-б, моў, правільна «па сутнасці». І нават кузні кадраў газетных работнікаў—інстытуты журналістыкі—часта выпускалі людзей літаратурна няграматных, лічачы, відаць, у гэтай грамаце малазначную «дэталь» для работнікаў друку. Гэта—сугуба, палітычна шкодны пагляд».

Так ставіць пытанне перад большэвіцкім друкам цэнтральны орган нашай партыі—«Правда».

Такім чынам, культура газетнай мовы не ёсць другарадная рэч. У нас-жа, не гледзячы на ўсю важнасць чыстаты, канкрэтнасці і папулярнасці газетнай мовы, апошняй аддаецца амаль ва ўсіх рэдакцыях раённых газет мінімальная ўвага. А ў выніку вялікая частка раённых газет выходзяць на «суконнай», цяжкай для разумення мове. Для многіх рэдактароў не існуе ніякіх правіл граматыкі. Самыя прыкрыя памылкі, апіскі, недапіскі, сінтаксічныя ляпсусы густа насаджаны ў гэтых газетах.

І тут асабліва к месцу будзе прывесці шырока вядомыя словы В. І. Леніна, сказаныя пра рускую мову: «Газетная мова ў нас таксама пачынае псавацца. Ці не пара аб'явіць вайну каверканню рускай мовы?» (Ленін, том XXIV, стар. 662). В. І. Ленін бачыў небяспеку псавання газетнай мовы канцылярскімі, бюракратычнымі зваротамі, агульнымі, збітымі шаблонамі.

Небяспека гэта тым больш вялікая, што шырокія працоўныя масы, з поспехам ліквідаваўшыя спадчыну царызма—няграматнасць, для якіх газета ўжо стала неабходнасцю, мімаволі пераймаюць і ўсвойваюць усе гэтыя агульныя звароты газетнай мовы, не к месцу ўжытыя іншамоўныя словы і наогул усе моўныя калецтвы, лічачы іх за ўзор. А калі ўзяць нашы школы, розныя гурткі, дзе часта з-за недахвату падручнікаў газетай карыстаюцца як дапаможнікам, то для кожнага стане зразумелым, якая адказнасць кладзецца на рэдакцыі за выпуск бездакорна граматных, удала афармленых газет, адказнасць у барацьбе за **партыйнасць** мовы.

Важнейшым момантам у пытанні газетнай мовы з'яўляецца яе **папулярнасць.** Для таго, каб газетнае слова даходзіла да шырокіх працоўных гушчаў, трэба пісаць папулярна. Гэтаму нас вучыў В. І. Ленін, які сам дабіваўся максімальнай папулярнасці сваіх твораў.

У пісьме ад 16 жніўня 1897 года Ленін пісаў: «Я нічога так не жадаў-бы, ні аб чым так многа не марыў, як аб магчымасці пісаць для рабочых». І ленінская мова сапраўды з'яўляецца ўзорам яснасці, папулярнасці, прастаты і адначасова маляўнічасці.

Вось як яе характарызуе тав. Сталін: «Толькі Ленін умеў пісаць аб самых заблытаных рэчах так проста і ясна, сцісла і смела, калі кожная фра-

за не гаворыць, а стралае» (І. Сталін «О Ленине». Партвыдат, 1932 г., стар. 16).

Выступленні тт. **Сталіна** і **Кагановіча** на 1 усесаюзным з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў таксама даюць найлепшыя ўзоры папулярнай мовы, уменне самыя складаныя пытанні выкладаць проста, маляўніча, каларытна, **не зніжаючы прынцыповага іх значэння.**

Вось на такіх узорах ленінскай і сталінскай мовы павінен вучыцца штодзенна ўвесь наш друк, а асабліва раённы, для якога папулярнасць і канкрэтнасць выкладання—важнейшая справа.

А як гэты ленінскі прынцып праламляецца ў практыцы нашага раённага друку? Вядома, у гэтым пытанні ёсць некаторыя поспехі, але далёка не на вышыні яшчэ большасць нашых раённых газет.

Возьмем абзац са справаздачнай заметкі аб раённым злёце Чырвонапольшчыны:

> «Т. Лапацін сказаў, што — селькораўскае пяро як нікопі павінна быць вострым у барацьбе з класава-варожымі элементамі, якія будуць накіроўваць усю сваю шкодніцкую работу на зрыў намечаных партыяй і урадам мерапрыемстваў па ўборцы ураджаю, барацьбе са стратамі, своечасовае, высокаякаснае і поўнае выкананне плана хлебапаставак, бульбапаставак, самай жорсткай барацьбы з раскрадвальнікамі калгаснага ўраджаю».

Гэты, трапіўшы пад руку абзац, характэрны не толькі для чырвонапольскай газеты, а і для многіх іншых. З прыведзеных радкоў мы бачым, як аўтар зляпіў у кучу, у адзін сказ усе «пытанні» і ўрэшце не выблытаўся з наматанага самім-жа клубка. Фраза асіліла яго. Таму тут у пачатку мы бачым якбы і правільна дапасаваныя асобныя часткі сказа, але ўжо словы «своечасовае, высокаякаснае» і далейшыя зусім не вяжуцца і не дапасоўваюцца з папярэднімі. Паўстае пытанне—каму патрэбна такое нагрувашчванне слоў без сувязі, ці дойдзе гэты сказ да тых чытацкіх колаў, на якія газета разлічана? Вядома, не. Значыць, трэба выказаць гэту думку асобнымі кароткімі сказамі і тады ўсё будзе зразумела. Да гэтага ў першай частцы заметкі і імкнуўся аўтар ці праўшчык, які залежны сказ, арганіч на звязаны з галоўным, адарваў кропкай і атрымалася вось што:

> «...выступіў сакратар РК КП(б)Б т. Лапацін. Які асабліва падкрэсліў тыя задачы, якія стаяць перад партарганізацыяй»...

З прагледжаных нумароў чырвонапольскага **«Чырвонага сцяга»**, жыткавіцкага **«Прыпяцкага камунара»**, плешчаніцкага **«Барацьбіта за калектывізацыю»** і некаторых іншых газет можна было-б яшчэ шырэй паказаць, што заметкі ў гэтых газетах пішуцца цяжкімі, доўгімі, заблытанымі сказамі, непапулярна, нудна, няма ў іх жывасці. І гэта найбольшы недахоп раённага друку. Вядома, імкнучыся да папулярнасці, нельга пераходзіць грань, нельга займацца папулярнічаннем, цягнуцца ў хвасце адсталых мас.

Вось як наконт гэтага В. І. Ленін гаворыць: «Вытворчая газета павінна быць папулярнай, у сэнсе даступнасці мільёнам, але зусім не ўпадаць у папулярнічанне. Не апускацца да неразвітага чытача, а няўхільна — з вельмі асцярожнай паступовасцю—падымаць яго развіццё» (Ленін, том 25, стар. 479).

Гэтыя словы выразна паказваюць, якой павінна быць наша газета.

Другім недахопам мовы раённых газет з'яўляюцца агульныя фразы, абстрактныя развагі, неканкрэтныя, шаблонныя, збітыя словы і выразы.

Амаль у кожнай раённай (а таксама і радзе цэнтральных) газеце шырока ўжываюць такія словы, як: у галіне, у сэнсе, у адносінах, шляхам, у мэтах, у радзе, маюцца, высоўваць пытанне, завастраць пытанне, зварачаць увагу, разгарнуць справу, ганебнымі тэмпамі, выявіць, вырашыць і інш. Прынцыпова супроць гэтых слоў і выразаў нельга пярэчыць. Але іх трэба ўжываць у меру, бо перапаўненне гэтымі неканкрэтнымі, агульнымі выразамі і словамі газетных матэрыялаў робіць іх аднастайнымі, сухімі, шаблоннымі, «вадой слоў без сэнсу», як гаварыў Ленін.

Ужо амаль анекдатычнымі сталі такія збітыя выразы, якія вельмі часта ўжываюць нашы раённыя газеты:

> «Але на раду з дасягненнямі маюцца і недахопы» (жыткавіцкая газета

**«Прымежны комунар» за 15 ліпеня).**

Каму не прыходзілася чытаць такіх тыповых шаблонных зваротаў:

**«Справа са стварэннем насенфондаў».**

**У галіне збору насення, у галіне барацьбы з класава-варожымі элементамі».**

**«Па лініі арганізацыі».**

**«Шляхам распаўсюджвання на аснове добраахвотнасці».**

Усе гэтыя шаблонныя выразы ўзяты з крупскай раённай газеты. Але яны тыповы і для іншых газет.

Такія звароты толькі прытупляюць астрату большэвіцкай зброі, якою з'яўляюцца нашы газеты.

Возьмем, далей, непатрэбныя паўтарэнні, выкінуўшы якія можна было-б гэта месца заняць другім матэрыялам. А на адсутнасць месца скардзяцца ўсе нашы газеты.

Пакажам толькі паасобныя прыклады.

«Чырвоны сцяг» (чырвонапольская газета) піша:

**«Жнейкі не адрамантаваны і патрабуюць вялікага рамонту».**

Навошта паўтараць два разы словы **«адрамантаваны** і **«рамонту»?**

Або прыклад з жыткавіцкага «Прымежнага комунара»:

**«Калгас па-большэвіцкі падрыхтаваўся як было ўжо сказана па падрыхтоўцы да ўборачнай».**

Такіх сказаў у жыткавіцкай газеце колькі хочаш. Невядома, для чаго патрэбна было тав. **ЯСТРЭМСКАМУ,** які пісаў гэту заметку (ён-жа і рэдагуе газету), устаўляць словы «па падрыхтоўцы»?

З гэтых прыкладаў відаць, як трэба прадумваць кожны сказ, каб не было ў ім лішніх слоў.

Пераходзячы да іншамоўных слоў, на чым таксама трэба завастрыць увагу нашага раённага друку, трэба ўспомніць пра тую барацьбу, якая адбывалася на моваэнаўчым фронце ў БССР. Класавыя ворагі—беларускія контррэволюцыйныя нацдэмы, шырока ўводзячы ў беларускую мову касцёльныя і царкоўныя архаізмы і паланізмы, прапіхаючы ў мову «самабытныя» слоўцы, усімі мерамі стараліся выжываць з яе інтэрнацыянальна-рэволюцыйныя словы. Нацдэмы імкнуліся затрымаць уліццё ў беларускую мову багацця рэволюцыйнай лексікі міжнароднага пролетарыята. Але рабочы клас разам з калгасным сялянствам пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі разбілі контррэволюцыйную нацдэмаўшчыну на ўсіх франтах, у тым ліку і на моваэнаўчым. Выданнем пастановы ўрада аб спрашчэнні і рэарганізацыі беларускага правапіса быў канчаткова нанесен сакрушальны удар нацдэмаўшчыне ў мове.

І цяпер слоўнік нашых газет з кожным днём узбагачаецца рэволюцыйнымі словамі, інтэрнацыяналізмамі, новымі словамі, узятымі з жывой мовы працоўных мас.

Але некаторыя нашы раённыя газеты ва ўжыванні іншамоўных слоў упадаюць у крайнасць. Не шкодзіць успомніць, што В. І. Ленін раіў не ўжываць без патрэбы іншамоўныя словы, калі ёсць удалыя адпаведныя словы неіншамоўнага паходжання.

Шырока ўжываючы такія словы, як апарат, арганізацыя, брыгада, кадры, клас, культура, план і многія, многія іншыя, не гаворачы ўжо пра інтэрнацыянальна-рэволюцыйныя словы, нашаму раённаму друку трэба аднак моцна трымацца ўказанняў Леніна ў гэтым пытанні. Трэба іншамоўныя словы ўжываць толькі тады, калі цвёрда ўпэўнен, што яны да рэчы, а то часта яны ставяцца не к месцу. Напрыклад, **«Чырвоная Лагойшчына»** піша:

«Мы не **арыентаваны** ад выпадкаў пажару»..., а патрэбна было сказаць «Мы не гарантаваны»...

«Чырвоны сцяг» усюды замест «нармальны», або «ненармальны» ўжывае **нармовы»,** або **«ненармовы»,** не гаворачы ўжо пра суфікс **«ір»,** які павінен, як правіла, выкідвацца з іншамоўных слоў. Напрыклад, пішуць **«ігнарыраваць», «канстатыраваць»** і інш. замест «ігнараваць», «канстатаваць».

**«Прымежнаму комунару»** вельмі падабаецца такі выраз: «Штодзенна фурманкі з сенам **цыркулявалі** па здатачны пункт».

Шмат падобных іншамоўных слоў раённыя газетныя работнікі ўжываюць для таго, каб паказаць сваю «асвечанасць», прычым вельмі часта не да рэ-

чы. І калі іншамоўнае слова тым, што яно мала зразумела, аслабляе сілу і вострасць нашага друку, яго трэба не ўжываць.

Пару слоў трэба сказаць наконт **скарочаных** слоў у нашых газетах, так званых канструктыўных слоў. Бясспрэчна, такія скарочаныя словы, як ЦК, СНК, ЦВК, МОПР, Асоавіяхім і многія іншыя, сталі больш пашыранымі, чым поўнасцю расшыфраваныя. Але ў нашых раённых газетах ужываецца вельмі многа мала зразумелых скарачэнняў накшталт БРК, БРЖ, ППР, ДСК, РОЗ, к-с, с-с і шмат іншых. А якраз раённаму друку ў першую чаргу патрэбна памятаць указанні тав. **Кагановіча,** які сказаў, што для большай зразумеласці мовы не трэба ўжываць такія скарочаныя словы як ІТР і іншыя.

Вось тыя моманты, якія трэба было адзначыць для таго, каб дапамагчы нашаму раённаму друку ў рабоце над мовай сваёй газеты.

Некаторыя газеты робяць правільна, калі стараюцца папаўняць запас слоў з жывой мовы. Але бываюць выпадкі, калі тут яны становяцца на няправільны шлях. Развіваць мову, узбагачаць яе патрэбна, вучачыся гэтаму ў В. І. Леніна і тав. Сталіна. Мове трэба вучыцца і ў лепшых рэволюцыйных беларускіх і рускіх пісьменнікаў. Нарэшце, трэба скарыстоўваць жывую мову рабочых і калгасных мас. Але нельга браць вузка мясцовыя словы і ўзаконьваць іх, нельга ўводзіць і такія словы, як скажам, **«кароўская ферма»** (крычаўская газета), **«валакідчыскія маневры»** (чырвонапольская газета), **«усядзібны вучастак»** (таксама), **«шайнасць»** (крупская газета) і іншыя няўдалыя словы.

Мы ведаем, што В. І. Ленін у сваіх творах таксама шырока скарыстоўваў багацце жывой мовы, пагаворкі, прыказкі, але ён іх ужываў к месцу, браў толькі тое, што зразумела і можа дайсці да самых шырокіх працоўных мас.

Для пашырэння і ўзбагачэння газетнай мовы трэба выкарыстоўваць таксама мову рабселькораўскіх пісем і заметак. Рабочы і калгаснік піша ў сваю газету той мовай, якой ён гаворыць. А ў рэдакцыях часта жывы струмень рабкораўскага слова выкідваюць і папраўляюць яго заметку той казённай мовай, якой пішацца ўся газета.

У мове рабочых і калгаснага сялянства ёсць надзвычайнае багацце сінонімаў, жывых эпітэтаў, прыказак, пагаворак—усё гэта, калі яго ўмела выкарыстаць, зробіць мову канкрэтнай, жывой, каларытнай і вострай.

Нарэшце, гаворачы пра мову газет, нельга абмінуць і такі момант, як **сэнс слова.** У нашых газетах вельмі часта даюцца словы з процілеглым сэнсам. Напрыклад, **«забараніць»** і **«абараніць».** Замест таго, каб сказаць: «Член сельсовета абараняе кулакоў», адна раённая газета піша: «Член сельсовета **забараняе** кулакоў». А «забараняе» ў перакладзе на рускую мову азначае «запрещает». Або словы **«пярэчыць» і «супярэчыць»** (першае азначае «возражать», а другое «противоречить») вельмі часта блытаюцца. Напрыклад, «я не возражаю» часта па-беларуску перакладаецца «я не супярэчу», што азначае «не противоречу».

Выраз **«у адносінах»** многімі газетамі даецца няправільна ў адзіночным ліку «у адносіне» і шмат іншых.

У гэтай частцы артыкула разгледжаны хібы нашых раённых газет толькі з боку лексікі. Многія-ж з іх грэшаць супроць элементарнай граматыкі і правапіса. Напрыклад, «Чырвоны сцяг» (чырвонапольская газета. Дарэчы газета ўжывае два тэрміны і **«краснапольскі»** і **«чырвонапольскі»** на адной-жа старонцы. Трэба трымацца чаго-небудзь аднаго) у загалоўку сваёй газеты не патурбаваўся выкінуць нават мяккі знак, які па новаму правапісу тут не патрэбен. Але аб гэтым мы пагаворым у наступных нумарах «Бальшэвіцкага друку».

*А. Валжаноў, М. Нейман*

# Макет і работа над ім

Апарат палітаддзельскай газеты нешматлікі, і ў большасці выпадкаў вёрсткай газеты займаецца сам рэдактар. Дзень, у які вярстаецца газета, рэдактар выкрэслівае са свайго рабочага календара, бо вёрстка, як правіла займае вельмі шмат часу.

Часамі вярстаюць па чарзе рэдактар і сакратар. Часу траціцца столькі-ж, але дадаецца новы элемент: кожны нумар газеты звонку выглядае па-свойму, адпаведна густу і разуменню аб «афармленні» чарговага выпускаючага.

Мала спрактыкаваныя ў пытаннях газетнай тэхнікі рэдактары давяраюць метранпажу або наборшчыку і цалкам спадзяюцца на іх густ. Усё гэта робіць афармленне газеты непастаянным і выпадковым. Выдзяляецца ў газеце не той матэрыял, які рэдакцыя хацела выдзеліць і наадварот. У рэзультаце церпіць чытач, якому цяжка прыстасавацца да «скачучага» афармлення газеты.

Як аўладаць тэхнікай вёрсткі і газетнага афармлення?

Работнік рэдакцыі, які займаецца афармленнем газеты (лепш за ўсё, калі справай будзе займацца пастаянна адзін чалавек, а не ўсе па «чарзе»), павінен перш за ўсё добра ведаць «лічбовыя» даныя сваёй газеты:

**1. Колькі палос у газеце.**

**2. Колькі слупкоў у паласе.**

**3. Колькі радкоў корпуса (або цыцэра) умяшчае адзін слупок, адна паласа, уся газета.** (Разлік трэба весці па асноўнаму шрыфту сваёй газеты).

**4. Колькі знакаў корпуса ўваходзіць у адзін радок.**

Трэба гэта для таго, каб у нумар здаваць столькі матэрыяла, колькі яго можа ўвайсці ў чатыры старонкі — ні больш, ні менш.

Дакладна ведаць, колькі радкоў адпраўлена ў набор, колькі яшчэ трэба адправіць, можна, наладзіўшы ўлік матэрыяла і навучыўшыся падлічваць радкі артыкулаў і заметак.

Дапусцім, што ў друкарскім радку корпуса ўмяшчаецца 35 знакаў (літар, прабелаў паміж словамі і знакі прыпынку), а ў радку артыкула, надрукаваным на машынцы — 54 знакі. Для таго, каб даведацца, колькі радкоў корпусам зойме яшчэ ненабраны артыкул, трэба зрабіць наступныя арыфметычныя дзеянні: падлічыць колькі радкоў у артыкуле, атрыманую колькасць радкоў памножыць на 54 (г. зн. на колькасць знакаў у кожным радку) і атрыманую ў рэзультаце множання лічбу падзяліць на 35 (г. зн. на колькасць знакаў, якія ўмяшчаюцца ў друкарскі радок). Лічба, што атрымліваецца ў рэзультаце дзялення, і будзе колькасцю друкарскіх радкоў.

Ёсць больш просты спосаб: трэба друкаваць на машынцы ўсе артыкулы і заметкі такім чынам, каб у кожным радку была тая-ж колькасць знакаў, якую мае друкарскіх радок, у даным выпадку 35 знакаў.

Можна пайсці па лініі аблягчэння ўліку і далей — друкаваць на лістку заўсёды пэўную колькасць радкоў — 25, 30,35, такім чынам падлік колькасці радкоў у артыкуле не прадставіць ніякай труднасці.

Дапусцім, што газета, якую нам прадстаіць звярстаць, складаецца з 4-х старонак па 5 слупкоў. У кожным слупку 100 радкоў корпуса, г. зн. адна старонка ўмяшчае 500 радкоў корпуса, а ўвесь нумар газеты — 2.000 радкоў.

Ці значыць гэта, што ў нумар трэба здаваць дзве тысячы радкоў? Зразумела, не. Будучыя загалоўкі, шапкі і рысункі выцясняюць частку матэрыяла; апрача таго, першая старонка мае загаловак газеты.

Колькі-ж радкоў трэба здаць на такі нумар? Сярэднія лічбы, узятыя з вопыта паказваюць, што шапкі і загалоўкі, канцоўка, лінейкі і прабельны матэрыял (не лічачы ілюстрацый) займаюць прыблізна 20 проц. усёй газетнай плошчы. Такім чынам на 2, 3 і 4 старонкі трэба здаць радкоў па 400, а на першую яшчэ менш, бо загаловак газеты займае яшчэ паўсотні радкоў. Усяго ў чатырохпалосны нумар увойдзе чыстага тэкста 1.500 радкоў.

Істотным момантам вёрсткі з'яўляецца не толькі правільнае, з пункту гледжання палітычнай важнасці, размеркаванне матэрыяла на газетнай паласе, а таксама быстрыня самога працэса вёрсткі.

Правільнасць і быстрата вёрсткі патрабуюць нейкага падрыхтоўчага працэса, бо звярстаць правільна газету ў атмасферы друкарскай спешкі вельмі цяжка. Такім падрыхтоўчым працэсам з'яўляецца **макетаванне.** Макет — гэта выгляд будучай газеты. Ён дае рэдакцыі магчымасць вызначыць выгляд нумара газеты яшчэ ў працэсе набору або складання плана нумара. Рабіць яго можна двума спосабамі: клеіць і рысаваць.

**КЛЕЕНЫ МАКЕТ.** Калі набор гатовы, рэдакцыя атрымлівае адбітак з яго, г. зн. гранкі. Іх расклейваюць на лістку паперы, роўным газетнай старонцы. У прамежках паміж наклеенымі артыкуламі і заметкамі выпісваюцца загалоўкі і побач намячаюць, якімі шрыфтамі іх набіраць. Адбіткі рысункаў таксама наклейваць на адпаведнае месца — і макет гатовы.

**РЫСАВАНЫ МАКЕТ.** На лістку паперы, разграфленым па колькасці газетных слупкоў, рысуюць будучы выгляд старонкі, г. зн. выпісваюць шапку (або паказваюць нумар яе) на такую колькасць слупкоў, якую яна павінна заняць у газеце. Потым паказваюць стрэлкамі месца кожнага артыкула, заметкі, рысунка, загалоўка. Неабходна строга прытрымлівацца колькасці слупкоў, радковых дзяленняў макета і колькасці радкоў у артыкулах, заметках і рысунках і вызначыць месца для будучых загалоўкаў.

Рам карыстацца рысаваным макетам.

Клеены макет мае рад недахопаў. Яго можна зрабіць толькі **калі набор ужо ўвесь гатовы** і ў рэдакцыю прысланы адбіткі з набору. Расклейванне — працэс даволі марудны і натуральна, што ён не распалагае к таму, каб зрабіць некалькі варыянтаў старонак і выбраць з іх найбольш метазгодны і лепшы. Звычайна пры расклейцы спыняюцца на першым-жа варыянце. Апрача таго клейка мае і рад тэхнічных нязручнасцей. Для клейкі прыходзіцца разразаць гранкі на часткі, што потым пры вёрстцы перашкаджае метранпажу адшукаць адпаведныя слупкі набору.

Галоўная перавага рысаванага макета ў тым, што яго можна зрабіць адначасова са здачай матэрыяла ў набор, грунтуючыся на запісах, зробленых пры адпраўцы матэрыяла ў друкарню.

Апрача таго, лёгка накідаць некалькі варыянтаў паласы і выбраць найбольш удалы.

Як скласці правільны і граматны рысаваны макет?

Адрэдагаваўшы матэрыял, запісаўшы яго з дакладным улікам займаемага ім месца і адправіўшы яго ў набор, мы можам прыступіць да складання макета нумара.

Яго можна ўпадобіць чарцяжу або плану. Ён дае рэдакцыі магчымасць вызначыць выгляд нумара газеты яшчэ ў працэсе набору або складання плана нумара.

На падставе запісаў здачы арыгіналаў у набор мы павінны размеркаваць матэрыял **па палосах,** г. зн. зрабіць **разметку нумара.** Потым устанаўляем, які матэрыял **вядучы** (галоўны) на кожнай паласе і пасля гэтага можна прыступіць да макетавання кожнай паласы ў паасобку і ўсяго нумара газеты ў цэлым.

З якіх элементаў складваецца макет паласы? Перш за ўсё **тэкставы матэрыял.** Гэта велічыня нам вядома па кшытку запісаў арыгіналаў, зданых у набор. Але гэтага мала. Кожная заметка мае загаловак, потым над паласой, або над асобнымі заметкамі, ёсць «шапка» — велічыні пакуль для нас невядомыя, іх і трэба вызначыць. Робіцца гэта такім чынам: у заметцы, напрыклад, 30 корпусных радкоў. Мы рашылі яе развярстаць на дзве калонкі і набраць загаловак 20-м гермесам у два радкі. Успомнім, што ў корпусе 10 пунктаў. Значыцца, радок 20 гермеса=2 радкам корпуса. 2 радкі 20 гермеса=4 радкам корпуса.

2-калонны загаловак выбранага набору кегля ў пераводзе на корпус=8 радкам. Два радкі пойдуць на адбіўку загалоўка і на разбіўку ўнутры заметкі. Значыцца, уся заметка зойме 40 рад-

коў, у тым ліку 30 радкоў чыстага тэкста і 10 радкоў — на загаловак.

Разлік месца, якое займае «шапка», робіцца так: калі мы рашылі першы радок «шапкі» набраць 36-м, другую 16-м і трэцюю 24-м, то ўся «шапка» ў вышыню зойме 36 + 16 + 24=76 пунктаў. Паміж кожным радком «шапкі» мы пракладваем 4 пункты, усю-ж «шапку» адбіваем 6-пунктовым рэглетам. Усяго на адбіўку ідзе 4+4 + 6 = 14 пунктаў. Уся-ж «шапка» разам з адбіўкай мае вышыню 90 пунктаў, або 9 корпусных радкоў. Калі мы развярстаем «шапку» на 3 калонкі, то яна зойме 9х3=27 радкоў, на 4 калонкі—36 радкоў і т. д.

Трэба заўсёды мець на ўвазе, што на «шапкі» і загалоўкі траціцца 15-25 проц. усёй газетнай плошчы.

Калі мы дакладна высвелі, колькі месца займае матэрыял з загалоўкамі і «шапкамі» і маем на руках клішэ рысункаў (або ведаем іх дакладны размер), мы можам рабіць макет. Возьмем газету, на паласе якой чатыры калонкі, вышыня калонкі 100 радкоў корпуса.

На гэтай паласе нам трэба размясціць наступны матэрыял:

1) назва газеты 10х4 = 40 радкоў, 2) перадавы — 68 радкоў, 3) агульная «шапка» на ўсю паласу — 20 радкоў, 4) заметкі 30, 25, 18, 38, 40 радкоў разам з загалоўкамі. Усе гэтыя заметкі «шапка» і перадавы даны на адну тэму — аб сканчэнні хлебаздачы. На гэту-ж тэму даны і два рысункі. Апрача матэрыяла аб хлебаздачы на гэту-ж паласу ў нас ёсць артыкул на 90 радкоў (падвал) аб зімовай партмасавай рабоце ў калгасах.

На нашым макеце няма таго, што павінна быць абавязкова на ўсякім практычным макеце — няма назваў заметак. У даным выпадку мы замянілі іх нумарамі заметак.

Калі ў працэсе складання макета выяўляецца неабходнасць змянення загалоўка заметкі, ужо зданай у набор, то гэта робяць так: пішуць новы загаловак і ўказваюць, які з ужо зданых ён замяняе. «Шапкі» звычайна прыкладаюць да макета і на іх абавязкова, каб унікнуць блытаніны, указваюць, да якой іменна паласы яны адносяцца. Калі на паласе некалькі «шапак», іх трэба апрача таго нумараваць. Клішэ прыкладаюцца ў асобных канвертах, прычым на канверце, прыклеіўшы адбітак рысунка, пішуць, на якую паласу ён ідзе, яго нумар і подпіс. На макеце абавязкова падпісваюць нумар рысунка і подпіс. Усё гэта трэба для **страхоўкі ад блытаніны.**

Каб рабіць макеты, не трэба ніякіх асаблівых прыстасаванняў. Даволі ўзяць чысты ліст паперы і разграфіць яго адпаведна размеру газеты. Гэта будзе макет у натуральную велічыню, над якім лягчэй за ўсё працаваць. Потым, калі рэдакцыя прывыкне да макета, не трэба будзе спецыяльна графіць паперу. На любым старым нумары газеты калярэсным алоўкам можна накідаць будучы нумар газеты, г. зн. макет.

Да кожнага свайго макета рэдакцыя павінна падыходзіць **крытычна.** Гэта значыць, што не трэба абмяжоўвацца адным макетам. Трэба папрабаваць зрабіць яшчэ 1-2 макеты, г. зн. пашукаць другое вырашэнне развёрсткі матэрыяла і выбраць з іх найлепшы варыянт.

**А. Валжанаў і М. Нэйман.**
«Афармленне і вёрстка палітаддзельскай газеты.



**Выстаўка аператыўных бюлетэняў фабрыкі «Спартак» (Гомель), якія выпускаліся ў час агляду харчовай прамысловасці.**

# Штодзенкі „маланкі“ і „стрэлы“

У апошні час усё больш пачалі пашырацца «маланкі» і «стрэлы», згрупаваўшыя ў сабе лепшыя рысы аператыўнасці нізавога друку, яго канкрэтнасці і дзейнасці. «Маланка» — экстраны (тэрміновы) выпуск газеты. «Маланка» асабліва патрэбна зараз у калгасе, дзе вораг маскуецца, глыбока хаваецца, і нізавы бальшэвіцкі друк павінен прымяняць усё больш і больш тонкія метады работы, каб выкрыць яго актыўнасць ва ўсіх, нават самых нязначных праяўленнях.

«Маланка» кароткая і канкрэтная. Яе ўдары быстрыя.

«Маланка» паведамляе аб факце, які здарыўся сёння, яна паказвае, па чыёй віне, дзе іменна і пры якіх умовах адбылося адставанне, зроблена памылка і т. п.

«Маланка» можа складацца нават з адной заметкі. Тэхніка выпуску яе простая: калі няма машынкі, можна пісаць пад капірку проста ад рукі. Справа не ў колькасці матэрыяла, а ў яго палітычнай завостранасці, канкрэтнасці і надзеннасці.

Агрaмадная сіла заключаецца ў гэтым маленькім жывым інструменце.

Але нельга злоўжываць гэтым інструментам. «Маланка» павінна абавязкова даводзіць справу да канца. «Бліснула маланка — ударыць гром» — так павінен думаць кожны калгаснік. «Маланкі» — добрая дапамога рэйду, агляду конкурса або якой-небудзь іншай масавай кампаніі. Яны — неадлучнае звяно работы ўдарных брыгад друку.

«Маланкі», напрыклад, арганізуюць калгаснікаў на ліквідацыю адставання ў падрыхтоўцы да вясны, сігналізуюць аб паломцы трактара, аб факце дрэннай сяўбы і т. д. «Маланкі» падхапляюць цікавы вопыт і хутка разносяць яго па брыгадах. «Маланкі» — добры сродак узмацнення актыўнасці на сходах калгаснікаў і калгасніц. Уявіце сабе сход па пытанню аб рабоце сельпо. Дакладчык дае справаздачу. Выступленняў мала, сёй-той баіцца сапсаваць адносіны з загадчыкам магазіна. Але побач са сходам засядае рэдкалегія насценгазеты. Яна сабрала прапановы і крытычныя заўвагі аб рабоце сельпо. Шмат матэрыяла ёй не патрэбна, яна імкнецца высветліць і паказаць асноўныя недахопы ў рабоце сельпо. Праходзіць 30-40 мінут і на сходзе з'яўляецца невялікая насценгазета з двума-трыма крытычнымі заметкамі. Яе перадаюць з рук у рукі. Яна ўзбуджае, дзейнічае. З яе дапамогай на сходзе разгортваецца крытыка.

Нарэшце, «Маланка» — гэта добры ўчотчык. Яе можна паставіць ля малатарні, у рамонтнай майстэрні, у школе. Яна будзе паказваць калгаснікам, як ідзе работа на важнейшых участку.

Словам, «Маланка» можа быць выпушчана рэдкалегіяй брыгаднай газеты ўсюды, дзе патрабуюцца хуткія і рашучыя дзеянні, актывізацыя мас, выяўленне ініцыятывы, настойлівасці, ажыццяўленне работы. Скарыстайце вопыт «Маланкі» ў брыгадах.

Юр. Т.

# Абываталь у газеце

Усё пачалося з таго, што

**«... у адзін з прыгожых дзён чэрвеня ў мястэчку Узда з'явілася аб'ява наступнага зместу:**

**«Толькі адзін дзень. Беларускі соўгасны тэатр малых форм».**

Тав. Б. СОРЭНЗОН, займаючы пост рэдактара раённай газеты, рашыў адзначыць прыезд тэатра спецыяльным выступленнем у друку.

Што-ж, ініцыятыва пахвальная. Справа патрэбная. Толькі тэатру малых форм ад гэтай ініцыятывы не паздаровілася. Скажам ясней: рэдактар без усякай літасці асвістаў калектыў тэатра, пакрыў яго ганьбою на ўсю Узду.

На старонках «КАЛГАСНІКА УЗДЗЕНШЧЫНЫ» ў тэрміновым парадку змяшчаецца фельетон пад інтрыгуючым загалоўкам «ФІНАЛ АДНАГО ВЫСТУПЛЕННЯ».

Бравы уздзенскі фельетаніст пачынае сваю неміласэрдную расправу над тэатрам. Б'е і ў анфас, і ў профіль, ганьбуе па меры сваіх сіл і магчымасцей.

За што-ж такая няміласць? У чым правініліся бедныя артысты тэатра малых форм перад грозным і непрымірымым рэдактарам? Што выклікала гнеў тав. Б. Сорэнзона?

Пільнае вока фельетаніста, аказваецца, убачыла, што ў калектыва соўгаснага тэатра малых форм

**«... было жаданне паказаць сябе, як артыстаў вялікіх тэатраў».**

Моцны аргумент!.. Выкрыўшы такія кашмарныя мэты артыстаў, рэдактар выносіць свой бязлітасны прыгавор:

**«... КАЛІ НАВАТ НЕ РЭЦЭНЗІРАВАЦЬ ВЫСТУПЛЕННЕ СОЎГАСНАГА ТЭАТРА, ТО ЎСЁ РОЎНА МАСТАЦКАГА ТАМ БЫЛО ВЕЛЬМІ МАЛА».**

Ударыўшы абухам па галаве, рэдактар не палічыў патрэбным спыніцца больш-менш грунтоўна на самім выступленні тэатра, на ігры паасобных артыстаў.

Не, тое, што рабілася на сцэне, тое, што ён бачыў уласнымі вачыма перад адкрытай заслонай, менш за ўсё цікавіла фельетаніста. Не для гэтага ён завастрыў сваё пяро. Не спектаклю ён прысвячае фельетон.

Бясстрашна і самаахвярна рэдактар бярэ на сябе вялікую і слаўную місію: выкрыць поўным голасам, так, каб пачулі ўсе уздзенскія абывацелі, некаторыя інтымныя пікантныя дэталі... І ён, натхнёны гэтай «высокай» ідэяй, з нецярплівасцю чакае, пакуль спусціцца заслона...

Позняй ноччу скончыўся спектакль. Апусцілася заслона. Але ў адважнага рэдактара уздзенскай газеты асаблівая пільнасць, завостраная як клінок:

**«СКОНЧЫЎСЯ СПЕКТАКЛЬ. ЦІ СКОНЧЫЎСЯ ЁН? НЕ. ТОЛЬКІ СПУСЦІЛАСЯ ЗАСЛОНА...»**

Т...сс, насторажыцеся: тут нейкая тайна. Спектакль скончыўся, гледачы разышліся. Ушлі і артысты адпачываць пасля выступлення. А пільны і нястомны рэдактар запэўняе, што ўсё гэта няпраўда, што спектакль не скончыўся, што проста толькі спусцілі заслону...

Фельетаніст недарэмна навастрыў сваё пяро. Рэдактар усё выкрые, усё высветліць і, у прыватнасці, тое, што адбылося пасля таго, як артысты, скончыўшы выступленне,

**«... накіравалі свае крокі да уздзенскай гасцініцы».**

І так артысты прыбылі ў гасцініцу:

**«Праўда, загадчыца гасцініцы не вельмі ветліва з імі абышлася. Яна забыла, што трэба змяніць бялізну, што неабходна лампа. Але артысты народ бывалы, яны ўлічылі, што можа быць такое здарэнне і захвацілі з сабой сваю бялізну. За тое загадчыца**

**ГАСЦІННІЦЫ АСТАВІЛА ІМ НЕКАЛЬКІ СВАБОДНЫХ ЛОЖКАЎ».**

Чытач, не абурайцеся. Вы здзіўлены і нічога не разумееце, прычым тут нейкія двухсэнсоўныя намёкі па поваду заслоны, каму патрэбны гэтыя дэталі наконт бялізны і свабодных ложкаў, калі гутарка павінна ісці аб якасці выступлення тэатра малых форм перад уздзенскімі гледачамі?

Цярплівасць і яшчэ раз цярплівасць. Што мы можам зрабіць, калі тав. Б. Сорэнзон не карыстаецца іншымі крытэрыямі ў ацэнцы тэатра, апроч... бруднай бялізны. Будзем-жа ўважліва слухаць, аб чым фельетон гаворыць далей:

**«... ПАСЛЯ ГУТАРАК УСЕ ЗАСНУЛІ. ЗАСНУЛІ І АРТЫСТЫ, І ЛЮДЗІ, ПРЫБЫЎШЫЯ Ў УЗДУ ПА СПРАВАХ.**

**АЛЕ ТУТ ПАЧЫНАЕЦЦА ТОЕ, ЧАГО НЕ МАГЛА ПРАДБАЧЫЦЬ НІ ЗАГАДЧЫЦА ГАСЦІННІЦЫ, НІ КАМАНДЫРАВАНЫЯ...**

**РАНІЦОЙ УСЁ ВЫСВЕТЛІЛАСЯ. ВЫСВЕТЛІЛАСЯ, ШТО НЕКАТОРЫЯ ЛОЖКІ АСТАЛІСЯ СВАБОДНЫМІ, БО ЛЮДЗІ СПАЛІ ПА ДВОЕ. МОЖА БЫЦЬ АРТЫСТЫ БЫЛІ МУЖ'Я З ЖОНКАМІ».**

Рэдактар з імпэтам смакуе дэталі сваёй экспедыцыі ў гасцінніцу мястэчка Узда. З бурным энтузіязмам ён капаецца ў бруднай бялізне, і мы не сумняваемся, што ён заслужыў удзячныя апладысменты заінтрыгаванай абывальшчыны.

І рэдактар стараецца, каб толькі лепш задаволіць густ абывателя. На старонках сваёй газеты ён нястомна апісвае, як «... на ложках безмяцежна спалі ў абдымках артысты з артысткамі».

Апісвае і чытае мараль, сам смакуючы сваю-ж уласную пошласць:

**«НАПЭЎНА АРТЫСТЫ АДЧУВАЛІ СЯБЕ Ў ГАСЦІННІЦЫ, ЯК ДОМА: ВОЛЬНА, ПРЫВАБНА. ПРЫЧЫМ ТУТ ЗАСЛОНА? ЯНЫ ЛІЧЫЛІ, ШТО З'ЯЎЛЯЮЦЦА ПРАДСТАЎНІКАМІ РЭАЛЬНАГА СВЕТА І ТАМУ АДКІНУЛІ Ў БОК УСЯКІЯ ТАМ АБЫВАТАЛЬСКІЯ «ЗАБАРОНЫ».**

**ХТО МОЖА ЎТРЫМАЦЬ АРТЫСТЫЧНЫЯ, БАГАТА АДАРОНЫЯ РЭАЛІЗМАМ НАТУРЫ? ХІБА ЗАГАДЧЫЦА ГАСЦІННІЦЫ ЦІ КАМАНДЫРАВАНЫЯ? ДРОБЯЗЬ, МЕЛЮЗГА, ХІБА ЯНЫ РАЗУМЕЮЦЬ ШТО-НЕБУДЗЬ У САПРАЎДНЫМ РЭАЛІЗМЕ.?»**

Дрыжыце «артыстычныя, багата адароныя рэалізмам натуры». Дрыжыце, няшчасныя прадстаўнікі «рэальнага свету». Тав. Б. Сорэнзон, геraічны і самаадданы баец за гонар мундзіра уздзенскай гасцінніцы, пакажа вам, што значыць крыўдзіць мараль. Ёсць яшчэ порах у парахаўніцах рэдактара «Калгасніка Уздзеншчыны» і ён ні за што не дазволіць, каб на тэрыторыі уздзенскай гасцінніцы дапускалася «вульгарызацыя рэалізма». О, не!

**«... ГАСЦІННІЦА МЕСЦА ГРАМАДСКАЕ. У ЁЙ НЕ ДАПУСКАЕЦЦА ВУЛЬГАРЫЗАЦЫЯ РЭАЛІЗМА, НА ШТО ЗДОЛЬНЫ АРТЫСТЫ-МАСТАКІ СОЎГАСНАГА ТЭАТРА БЕЛАРУСІ».**

«Фінал аднаго выступлення» скончан. Абываталь у газеце, відавочна, змарыўся без канца смакаваць сваю-ж пошласць і таму ставіць кропку, заключаючы свой, з дазволу сказаць, фельетон суровым вывадам:

**«У ДАНЫМ ВЫПАДКУ МЫ МАЕМ СПАЛУЧЭННЕ ХАЛТУРЫ З НАХАБНАСЦЮ».**

Вы ўгадалі, хоць і адносіце гэтыя словы не па адрасу. А ну, падумайце, павярушыце мазгамі, каму трэба адрасаваць гэтыя словы? Маўчыце, не хочаце прызнавацца.

Што-ж, скажам за Вас: ваш фельетон талантліва спалучае ў сабе халтуру з пашляцкай самай высокай маркі.

І мы па сяброўску раім вам адмовіцца быстрэй ад ролі пастаўшчыка матэрыялаў для абывальшчыны. І чым хутчэй, тым лепш і для вас, і асабліва для газеты.

# МАРЫ АБ ДУХАВЫМ АРКЕСТРЫ

## АБО

## як у Заслаўлі праводзяць рабселькораўскія злёты

Вялікая зала заслаўскага дома культуры. Сям-там на лаўках сядзяць людзі — чалавек шэсцьдзесят. Яны расселіся ў розных кутках і ад гэтага здаецца, што іх яшчэ менш.

Гэта — злёт рабселькораў раёна. На сцэне — прэзідыум. Сцэна аддзелена ад пярэдніх радоў высокім бар'ерам.

Адзін за адным выходзяць на сцэну прамоўцы. Тыя, што сядзяць у канцы залы, амаль не чуюць, аб чым гавораць прамоўцы. Па зале ўвесь час разносіцца гул размоў.

Нарэшце, рэдактар раённай газеты тав. **БІКАШОЎ** абвясціў перапынак на абед. Дэлегаты шумна паўскаквалі са сваіх месц. Ля выходных дзвярэй— натоўп. Ужо выходзячы на вуліцу, дэлегаты чулі голас т. Бікашова: «Толькі-ж каб ніхто не задумаў пасля абеда паехаць дадому. Глядзіце!»

Гэта заўвага рэдактара мела сэнс, але не зрабіла належнага ўздзеяння. Пасля абеда ў дом культуры з'явілася толькі палова дэлегатаў, астатнія раз'ехаліся па хатах. Яшчэ два-тры прамоўцы без поспеху прабавалі са сцэны прыцягнуць увагу жменькі людзей, што асталіся ў зале. Заключная прамова рэдактара («пабольш пішыце ў раённую газету, трымайце моцную сувязь») і злёт абвясцілі закрытым.

І ўсё-ж рэдактар астаўся задаволен злётам. «Праўда, дэлегатаў было малавата, пасля абеда паехалі многія, але ўсё-ж накачалі здорава, зарадку далі. Вось толькі не ўдалося аркестр дастаць на злёт». І доўга яшчэ рэдактар лаяў розныя мясцовыя арганізацыі: «Абяцалі даць аркестр і ў самы апошні момант падвялі».

Мы хочам пярэчыць тав. Бікашову. На нашу думку заслаўскія селькоры атрымалі на гэтым злёце ўсё-ж вельмі малую зарадку.

Праўда, выступіўшыя два дакладчыкі не шкадавалі ні часу, ні сіл сваіх, каб растлумачыць селькорам чарговыя задачы партыі і ўрада ў правядзенні ўборачнай і загатоўчай кампаніі. Гэта добра. Але селькораў не навучылі на злёце таму, **ЯК-ЖА** за выкананне гэтых задач павінны змагацца калгасныя і брыгадныя насценгазеты.

Заслаўскія таварышы ўсё яшчэ не разумеюць, што зараз нельга праводзіць селькораўскія злёты так, як некалькі год назад.

Рабселькораўскі рух за апошнія гады значна вырас, ускладніліся задачы, што стаяць перад рабселькорамі, ўраслі і запатрабаванні саміх рабселькораў. Усё гэта выклікае неабходнасць паляпшэння кіраўніцтва рабселькорамі і насценгазетамі з боку раённых газет. Рабселькораўскія злёты, якія з'яўляюцца адной з састаўных частак кіраўніцтва рабселькорамі, у нас праводзяцца яшчэ вельмі дрэнна, аб чым сведчыць хоць-бы апісаны заслаўскі злёт.

Як трэба было правесці гэты злёт? Безумоўна, патрэбен кароткі, змястоўны і талковы даклад-гутарка аб чарговых задачах партыі. Пасля такога даклада адзін з работнікаў рэдакцыі павінен быў правесці гутарку з дэлегатамі хоцьбы па такіх пытаннях: як арганізаваць выпуск палявой насценгазеты ў брыгадзе ў часе ўборачнай, як арганізоўваць матэрыял, праводзіць масавую работу (рэйды і інш), як дабіцца рэагавання на заметкі і т. д.

Работнікі раённай газеты павінны былі за некалькі дзён да злёту падрабязна азнаёміцца з двума-трыма калгаснымі насценгазетамі, добра вывучыць іх змест і расказаць дэлегатам злёту, што ў гэтых насценгазетах добрае і што дрэннае. Вось такая вучоба на канкрэтных прыкладах дала-б селькорам іменна тое,

што ім асабліва патрэбна — практыку выпуску насценгазеты.

Трэба было загадзя падрыхтаваць выступленне двух-трох рэдактароў лепшых насценгазет, каб яны падрабязна расказалі вопыт сваёй работы, усё да самых драбніц. На злёт можна было-б запрасіць райпракурора, які расказаў-бы, як трэба дабівацца рэагавання на допісы.

Вось некалькі нашых заўваг да таго, як можна было з найбольшымі рэзультатамі правесці раённы рабселькораўскі злёт. І, верце, таварышы з заслаўскай газеты, што з такога злёту дэлегаты не паўцякалі-б дадому, а ўважліва слухалі-б выступаючых і вучыліся-б лепш працаваць.

КРЫТЫЧНЫЯ ЗАМЕТКІ

# Жывуць яшчэ плагіятары

Рэдакцыя «Бальшэвіцкага друку» атрымала з палітаддзела Магілеўскай МТС пісьмо. У гэтым пісьме работнік палітаддзельскай газеты скардзіцца на плагіятараў з Боркавіцкай палітаддзельскай газеты. Не паспеў тав. **Мірoненка** даць у магілеўскай палітаддзельскай газеце «шапку», як яна ўжо рэхам адбіваецца ў Боркавічах. 5-га мая газета палітаддзела Магілеўскай МТС **«Сцяг ЛЕНІНА»** дала старонку.

**«Выкараніць старыя бюракратычныя метады ў рабоце МТС, забяспечыць аператыўнае кіраўніцтва работай трактарнага парка.**

**План веснавой ўспашкі трактарамі МТС выканан толькі на 54,2 проц.».**

Водгукі гэтай «шапкі» шпарка дакаціліся да боркавіцкай палітаддзельскай газеты і 13 мая яна паўтарыла

**«План веснавой ўспашкі трактарамі МТС выканан толькі на 57,4 проц.**

**Выкараніць старыя бюракратычныя метады ў рабоце МТС. Забяспечыць аператыўнае кіраўніцтва трактарным паркам».**

5 мая «Сцяг Леніна» ў тым-жа артыкуле пісаў:

**«План веснавой успашкі на 30 красавіка трактарным паркам Магілеўскай МТС выканан толькі на 54,2 проц.**

Работнікі боркавіцкай газеты падставілі ў гэты абзац сваю лічбу і вышаў «свой», «мясцовы» матэрыял:

**«План веснавых работ у пераводзе на ўспашку на 10 мая трактарным паркам МТС выканан толькі на 57,4 проц.**

Магілеўская палітаддзельская газета пісала:

**«Гэтыя лічбы сведчаць аб сур'ёзнай пагрозе зрыва плана веснавой ўспашкі трактарным паркам. Сведчаць яны аб тым, што дырэкцыя МТС на чале з дырэктарам МТС Ванчуком і рабочкомам на чале са старшынёй Госіным яшчэ не перабудавалі сваёй работы па-новаму ў адпаведнасці з рашэннямі XVII партз'езда, не арганізавалі глыбокага кантроля праверкі выканання».**

А боркавіцкая газета, унёсшы «невялічкія папраўкі», падала гэты абзац у такім выглядзе:

**«Гэтыя ганебныя лічбы сведчаць аб сур'ёзнай пагрозе зрыва выканання вытворчага плана трактарнага парка.**

**Гэта сведчыць аб тым, што работнікі МТС на чале з дырэктарам Чыкуновым—рабочкомам Зубавым, яшчэ не перабудавалі сваёй работы па-новаму. У адпаведнасці з рашэннямі XVII з'езда ВКП(б), не арганізавалі глыбокага кантроля выканання».**

Жывуць яшчэ плагіятары, якія нават штампаваныя, трафарэтныя, канцылярскія выразы другіх газет здольны выдаваць за свой «уласны», «арыгінальны» матэрыял.



# Ініцыятыва практыка вопыт



◆ **«Рэчыцкая праўда»** змяшчае аператыўную старонку **«Каса дапаможа бальшэвіцкімі тэмпамі правесці ўборку».** Газета на аснове матэрыялаў «Звязды» папулярызуе вопыт прыстасавання касы на ўборцы ў калгасах Сенненскага раёна, друкуе рад артыкулаў і выступленняў перадавых калгаснікаў раёна, перадае мясцовыя, удасканаленыя спосабы прыстасавання касы на ўборцы ўраджаю. Калгаснікі Ганчароў і Рупейка пішуць у раённую газету: «Да касы абавязкова павінны быць прыстасаваны дужкі (грабелькі, каб скошваемае жыта роўна клалася ў пракос, а не валілася праз пятку касы направа. Гэта прыстасаванне, якое ўсім вядома па касьбе грэчкі, толькі ўдасканалена для касьбы жыта».

◆ **«За бальшэвіцкі калгас»** — газета палітаддзела Капыльскай МТС — выпускае «вестачкі гонару», «напамінкі», «лісткі трывогі» і «весткі ганьбы», якія пасля іх запаўнення пасылаюцца адпаведнаму перадавому або адстаючаму калгасу. «Напамінкі» або «лісткі трывогі», пасылаемыя калгасу або брыгадзе, сігналізуюць аб адставанні на тым ці іншым участку і паказваюць, за якія канкрэтныя заданні павінна зараз узяцца брыгада.

◆ **На ахову калгаснага хлеба вышлі піонерскія дазоры** — пад такім лозунгам змяшчае аператыўную старонку бягомльская раённая газета **«Калгасны змагар».** У старонцы выступаюць піонеры — вартавыя калгаснага ўраджаю. Газета ў артыкуле пам. нач. палітаддзела па комсамолу тав. Хеймана расказвае аб дзенніках барацьбы за высокі ўраджай, якія ўводзяцца кожным піонерскім пастом. У дзеннік аховы калгаснага збожжа і барацьбы за ўраджай піонеры запісваюць аб зробленых патравах, аб выяўленых раскрадвальніках калгаснага ўраджаю і расказваюць аб недахопах у рабоце паасобных вартаўнікоў.

◆ **Бюро Петрыкаўскага РК КП(б)Б** абмеркавала вынікі рэйда праверкі рэагавання раённымі арганізацыямі на матэрыялы друку і заметкі селькораў. Рэйдам праверана 13 раённых арганізацый. Выяўлена, што ў паасобных установах і арганізацыях (нарсуд, райсаюз) няма нават уліку паступіўшых для рэагавання пісем працоўных.

Загадчыку раённага аддзела аховы здароўя **Фрыдман** і начальніку міліцыі **Сваткову** за бюракратычныя адносіны да пісем працоўных і затрыманне расследвання на два і больш месяцаў абвешчана суровая вымова з папярэджаннем.

◆ **Бюлетэнь, прысвечаны падрыхтоўцы да раённага злёта селькораў,** рэдактароў насценных газет і інспектароў па якасці выдае чэрыкаўская раённая газета **«Соцыялістычная перамога».** Бюлетэнь мабілізуе селькораў ударнай работай на ўборцы заваяваць права на атрыманне чырвонага пераходнага сцяга раённай газеты.

◆ **Калгасную смякалку на барацьбу са стратамі** — з такім заклікам звярнулася да калгаснікаў раёна ельская газета **«Бальшэвіцкі змагар».** 18 ліпеня газета прысвячае гэтаму пытанню амаль усю першую старонку. Пад аншлагам «Усе вагары на ўборку зернавых, на барацьбу са стратамі» газета перадае вопыт рацыяналізацыі сельска-гаспадарчай вытворчасці ў калгасах Маскоўскай вобласці. Коласападымацель для ўборкі палёглага жыта, конныя драўляныя граблі — усё гэта вынаходка саміх калгаснікаў, якая зберажэ ад страт дзесяткі цэнтнераў зярна.

◆ **Гумарыстычны бюлетэнь «АСА»** пачала выдаваць газета Заслаўскай МТС **«Палітаддзельская звязда».** На раённым злёце рабселькораў гумарыстычны бюлетэнь карыстаўся выключнай увагай. На злёце была арганізавана выстаўка вышаўшых нумароў бюлетэня і нізавога калгаснага друку раёна.

◆ **Куставыя злёты рэдактароў соўгасных, калгасных і брыгадных насценгазет,** рабселькораў, брыгадзіраў, інспекта-

роў па якасці і актыва органаў юстыцыі
склікае касцюковіцкі РК КП(б)Б. Злёты
абмяркуюць задачы нізавога калгаснага
друку, селькораў і ўсяго актыва ў пытан-
нях аховы ўраджаю, разгортвання ўбор-
кі і падрыхтоўкі да хлебапаставак. Злёты
павінны мабілізаваць нізавы калгасны і
соўгасны друк і селькораў на высокую
якасць уборкі і абмалоту.

Злёты праводзяцца ў 11 пунктах раёна.

◆ **Ізотавец калгаснай вытворчасці Осі-
паў Пётра** выступіў на злёце старшынь
перадавых калгасаў Сіроцінскага раёна і
расказаў аб «сакрэтах» сваіх перамог на
касьбе. Тав. Осіпаў дасягнуў рэкордпай
нормы — ён скошвае за дзень 1,30 гекта-
ра сенажаці. Раённы агроном тав. **Васі-
леўскі** на месцы азнаёміўся з работай
лепшага касца раёна і расказаў злёту пра
Осіпава, як пра лепшага ўдарніка раёна,
які вывучыў усе капрызы касы і працуе
чэсна і самаадддана.

Раённая газета **«Ленінскі шлях»** жыва
падхапіла гэты лепшы вопыт перадавога
касца і перадае яго ўсім калгаснікам.
«Сакрэт» перамог Осіпава ва ўдарнай ра-
боце, у раннім выхадзе на касьбу, у кась
бе з расой, у найлепшай праўцы касы і
ў аўладанні ўсёй тэхнікай касьбы.

16 ліпеня раённая газета прадаўжае па-
каз лепшых ізотаўцаў калгаснай вытвор-
часці. У гэтым нумары газета расказала
аб тым, што метады Осіпава падхоплены
многімі калгасамі раёна і што ў «Чырво-
най зорцы» старшыня калгаса **Путроў Ан
тон** даў новыя рэкорды па касьбе — **ён
скасіў за дзень 1,53 гектара сенажаці.**

# ШТО НОВАГА ў палітаддзельскім друку

✱ Па **«ЛЕНІНСКІМ ШЛЯХУ»**—газета па-
літаддзела Лагойскай МТС—арганізавала
пастаянную старонку вопыта работы пар-
оргаў у калгасах. Першым у старонцы во-
пыта выступіў парторг калгаса «Профін-
тэрн» тав. **Жэсткоў,** і расказаў, як калгас
рыхтуецца да жніва. У брыгадах створа-
ны звенні, абмеркаваны нормы выпрацоў-
кі, разгортваецца соцспаборніцтва на хут-
чэйшую ўборку ўраджаю без страт.

Да 1 ліпеня калгас адным з першых у
раёне скончыў касьбу і выканаў план се-
напаставак дзяржаве.

✱ **Рэзалюцыі чэрвеньскага пленума ЦК
ВКП(б)** аб паляпшэнні і развіцці жывё-
лагадоўлі і аб выкананні плана паставак
зярна і мяса выдала асобнай брашурай і
разаслала ва ўсе калгасы раёна газета па
літаддзела 1-й Менскай МТС—**«Ударнік
калгасных палёў».** Адначасова газетай вы-
даны макеты насценгазеты «За пяршын-
ства на ўборцы і хлебапастаўках».

✱ Усераённае спаборніцтва машыністаў аб-
вешчана слуцкім РК КП(б)Б, палітаддзе-
лам МТС і РВК па ініцыятыве комсамоль-
ца **Смольскага.** Газета палітаддзела Слуц-
кай МТС **«ЗА ТЭМПЫ І ЯКАСЦЬ»** жыва
падхапіла гэту ініцыятыву. З нумара ў ну
мар газета дае падборкі аб уключэнні ў
конкурс калгаснікаў, працуючых на жня-
ярках, снопавязалках і касілках. Газета
змяшчае ліст 25 курсантаў машыністаў,
якія, прапрацаваўшы на курсах 25 дзён,
добра вывучылі ўборачныя машыны і аба-
вязаліся дабіцца высокаякаснай работы
машын: «Каб нашы жняяркі і касілкі бы
лі лепшымі ў раёне»—пішуць курсанты.

✱ **ДЗЕНЬ СЕЛЬКОРА** праводзіць у на-
цыянальным польскім калгасе імя Ланцуц-
кага рэдакцыя **капыльскай** палітаддзель-
скай газеты **«ЗА БОЛЬШЭВІЦКІЯ КАЛГА-
СЫ».** На куставым сельсовецкім злёце
селькораў будуць прапрацаваны пастано-
вы чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) і
ўсебакова абмеркаваны задачы нізавога
калгаснага друку.

У дзень селькора ў калгасе імя Ланцуц
кага арганізуецца выстаўка нізавога кал-
гаснага друку ўсяго раёна. Вечарам пас-
ля дзелавой часткі сіламі селькораў і ка-
лектыва рабочых МТС арганізуецца ма-
стацкая частка (пастаноўка п'есы, выпуск
«жывой газеты», выступленне харавога
гуртка, струннага аркестра).

✱ **«ТРЫБУНУ БРЫГАДЗІРА»**—аддзел з
паказам вопыта работы лепшых калгасных
брыгадзіраў арганізавала на сваіх старон-
ках магілёўская палітаддзельская газета
**«СЦЯГ ЛЕНІНА».**




## Аб „арыентацыі ад пажару" недысцыплінаваных свінях

Бяда, калі людзі ўжываюць іншамоўныя словы, не разумеючы іх значэння.

Вось, напрыклад, чулі работнікі **ЛАГОЙСКАЙ** газеты слова **«арыентацыя»**. Спадабалася яно ім: гучнае такое слова. А вось што яно азначае—не ведаюць. Бо калі б ведалі, не напісалі-б у артыкуле «наладзіць супроцьпажарную ахову» (нумар за 3-е ліпеня) такога сказу:

> **«Мы не АРЫЕНТАВАНЫ ад выпадкаў пажару з-за неасцярожнага абыходжання з агнём».**

Зблыталі, чебаракі, словы «арыентацыя»




і «гарантыя» і напісалі «арыентаваны» замест **«ГАРАНТАВАНЫ»**.

У **ЧЫРВОНАЙ ЛАГОЙШЧЫНЕ«** і не такія рэчы сустракаюцца. Па запэўненням газеты ў Лагойскім раёне збожжа паступае на склад раней, чым яно ўбрана з поля.

Паслухайце толькі, што пішацца ў гэтым-жа артыкуле «Чырвонай Лагойшчыны»:

> **«Хутка ПАЧНЕЦЦА ўборка зерневых. Склады калгасаў НАПАЎНЯЮЦЦА рознымі відамі збожжа».**

У Лагойшчыне, калі паслухаць газету, «злучная **кампанія** пастаўлена **«на пагрозу зрыва»**, цяляты гінуць **«на апошніх днях»**,

> **НА АПОШНІХ ДНЯХ цялё ўшчаміўшыся ў загароду задушылася».**

Свінні ў соўгасе «Слабодка» не дысцыплінаваны. У гэтым-жа нумары лагойскай газеты ад 3-га ліпеня ў артыкуле аб свінагадоўлі ў соўгасе «Слабодка» пішацца:

> **«Адсутнічае дысцыпліна сярод АБСЛУГОЎВАЕМАГА персанала».**

Хто-ж каго абслугоўвае, т. **Чаплінскі.**

Персанал абслугоўвае свіней, ці свінні абслугоўваюць персанал? Калі першае, то трэба было напісаць «сярод абслугоўваючага персанала», таксама як трэба было напісаць: «злучная кампанія пастаўлена **пад пагрозу зрыва»**, а не «на пагрозу», **«у апошнія дні»**, а не «на апошніх днях», **«Чарэйчыкаў прымірыўся з такім становішчам»**, а не «прымірыўся к такому становішчу», як напісана ў вас у газеце ад 3-га ліпеня.

## Суддзя сядзіць на вазе

> **«Суддзя сядзіць НА ВАЗЕ (не сядзіць, а плавае). Побач сакратар суда. Жанчына. Хочацца суддзі ПАКАРАЦЬ поўнае ласкавасці жаночае сэрца. Тут ён ужо не суддзя, а любоўнік, рыцар,**

**Дон-Жуан. Але жаночае сэрца не толькі ласкавае, яно поўна нянавісці да п'яніцы, дыскрэдытуючага ўладу, ганьбуючага імя АХОЎНІКА—рэволюцыйнай**



**законнасці — імя суддзі, якое носіць САРАКАГРАДУСНЫ ГЕРОЙ»**
(Падкрэслена намі. **«Бол. друк»**)

Такой мовай напісан нібы артыкул, нібы фельетон у веткаўскай раённай газеце» **За большэвіцкія тэмпы»** за (11-га ліпеня).

За што-ж гэта «караць ласкавае жаночае сэрца», тав. **Длугашэўскі?** Як гэта сэрца адначасова можа быць і ласкавае, і поўнае нянавісці? І ці ведае калгаснік—чытач вашай газеты, хто такі Дон-Жуан?

Праўда, ёсць вельмі ўдалыя, напісаныя з пачуццём, месцы ў гэтым артыкуле. Але такія сказы, як прыведзеныя вышэй, такія сказы, як **«ЭХ ТЫ ГОРКАЯ, ПОЎЛІТРА ВЫСЁРБАНАЯ»**, як **«ІНСТРУКТАР ПА МЯСУ»** (што гэта яшчэ за пасада?) псуюць усю справу.

Нядарма кажа старая прыказка, што лыжка дзёгцю можа сапсаваць бочку мёду.

## „Патравы" ў Асвейскай газеце

**«Калгас «Сако і Ванцэці» не аспабаніў рукі для ўборкі гёчу і хлябоў».** Такі загаловак чытаем мы ў нумары Асвейскай райгазеты **«ЛЕНІНСКІ ШЛЯХ»** за 19 ліпеня.

Аб якіх руках ідзе гутарка, т. **ШЛЯФЕР?** Ад чаго іх вызваліць трэба:—занятыя яны чым, ці пазавязаны?

Невядома і другое: ці гэты калгас уласнасць Сакко і Ванцеці, ці калгас імя іх.

Пад прыведзеным вышэй загалоўкам чытаем:

> **«Тут-жэ пэд носам у праўлення мэецца 1 га выключна высокаякаснага жыта, але яго напалову куры калгаснікаў патравілі».**

Вельмі добра, што рэдакцыя гэта ўбачыла. Горш тое, што пад носам у рэдактара «куры» з друкарні «травяць» паласу газеты, выдзёўбываюць з слоў асобныя літары: **ПЫДЗЕЛАНЫ** (прыдзеланы), **СТРАЯХ** (сараях), **ТАРШЫНЮ** (старшыню), **СНВЕТАЎ** (советаў), **УРРДЖАЮ** (ураджаю), **ПАБЕЛНЫ** (пабелены), **ЗАРОДЗЕ** (заводзе), **ДАКРЗАЦЬ** (даказаць)... Усіх пашкоджаных слоў і не пералічыш.

Настойліва раім вам, т. Шляфер, больш



сачыць за граматнасцю газеты, больш думаць над загалоўкамі. Дайце магчымасць калгасніку зразумець тое, што вы пішаце ў газеце.

## Не гаварыце незразумела

У Рагачоўскім **«Комунары»** 30 чэрвеня надрукован артыкул пад назвай «За пролетарскі інтэрнацыяналізм». Тэма сур'ёзная. Вось і рашылі работнікі «Комунара»—калі артыкул такі важны, то напісаць трэба яго нейк адменна. І далі волю сваёй фантазіі. Заключны сказ артыкула выглядае так:

**«Мы павінны з усёй большэвіцкай напорыстасцю заняцца пытаннем КАРЭНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСІЗАЦЫІ»**

**(Падкрэслена намі. РЭД.).**

Уяўляем, як слупянее чытач, прачытаўшы гэты сказ. І сапраўды, мусіць толькі аднаму рэдактару «Комунара» т. **Левіну** вядомы таемны сэнс выразу «карэнізацыя беларусізацыі».

Ці не работнікаў рагачоўскай газеты мела на ўвазе гераіня аднаго чэхаўскага твора, калі сказала: яны хочуць сваю адукаванасць паказаць, таму гавораць незразумела?!!





# Змест

801

*Цена 50 кап.*